УДК 821.161.3-31
ББК 84(4Беи)-44
С34

**Сіўко, Ф.**
С34 Раз — шкілет, і два — шкілет : аповесці / Франц Сіўко. — Мінск : Галіяфы, 2019. — 344 с.
ISBN 978-985-7209-23-1.

Праз асэнсаванне калізій і ўчынкаў мінулага да ўсведамлення ўласнай экзістэнцыйнай сутнасці ў дні сённяшнім — так можна вызначыць лейтматыў змешчаных у гэтым зборніку чатырох аповесцей. Аб'яднаныя агульным месцам дзеяння, займальнасцю фабулы і наяўнасцю дэтэктыўнай інтрыгі, усе яны вылучаюцца дасканаласцю моўнага складніка, вынаходлівасцю ў пабудове сюжэта, адметнасцю аўтарскага падыходу да выкарыстання сродкаў мастацкага адлюстравання падзей і характараў.

**УДК 821.161.3-31**
**ББК 84(4Беи)-44**

**ISBN 978-985-7209-23-1**

Працэдура надгляду нудотная і доўгая; здаецца, яна ніколі не скончыцца.

Мы сядзім у салоне аўто ля будана з акенцам, за якім мудруе пры экране камп’ютара разамлелы ад спёкі мытнік, назіраем, як мітусяцца ўгары, пад дахам ангара, занятыя кармленнем птушанят ластаўкі. Птушак шмат, не менш за два дзясяткі, і яны без супынку нагадваюць пра сваю прысутнасць похаплівым шорганнем крылаў ды свежымі плямамі фекаліяў на доле. Вывадак асмялелых — ніхто іх тут не чапае — зялёных яшчарак акупаваў лапік зарослае трыпутнікам сцежкі наўзбоч будана, грэецца ў промнях цяжкога, бы распалены кавалак жалеззя, ліпеньскага сонца.

Мытнікі выходзяць на двор, перагукваюцца адзін з адным паўз разнасцежаныя дзверы, ды таўсматая постаць прыбіральшчыцы мільгне раз-пораз перад вачамі і знікне за рогам скрыні для смецця.

Шпацыраваць па пляцы пры будане не забаронена, але ніводзін з нас вылазіць з салона не жадае: занадта горача.

Мытня. Пік лета. Поўдзень.

У памяшканнях, відаць па ўсім, ідзе рамонт. Гэта надае дзеянням памежнікаў адценне несур'ёзнасці, нават камічнасці. Асабліва калі чарговы раз ляпаюць дзверы і замест доўгачаканага службоўца з паперамі з'яўляецца ў праёме ўсё тая ж цётка-прыбіральшчыца са швабраю ў руцэ. Выбух нашага нервовага смеху, што суправаджае яе з'яўленне, разносіцца рэхам па будынку, тоне ў падстрэшшы.

І вось зноў ціха. Ні гуку, ні подыху ветру, толькі бачна, як у вузкім пераходзе паміж службовымі пакоямі лянiва сваволіць з папяровым друзам — то ўздыме яго ўгору, то зноў апусціць на дол — слабы скразнячок.

У салоне цеснавата, і гэта найбольшая нязручнасць. Варта аднаму з нас варухнуцца, як тае ж хвіліны пачынаюць варушыцца астатнія. Не менш даймае гарачыня. Ледзь прыхінешся плячыма да спінкі сядзення — і яны тут жа вільгатнеюць, робяцца ліпкімі, бы сукевцці смолкі ў букеце кіроўцы над бардачком.

Нас пяцёра, усе, казаў той, пры целе. А хто-ніхто, як, напрыклад, кіраўнік нашай дэлегацыі Зяменя — мы едзем у латвійскі Т. на ўрачыстасці з нагоды юбілею горада-пабраціма, — і апрануты, нягледзячы на спёку, далёка не па-летняму. Асабліва непрыемна адчуваць дотык чужога ўспацелага цела, ад якога тваё ўласнае ўвобміг напружваецца, выдае хвалю дрыжыкаў.

Не грэбуюць магчымасцю падпсаваць вандроўнікам настрой і камары. Месца хмызістае, аўто стаіць у цяні, і крывасмокі жывасілам лезуць у яго, цісноцца пад каў-

нер, у рукавы кашулі, у калашыны штаноў. Дык адно і пільнуйся, каб не спляміць вопраткі кропляю ўласнае крыві, заспеўшы нахабу на месцы злачынства ды квэцнуўшы па ім як след даланёю.

— Вось, а яшчэ шкадавалі, што шорты не апранулі, — кажа Зяменя і млява ўсміхаецца. — Паглядзеў бы я на вашы скрываўленыя лыткі…

Мытнік за шкляною перагародкаю нарэшце адрывае вочы ад экрана камп’ютара, абводзіць нас па чарзе ўніклівым паглядам, што неяк зусім не пасуе да яго пакамечанага, бы з бадуна, твару. Аддае Зяменю пашпарты з дэкларацыямі, дакранаецца рукою да чырвона-бела-чырвонага паска на грудзіне:

— Шчаслівай дарогі!

— Ужо? — быццам не верачы, што ўсё скончылася, кажа кіроўца і зачыняе дзверкі машыны.

Аўто памалу вырульвае на шашу і адразу ж (мы ўжо спазняемся: а пятнаццатай першая імпрэза, а нам яшчэ ехаць да Т. ды ехаць) набірае хуткасць. Багажнік чорнай “бээмвэшкі”, што імчыць перад намі, чамусьці незачынены, з яго вытыркаецца, целяпаецца на ветры ашмётак цэлафаніны.

Мясціны знаёмыя мне з дзяцінства, з часоў, калі мяжы тут і блізка не было, і я з цікавасцю ўзіраюся ў краявіды, не бачаныя без малога пятнаццаць год, ад паховінаў дзядзькі Міхала, матчынага брата.

Калісьці бухмата-ўраджайныя, а зараз спрэс зарослыя дзікім лубінам і цімафееўкай палі ўсцяж дарогі пераліваюцца морам фарбаў-адценняў. Гравійкі, адна з якіх вядзе акурат да кута па той бок ракі, дзе я нарадзіўся, вузкімі віхлястымі атожылкамі разбягаюцца ад шашы ва ўсе бакі, хаваюцца пад шатамі старадрэвінаў.

— Эўропа! — наўмысна “пад тарашкевіцу” выгукае Зяменя і яшчэ больш моршчыць і без таго пасечаны зморшчынамі лоб. Ён ад раніцы, ад тае хвіліны, як ад’ехалі з дому, раз-пораз заводзіць гаворку наконт не так даўняга ўступу суседзяў у Еўразвяз, і кепскі яго настрой, узмоцнены ўтомным чаканнем на мытні ды нашаю маўкліва-зацятаю няўвагаю да ягоных глыбакадумных высноваў, усё горшае і горшае. — От і няхай! Не хацелі з намі ў хаўрусе быць, то няхай ведаюць… Саюз ім воўкам, бач ты, смярдзеў… Ну дык і хай жа во цяпер з *гэнымі* паспрабуюць! Яшчэ пашкадуюць, паглядзіце, зноў у сябры да нас папросяцца!

Першае пасля мяжы паселішча вымыкаецца з-за павароту нечакана, я ледзь-ледзь паспяваю ўгледзець на ўказальніку знаёмы назоў: Murovanka. І ён, гэты назоў, — ці не адзінае, здаецца, што не змянілася ад даўнейшых часоў, бо сама вёска зусім не нагадвае тую, якую я памятаю. Так бывае, калі нечспадзеўна спаткаешся дзе-небудзь у незнаёмым месцы з колішнім знаёмцам, а год прамінула столькі ад вашае апошняе сустрэчы, што не адразу і сцяміш, ці то чалавек перад табою, ці то ўсяго толькі ягоны прывід.

Кіроўца суцішвае хуткасць, аўто памалу цягнецца ўздоўж хат.

Хаты не менш, калі не больш недагледжаныя, як па той бок мяжы. Пакрыўленыя платы абапал панадворкаў, запалыя аканіцы з няпэўнага колеру ліштвой, пашэрханыя сцены. Пасярод вёскі ўзвышаецца-чарнее на месцы хаты рымара Ванагіса комін з паўразбуранай печчу — усё, што засталося ад жытла пасля таго, як яго разабралі. Разабралі, хутчэй за ўсё, на дровы, пра што сведчаць колькі ўрослых у траву

на спажыву непагадзі спарахнелых бэлек уперамешку з гурбаю дошак-шалёвак.

Комін, ды печ, ды пара паўздзічэлых прысадзістых яблынь — усё, што нагадвае некалі спраўную сядзібу з добрым тузінам вулляў пад ліпняком і плоймаю нарыхтовак для хамутоў-падсядзёлкаў на дзядзінчыку перад клецццю. Ды яшчэ не зарослая дарэшты сцежка, што вядзе да азярка, на краі якога ніцее пасярод паўвыспы з маладзенькага альхоўя купка вішняў з абдзёртымі камлямі. Таго самага, у якім мы з сябруком Тонікам аднойчы пакупаліся па дарозе з крамы ды і падчапілі нейкую трасцу і потым доўга, ці не з месяц цягаліся да фельчара ў спадзеве як найхутчэй пазбавіцца каросллівых плямаў пад пахамі і на спінах.

— От і няхай, — кажа Зяменя і задаволена ляпае сябе далонямі па каленях. — І няхай жа ж…

Рудое кацяня са збадзянаю на спіне поўсцю вылазіць з рымаравага падпечка, пужліва азіраецца наўкола, соладка пацягваецца. Другое, крыху большае і больш жвавае, высоўвае пысу з акантаванага дошчачкамі лазу, выкульваецца ў траву следам за першым, паважнаю спарудай застывае побач.

Кіроўца сігналіць, і абодва каты, напалоханыя знячэўным гукам, уздымаюць хвасты, порстка шмыгаюць зноў у падпечак. Усё адбываецца так хутка, што нагадвае змену кадраў пры перамотцы касеты: адно імгненне, адзін узмах хваста, былі — і няма.

Я азіраюся ў надзеі, што каты, можа, зноў вылезуць са схову, але дарэмна. Падпечак хаваецца ў засені парэчніку, паволі сплывае з вачэй разам з комінам. Я сілюся ўявіць яго чэрава, і яшчэ адзін малюнак, цяпер ужо больш як саракагадовае даўніны — мне ледзь споўнілася тады восем — усплывае ў маёй памяці.

Усплывае амаль імгненна: што-што, а гэтае месца ў вясковай хаце, падпечак, я памятаю добра. Так добра, што нават, здаецца мне, і зараз, седзячы пры шыбіне найсучаснейшага аўто, чую яго спецыфічны, рэзкаваты пах. Пах пер'я ды акамянелых, шорсткіх навобмацак курыных — не фекаліяў ці экскрэментаў, такіх вучоных словаў мы, мурзатыя спадкаемцы найпатомнейшых сялянаў, не ведалі, — калткоў…

*Дзень і на палову яшчэ не паспеў перакуліць, а ў кухні ўжо цемнавата, бы ўвечары. Вецер без супынку раве на дварэ, то грукнецца ў дзверы сяней, то шпурне ў акно жменю крупак-градзінаў, то пужне кароткім злым ударам па сцяне, ад якога ўся хата скаланецца, а бэлькі пад шпалераю зойдуцца роспачлівым енкам. А то раптам зусім сціхне, быццам знарок замрэ, каб даць хвіліну-другую Ларысцы павохкаць, мне — тое вохканне як лепей пачуць.*

*Вохканне — пра адно і тое ж, не вохканне, а заезджаная кружэлка. Толькі Ларыска растуліць вусны, а я ўжо ведаю, што з тых вузенькіх, падфарбаваных матчыным алоўкам шчэлачак-вуснаў вымкнецца:*

*— Ай, вой, і дзе ж гэта ён? Ну ж бадзяжка!*

*Што я чую яе з падпечка і праз тое раблюся сведкам яе перажыванняў, сястру, здаецца, ані не турбуе.*

*Ён — практыкант-“заўцехнік” Вася, студэнт ветінстытута, абаяльны шатэнчык з параю ранніх залысінаў на лобе і тампонам у левым вуху, які ён не вымае адтуль — хранічны атыт — амаль ад дня свайго прыезду.*

*Вася кватаруе ў бабулі майго дружбака Тоніка і штодня прыходзіць да нас, дакладней, да Ларыскі.*

*Сястра сустракае яго вясёлым смехам, яны зачыняюцца ў пакоі і сядзяць гэтак удваіх колькі гадзін. Чым яны там займаюцца, я не ведаю. Ды не пацеры, пэўна ж, адмаўляюць: смех, што даносіцца з пакоя, на такую сур'ёзную справу не паказвае. Вясёлы вэрхал за сцяною час ад часу змяняецца цішай, што ці то незнарок, ці то, наадварот, наўмысна супадае з ацішаннем ветру на дварэ, і тады здаецца, што ў тым пакоі наогул нікога няма.*

*Вася — першы студэнт, які ашчаслівіў нашу глухамань сваім прыездам. І сямнаццацігадовая Ларыска, якая дагэтуль студэнтаў ніколі не бачыла, штодня ад раніцы чакае ягоных візітаў. А калі ён доўга не прыходзіць, нервуецца так, што пачынае рабіць розныя глупствы. Неабыякавага да сястры Тоніка ўсё гэта вельмі злуе.*

*Адзіны з дарослых, каму не даспадобы студэнтавы візіты, — наш бацька. Сам чалавек зацяты, ён лічыць практыканта занадта ўжо ўвішным у стасунках з людзьмі. "Далёка пойдзе", — кажа, і вырак той гучыць як найвышэйшая ступень асуджэння найгоршай з чалавечых заганаў.*

*Маці заступаецца за Васю, бо лічыць, што гэта — звычайная зайздрасць сталага чалавека да больш паспяховага маладога. І, бадай, мае рацыю: бацька сам калісьці, пры Польшчы, меў намер вучыцца на ветэрынара, і сям'я нібыта сабрала ўжо грошы на вучобу, як увадначас парушыліся ўсе тыя амбітныя планы прыходам Саветаў.*

*На дварэ сквар, у хаце паўпрыцемак, у падпечак урэшце прабіваецца, прасіціўшыся праз шчэлку ў пласце таўшчэзнай наледзі на шыбіне, хісткі сонечны прамень. Ён такі кволы, што я баюся дыхнуць: а раптам*

*ён знікне? Час ад часу прамень перамяняецца ў цьмяны пасак, і тады ўсё наўкола таксама ўвобміг цьмянее, вузее, але адначасна робіцца ад таго яшчэ больш утульным.*

*У падпечку цёпла, пахне сажаю і курынымі спражненнямі-калткамі. Уласна, дзеля іх, калткоў, я ў тое падпечча і палез. Надоечы чуў, як цётка Адальфіна, Тонікава матка, жалілася маёй, што аніяк не можа саўладаць са злыдушнаю звычкаю сына браць іх у рот, і вырашыў сам паспытаць тое "смачноцце" на зуб.*

*Усохлы, шэры, як агарак на кончыку бацькавай папяросіны, калток аддае серкаю. Гэтага дастаткова, каб спыніць даследзіны: маці ледзь не штодня перасцерагае мяне, баронь бог, не смактаць запалкі, бо "вунь адзін пасмактаў і атруціўся серкаю, сканаў".*

*Ці праўду яна кажа, ці не (можа, проста палохае), я не ведаю. Але страх сканаць у цёмным, прапахлым цвіллю і курынымі пёрамі падпечку перасільвае цікаўнасць. Канаць мне не хочацца. Я ўжо аднойчы бачыў, як канае чалавек, — відовішча не з прыемных. Да таго ж і бацька з маці вось-вось павінны вярнуцца з Т. з кірмашу, і што будзе, як заспеюць за гэткім саромным заняткам?*

*Сястра каторы раз за апошнія паўгадзіны высоўваецца са свайго пакоя, качынаю — нясклёпа! — хадою набліжаецца да печы. Дзве крывыя, як камлі арэшын-спарышоў у загуменні, нагі засланяюць і без таго скупы прамень, спыняюцца насупраць лаза.*

*— Ясі? Скажу маме. — Голас яе абыякавы і, як заўжды, насмешлівы. Камлі зрушваюцца з месца, павольна знікаюць, але праз колькі хвілін з'яўляюцца зноў.*

*— Сябрук твой, Тонічак, цягнецца, от ужо ўдвух курынага гаўна наясцёся!*

*Дзверы ляпаюць, уваходзіць Тонік. Ягоная грывастая галава ўсоўваецца ў лаз, і мне нічога не застаецца, як даць яму месца побач. Прызнавацца, чаму я ў падпечку, мне не хочацца, я ўтрапёна, аж да рэзі ўваччу, разглядаю патрушчаную шкарлупіну ад яйка, што нейкім цудам пазбегла курынае дзюбы і цяпер сіратліва боўтаецца ў куце на танюткай — і як дае рады ўтрымацца на ёй? — павуцініне.*

*— Каштаваў? — Тонікаў голас гучыць даверліва і разам з тым занадта гучна, каб яго не пачула сястра.*

*— Каштаваў, а як жа, — падае яна голас і здзекліва смяецца. — Але ж і смачна! Праўда?*

*— А ты адкуль ведаеш? — пераймаю я. — Ела?*

*— Вось яшчэ напрыдумляў! — Сястра абражана фыркае, цягнецца ў пакой.*

*— Тонюсь, Вася дома? — крычыць неўзабаве праз дзверы, і голас яе трымціць, як стомлены абрыдлым вісеннем праз усю зіму ліст на бэзіне пры акне.*

*— Дома! — крычыць у адказ Тонік і тут жа амаль, размораны цеплынёй, засынае.*

*Я мкнуся перапаўзці праз ягонае нерухомае цела, але няўдала. Тонік прачынаецца ад майго дотыку, чапляецца спрасонку за руку, прыцягвае да сябе. Целы нашы судакранаюцца, і я чую ягонае няроўнае — няйначай, прастуда, — перарывістае дыханне.*

*— Зэ-энік… — кажа ён і яшчэ мацней прытуляецца да мяне. Я разумею, што ён трызніць, і колькі хвілін ляжу нерухома побач.*

*Зэнік — малодшы Тонікаў брат, два гады таму ён памёр, не даўшы рады выкараскацца з нейкай рэдкай сардэчнай хваробы.*

*Я ляжу побач з Тонікам яшчэ колькі часу, а як толькі заўважаю, што ягонае цела мякчэе, паціху вызваляюся*

*з абдоймаў, сунуся па каляным, бы грудок пасля аблівахі, доле да лаза.*

*Мяне нясцерпна, да свербу ў грудзях, вабіць маціца над бацькоўскім ложкам за перабойкаю. Я прабіраюся ціхутка за перабойку, ускокваю на ложак, трапляючы раз-пораз даланёй у павуціну, шнару рукою па шчэлцы паміж маціцай і столлю.*

*Сетка ложка занадта тугая, так і спружыніць пад нагамі, пагражае скінуць мяне на падлогу. Ад хвалявання ды страху, што ўвойдзе ды заспее мяне тут, пры такой справе, сястра, цела маё ахопліваюць дрыжыкі. Як на тое, парушыніна адрываецца ад падстолля, гайдаецца, матляецца перад вачыма, замінае пошукам.*

*Гумкі на месцы, але ўжо іх не чатыры, як заўчора, а толькі тры. Знікненне адной мне незразумелае. Як незразумелае, папраўдзе, і прызначэнне тых гумак наогул. Я бяру адну, надрываю, як і мінулы раз, абгортку.*

*Тугое колка абапал гумкі нагадвае абручык матчыных пяльцаў, толькі шматкроць меншы. Сама гумка гладкая, з рудаватым адценнем. Мне чамусьці прыходзіць у галаў думка ўздзець яе на цвічок збоч маціцы. Але гумка такая далікатная, такая тонкая, што мне робіцца яе шкада. Я вымаю са шпалерыны голку, якою маці звычайна зашывае бэбахі, асцярожна пракалваю гумку пасярэдзіне. Затым хуценька кладу яе на ранейшае месца на маціцы.*

*Голка выслізгвае з маіх рук, з глухім шорганнем падае ў пройміну між сцяною і ложкам. Я саскокваю на падлогу, сунуся да падпечка.*

*Мне крыху не па сабе, здаецца, што я зрабіў штосьці вельмі кепскае. Я хачу вярнуцца зноў да ложка, каб узяць папсаваную гумку, але згадка, што бацька,*

*мабыць, напярэдадні іх усе палічыў (з тыдзень таму я якраз выпадкова заспеў яго за гэткім заняткам), спыняе мяне.*

*Тонік усё яшчэ спіць, гэта мяне супакойвае. Да таго ж знадворку чуюцца крокі.*

*Практыкант Вася ўваходзіць у хату, дае “дзень добры”. Ларыска выбягае на ягоны голас, удае ні то радасць, ні то здзіўленне, перарывіста, з прыдыхам хіхікае.*

*— Брат дома? — пытаецца Вася і праз хвіліну — мабыць, Ларыска паказала жэстам, дзе мы з Тонікам, — зазірае ў падпечак. — Паснулі, — кажа і сунецца следам за сястрою ў яе пакой.*

*Ціша, што ўсталёўваецца ў пакоі адразу ж, як толькі зачыняюцца за імі дзверы, здаецца мне падазронаю. Зрэшты, і ўчора, і заўчора было гэтаксама, але ж нічога благога там не здарылася. Абодва выйшлі з пакоя расчырванелыя, але задаволеныя, ні намёку на нейкае непаразуменне.*

*Я ўладкоўваюся на доле побач з Тонікам. І толькі пачынаю засынаць, як Вася выходзіць з пакоя сястры, накіроўваецца за перабойку.*

*Я чую, як рыпяць пад ягонымі нагамі маснічыны падлогі, праз хвілю-другую, угінаючыся, — спружыны ложка. Як ён сапе, шнарыць рукамі па падстоллі, як урэшце саскоквае з ложка і крадзецца зноў у Ларысчын пакой. Я кладуся побач з Тонікам і, злагоджаны цеплынёй, што зыходзіць ад сябравага цела, ды стомлены прыгодаю з гумкаю, імгненна засынаю.*

*Будзіць мяне голас бацькі. Я падымаю галаў і бачу пад сталом наўскос лаза яго валёнкі ў галёшах з разводамі ні то снегу, ні то солі на насах.*

*— О-от яны, гэтыя Саветы, — кажа ён і казыча даланёю нагу ніжэй калена. — Абы горш чалавеку зрабіць, абы горш…*

*Саветы — яго ўлюбёная тэма, я яшчэ не разумею, што гэта такое, ды і іншы клопат наўме: каб жа Ларыска не вымкнулася, не прагаварылася пра курыныя калты.*

*Лёгкая на ўспамін, сястра ўсоўвае голаў у лаз.*

*— Ну, выспаліся, калтаеды? — кажа і матляе перад нашымі з Тонікам спэцканымі сажаю насамі гасцінцам ад дзядзькі Міхала і цёткі Шуры — пакункам цукерак “Кароўка” і дыхтоўнаю кніжкай з выяваю нясветнае прыгажосці палаца на вокладцы.*

*— Пушкин… Ска-зки… сказ-ки, — чытае Тонік (я яшчэ не ўмею) і, прыўзняўшыся на жываце, выхоплівае кніжку з Ларысчыных рук.*

*— Штосьці практыканта вашага сёння не бачна, — кажа яна і хітра — ліска дый годзе — пасміхаецца.*

*Што смех той — дачасны, смех — прадвесце драмы, ні сама яна, ні хто з нас яшчэ не ведае.*

*Кепскую навіну прыносіць Вася. Кепскую — для Ларыскі, бо выгляд самога практыканта на няшчаснага не выдае. Наадварот, ён ужо думкамі, здаецца, увесь у сваім горадзе. Тэрмін практыкі скончыўся, заўтра ён, злёгку рассыцелы на вясковым харчы, ад’язджае.*

*Ларыска сядзіць моўчкі насупраць яго, але не плача: маці ў хаце, і паказваць свой адчай ніяк не выпадае. Яна сядзіць немаю зданню пры стале, слухае, як Вася апавядае пра гарадскія норавы. Слухае ды кусае ў роспачы вусны. І толькі калі Вася падымаецца, каб пайсці, не вытрымлівае, ускоквае з месца, кідаецца следам за ім на двор.*

*— Што гэта з дзеўкаю? — дзівіцца маці і хітае галавой. — Га?*

*Яна глядзіць на мяне, быццам чакае падказкі, што тут да чаго, але я маўчу. Мне шкада сястру, ды і таямніцу яе выдаваць не хочацца.*

*— Закахалася, можа? Дурнічка! Трэба нам гэткі… усходнік!*

*Усходнік для маці — ці не горш за лаянку, усходнікаў яна не любіць ад таго часу, як раскулачылі перад вайною, пры першых Саветах, і звезлі некуды за Урал яе бацьку, майго дзеда.*

*— Знайшла кавалера! Лоб, бы калена, і вушы тырчком… Нашы мальцы не горшыя. Ані.*

*Ларыска вяртаецца з двара, ідзе ў свой пакой. Яе плечы паныла ўздрыгваюць у такт крокам, а таўстыя, з плямамі ад прадаўніх фурункулаў лыткі выдаюць яшчэ больш крывымі, як звычайна.*

*Што з сястрою нешта не так, я здагадваюся, ды не больш за тое: маці маўчыць, маўчыць і сама Ларыска. Нават прыезд дзядзькі Міхала, які жыве ў Т. і заўжды прывозіць нам з сабою безліч цацак і ласункаў, гэтым разам ні ў кога не выклікае энтузіязму.*

*Дзядзька робіць на фабрыцы, дзе толькі што распачалі выпуск нейкіх штучных нітак, і любіць пахваліцца, як там, на той фабрыцы, усё гожа ўладкавана. У фабрычнай краме ўсяго-ўсяго, а ў сталоўцы нават каньяку можна хапіць дзеля гумору падчас абедзеннага перапынку або пасля змены. І ўсё танна, усё можна прыдбаць за капейкі. І наогул, калі верыць яму (а мы верым, канешне), усё ў Т. і яго ваколіцах лепей, як у нас. Смачнейшы хлеб, раўнейшыя дарогі, і соткі штогоду ніхто не перамервае, і быдла мож-*

*на на вёсцы гадаваць колькі заўгодна, мелася б толькі ў чалавека ахвота.*

*— Нават каньяку, бач ты, — з недаверам у голасе кажа маці і сунецца ў істопку па чарговую бутэльку гарэлкі.*

*Мужчыны выпіваюць, бацька ўздыхае, ідзе на двор дарабляць шула для лазні, што распачаў месяц таму і ўсё ніяк не давядзе да ладу, бо раптам усхапіўся маразяка і на дварэ зрабілася вельмі сцюдзёна.*

*Дзядзька дастае з кішэні жмут грошай, кладзе на стол.*

*— Колькі здолееш узяць у жменю, — усё тваё, Анэлька.*

*— Ай, не дурніся, братка! — адмахваецца маці. — Нябось скраў у Шуры…*

*— Ага, у Шуры скрадзеш! — кажа ён і сіллю ўпіхвае маці ў далонь колькі паперчын. — Не скраў, сястрыца, зарабіў, вось гэтымі рукамі. Так што бяры, не саромейся… Дасць Бог, калі-небудзь мяне выручыш.*

*Такая сцэна паўтараецца з прыезду ў прыезд і сканчваецца звычайна тым, што грошы застаюцца ў маці. Дзядзька — шчодры, і мы ўсе яго за гэта, вядома ж, любім.*

*Дзядзьку падабаецца роля настаўніка, ён вучыць нас з сястрою латышскім словам. І хоць набор іх у нашым лексіконе яшчэ зусім невялікі, як будзе “па-іхняму” певень, або крама, або малако, мы ўжо ведаем.*

*Гэтым разам урок, аднак, больш складаны, як звычайна.*

*— Kas jauns? — заклапочаны паныласцю на нашых тварах, кажа дзядзька і натыкаецца на сумны, з дамешкам дакору, пагляд маці.*

*— Кінь ты, Міхал, мудрагеліць, — адзываецца яна і кідае ў печ палена. — Кажы па-чалавечы.*

*— Што новага ў вас? — перамлумачвае ён пытанне і абводзіць усіх нас па чарзе дапытлівым позіркам. — Чаму такія сумныя? Здарылася што?*

*Маці падхоплівае яго пад руку, шэпча штосьці ў вуха, цягне ў сені, адтуль — чуваць, як ляпаюць дзверы, — на двор.*

*Вяртаецца маці адна і не хутка, блізу праз паўгадзіны. Загадвае мне выйсці, а сама, ледзь паспяваю я ўзяцца за клямку дзверыны, падсаджваецца да Ларыскі. Пра што яны гамоняць, я не ведаю, хоць і здагадваюся, што вырашаецца нешта важнае.*

*Бацька мудруе на трасотніку з шулам, дзядзька Міхал сядзіць побач на гурбіне апалкаў і заўзята, ажно торгаюцца цяглiцы пераносся, курыць. Убачыўшы мяне, мужчыны імгненна сціхаюць.*

*— А як усохне тваё шула, тады што? — кажа па невялікай паўзе дзядзька і дакранаецца да на трацiну выдзеўбанай бэльчыны рукою. — Можа такое здарыцца?*

*— Канешне, можа, — адказвае бацька. — Асабліва, як шула і бэлькі сцяны не аднае пароды. Тады — дрэнь справа. Як ні круці, а чужое з чужым кепска зжываецца… То важна, каб бэлькі пасавалі ў вянцах да шула. Бэльчыну падгоніш як след да паза, і ніякая ўсушка тады не страшная. — Ён кідае сякеру, садзіцца побач з дзядзькам, таксама закурвае. — Шула — гэта ого, усёй будыніны трымач, без яго любое што да часу гахне…*

*Шула амаль гатовае, але вяртацца ў хату, дзе спеевыспявае штосьці нядобрае, ні адзін, ні другі не спяшаюцца. І я сунуся дамоў адзін.*

*Сястра ўжо не плача, толькі зрэдку, як маці адварочваецца, каб зірнуць у печ, паціху румзае.*

*Мужчыны ўваходзяць у хату, уладкоўваюцца ля стала.*

*— О, Т.! — кажа з пафасам, скрозь які прабіваецца ніякаватасць, дзядзька Міхал і па чарзе нам усім падміргвае. — Такі горад… самі паглядзіце!*

*Ён адшморгвае фіранку, узіраецца ў прыцемак за акном. Затым загадвае мне апрануцца, ідзе да дзвярэй.*

*— Куды гэта? — пытаецца маці.*

*— Пакажу хлопцу сёе-тое, — адказвае ён і вабіць мяне за сабою.*

*Тонік, які ўвесь гэты час, аказваецца, віжаваў за намі на двары з-за клеці, вымыкаецца са схову, далучаецца да нас.*

*Мы сядзім на руінах былога сядзібнага дома, глядзім, як міргаюць фарамі па зарэччы, на латвійскім баку, машыны. Сядзім доўга, не зважаючы на сцюжу. Сузіранне цуду, што дзеецца ўдалечыні, так захоплівае нас, што мы забываемся і на халадэчу, і на час.*

*Урэшце дзядзька падымаецца.*

*— Ну, хопіць… Вось падрасцяце, прыедзеце ў Т. вучыцца ці працаваць, пабачыце ўсё самі, — кажа і падчэплівае носам чаравіка аскепак кафлі, што застаўся ад збуранай не так даўно панскай печы. — Там жытка — не тое што тут. А чалавеку што трэба? Рыбіна дзе глыбей шукае, чалавек — дзе лепш, чулі такі выраз? Ад Інаркі вам, дарэчы, кавалеры, абодвум прывітанне, ад Рэні таксама.*

*Інарка — дачка дзядзькі Міхала і цёткі Шуры, мая стрыечная сястра. Рэня — Інарчына суседка, Міхалава і Шурына хрэсніца, яе мы з Тонікам дружна не-*

*далюбліваем за пагарду да нас ды за тое, што кпіць з нашай мовы. Абедзве прыязджалі да нас улетку і ўнеслі ў нашае ціхаплыннае вясковае існаванне тузін прыгодаў.*

*— Ну, хадзем ужо адсюль, а то матка абшукаецца, — кажа дзядзька і прастуе да хаты.*

*Ён ідзе прыгнуўшыся, быццам баіцца ўпасці, і ягоная прыбітая нейкім цяжкім одумам — ці не з-за Ларыскі — пастава на фоне высозных тапаляў здаецца нам з Тонікам нават меншаю за нашы ўласныя.*

*Я азіраюся наастатак: прыгожае чорнае аўто весела — шчаслівае, кіруе ў Т. — міргае мне з зарэчча параю жоўтых, як кропачкі светлякоў, фараў, знікае па-за сумётамі.*

*У Т. з дзядзькам Міхалам едуць маці і Ларыска. Дзядзька замаўляе слова і за мяне, ды маці супраць: замалы, маўляў, няма чаго блытацца пад нагамі. Адзінае, на што яна згаджаецца, дык гэта на тое, каб я праводзіў тройцу разам з бацькам і Тонікам на падводзе пад цягнік.*

*Праводзіны маркотныя і занадта даўгія. Цягнік спазняецца, і мы па чарзе грэемся — амаль вясна, але мароз пад дваццаць градусаў — пры шчытку ў маленькім, вузкім, бы перадлазнік, пакойчыку касіркі. За краткамі пад шчытком порстка паходжваюць, па чарзе высоўваюць вонкі паўз загародку галовы шэры певень і белая курыца.*

*— Во дзе выгода вам была б, хлопцы, — кажа Ларыска, і твар яе, дагэтуль сумны і абыякавы, ненадоўга весялее. — От бы ўжо вы тут пад'елі…*

*Дзяцюк у кажуху ўваходзіць у пакойчык, кідае на падлогу бярэма дроў, скоса глядзіць на гаспадыню.*

*— Заўжды ў цябе тлум, Салюнька, — кажа незадаволеным голасам і прыхінаецца плячом да шчытка. — Любіш ты кумпанію, ох, любіш…*

*Касірка падымае голаў ад квіткоў, адорвае мужчыну даўгім паглядам.*

*— А ты ўжо не дачакаешся, — прамаўляе сцішана, і інтанацыя яе голасу здаецца мне вельмі падобнай да Ларысчынай, калі яна сустракала Васю.*

*Здалёку адзываецца гудком цягнік, маці стукае ў шыбіну, кліча нас на двор.*

*Ларыска зноў сумная, відаць па ўсім, вандроўка ёй не да душы.*

*Мы з Тонікам падаем ім валізы, трымаючыся падалей ад рэек, сунемся да падводы, дзе чакае бацька. Там жа, ля падводы, таўчэцца дзяцюк у кажуху. Ён па чарзе рукаецца з намі на развітанне, юрлівым ценем шмыгае ў пакой касіркі.*

*Вяртаюцца яны праз чатыры дні. Маці адразу ж укладвае Ларыску ў ложак і ўвесь час, што тая ляжыць, завіхаецца побач. Сястры кепска, маці кажа — прастудзілася. Але дзеля чаго тады ўсе гэтыя перавязкі, чаму бінты чырвоныя ад крыві? Стос бінтоў на шуфлядзе пры ложку штораразу заўважна танее, прытарнаваты пах лекаў пануе ў хаце. Тонік прыходзіць распытаць, што і як было ў Т., але маці тут жа, амаль з сяней, гоніць яго прэч.*

*— Няма чаго валэндацца, —- кажа і зашчэплівае дзверы на засоўку. — Гэта ж людзі: абы што трапіла на вочы ці ў вушы, так і панясуць па наваколлі. Каму чужое баліць…*

*Бацька тэпае па хаце са сціснутымі кулакамі, разпораз выходзіць у істопку пакурыць і разам паглядзець*

*сваю шулу, што падсыхае каторы дзень пад столлю над шчыткам.*

*Я падыходжу да ложка, каб загаварыць з Ларыскаю, але яна мяне не пазнае.*

*— Бач, як растрэсла дзяўчыну ў цягніку, — кажа маці і гучна, наўзрыд, плача. — Т. гэты, паскудства…*

*Бацька кажа, што, мабыць, варта прывезці да хворай фельчара, і ўжо ўсцягвае на ногі валёнкі, каб ісці да фермы па каня, але запозна. Ларыска ўскідвае ўгору збялелую руку, пачынае трызніць. Што яна кажа, не зразумець. Голас яе слабее, слабее і ўрэшце зусім аціхае. Маці торкае ў далонь сястры запаленую свечку, кліча мяне да ложка. Але страх скоўвае мяне.*

*Я баюся зірнуць на Ларыску, баюся матчынага роспачлівага енку, баюся бацькавага цяжкога позірку. Баюся ўсяго, што гэтак неспадзявана ўварвалася ў нашае, дагэтуль такое ціхамірнае, жыццё.*

*Бацька абхоплівае мяне за плечы, але я вырываюся, кідаюся стрымгалоў да лаза ў падпечак.*

*Вымеценая разам са смеццем у падпечак голка (ці не тая самая!) вымыкаецца з кучы, балюча джаліць мяне ў пяту.*

*Бацька выходзіць з хаты і вельмі хутка вяртаецца ўдваіх з цёткаю Адальфінай. Следам за імі цягнецца, шоргае валёнкамі па падлозе Тонік. Я падаю яму знак, каб ішоў да мяне, і ён лезе ў падпечча.*

*Я чую, як бацька садзіцца на зэдаль ля стала, бачу насы ягоных валёнак, і мне робіцца не па сабе — акурат як тады, калі яны вярнуліся з маці з кірмашу, а я шнарыў перад тым па падстоллі ў пошуку гумак.*

*Маленькі, амаль бязважкі аскепак гліны зрываецца са столі падпечка мне на далонь, але я нават*

*не мануся яго скінуць. Доўга-доўга, аж пакуль ён не пера-мяняецца ў маіх змучаных глуздах у папсаваную, пра-цятую голкаю гумку, гляджу на яго, павольна ўздымаю ўгору руку, вяртаю на ранейшае месца. Ён вісіць колькі хвілін на належным месцы і зноў, ледзь я паспяваю збольшага супакоіцца, падае на дол.*

Імпрэза ў поўным разгары, у зале горача, як у лазні. Па манеры трымацца, па адрэпетавана-раскаванай — вольны свет, Т. нядаўна стаў яго часткаю — усмешцы жанчыны за трыбунаю ад першае хвіліны няцяжка здагадацца, што роля галоўнай, якую яна ці то сама-хоць, ці то паводле службовага абавязку (хутчэй за ўсё, апошняе) узяла на сябе, для яе звыклая і зусім не непрыемная. Ва ўсялякім разе яна так добра арыенту-ецца ў неабдымнай прасторы памяшкання, што, уба-чыўшы мой разгублены пагляд, якім я акідваю залу ў пошуку вольнага месца, тут жа паказвае мне яго ледзь улоўным жэстам у другім радзе, побач з групаю інша-земцаў, ці то кітайцаў, ці то карэйцаў.

Маладзён з азіяцкім разрэзам вачэй і слухаўкамі на цемі ветліва падкурчвае пад сябе ногі, дае мне прай-сці. Другі гэтак жа ветліва прымае з вольнага сядзення тэчку з праспектамі, паважліва хітае галавой, штосьці кажа па-свойму.

Палова чацвертай, я, канешне ж, спазніўся. Зала прытомлена гудзе ў такт словам мэра, з фае даносіцца звон посуду: праз чвэрць гадзіны перапынак на каву. Наша гід Жана, маладзічка з блакітнымі вачыма і па-дазрона наскімі абрысамі твару, не вытручанымі да-рэшты адукацыяй ды колькігадовым бліжнезамежніц-твам, адорвае мяне са свайго прыстаўнога крэсла ў пра-ходзе прыязнаю ўсмешкай.

Мяркуючы па ўзнёсласці прамовы ды па доўгай стужцы хлапцоў і дзяўчат з букетамі, што па чарзе прэзентуюць тыя букеты людзям на першым радзе, ідзе ўшанаванне ветэранаў. Прамаўляецца ўсё па-латышску, слухавак не хапае, таму зразумець дакладна, што дзеецца на подыуме і побач з ім, немагчыма. Я нахіляюся да Жаны, каб запытацца, што да чаго.

— Пасля, — адказвае яна похапліва і зноў утаропліваецца вачамі ў сцэну.

Іншаземец здымае з галавы слухаўкі, падае мне. Я хачу адмовіцца ад дарунка, але не паспяваю: зала выбухае воплескамі, усе падымаюцца. Мой сусед разводзіць рукі ўбакі, расчараваны, мусіць, што не ўдалося паслужыць такому сімпатычнаму чалавеку, як я, сціскае маю руку ніжэй локця.

— Меня зовут Чжан Ду, — кажа, старанна вымаўляючы кожнае слова. — Можно — товарищ Ду.

Бэдж з надпісам “Харбін” ніжэй імя і прозвішча матляецца на ягоных грудзях, закаваных у шырспажывецкага крою пінжак, бесцырымонна шмаргае мяне кантам па шчацэ.

Я даганяю Жану, і мы ідзем упобачкі паўз абкладзеныя тэчкамі крэслы ў фае.

— Вы не павінны былі спазняцца, — кажа яна з дакорам у голасе і спыняецца ля аднаго са сталоў. — А то гэтак і ўсё прапусціце. Што вы хацелі запытацца там, у зале?

— Наконт імпрэзы. Гэта было ўшанаванне, так?

— Ушанаванне, канешне… Хіба нельга было зразумець? Я падумала…

— Што?

Яна схіляецца над сталом з намерам выбраць да кавы штосьці з печыва.

— Так, нічога… Вы маеце праграму дня? Калі не, то вось вам. — Яна корпаецца ў тэчцы, дастае паперчыну, торкае мне ў далонь. — Дарэчы, я ваша зямлячка.

— Я здагадаўся. Адкуль вы?

— Ого, адразу вам так і скажы! Па…

Трое мужчын працiскваюцца да стала, запаўняюць ужо ладна разбухлымі ад дармовае пачосткі целамі прастору між намі. Жана перахінаецца бокам паўз іх, ледзь чутна, бязгучна амаль шэпча:

— Пацярпіце. Дарэчы, вас шукалі… Вось як: толькі прыехалі, а ўжо вас шукаюць.

— Мяне? Шукаюць? Хто?

— Жанчына, і сімпатычная. Сказала, што прыйдзе яшчэ, каб пабачыцца. Нейкая Рэгіна.

Рэгіна?!

Фае зрушваецца з месца, высвечваючы срэбрам бутэлек з півам і мінеральнаю вадой, гэтак жа імкліва, як распачало рух, спыняецца, ссяроджваецца няўцямнаабыякаваю стрэмкаю прыпаміну ў чэраве маёй прытомленай спёкай і доўгім падарожжам істоты.

*Дзень яшчэ ліпіць на тонкай павуціне апошніх жнівеньскіх прамянёў, а мы ўжо ў ложку. Мы — я і Рэгіна, за ложак нам — свежая кладня ў пуньцы.*

*Мне амаль сямнаццаць, Рэгіне — на паўдзясятка болей. Гэта надае нашым спатканням адценне нясветнае грахоўнасці. Прынамсі такімі лічыць іх (ці то ўдае, што лічыць) Рэгіна, а яе слова для мяне — што слова Бога.*

*Рэгіна — маё першае каханне, мой вядоўца ў свет таямніц дарослага жыцця. Ён, гэты свет, і прываблівае мяне, і адштурхоўвае адначасна, але першага —*

*болей, таму змаганне з яго не заўжды прывабнымі праявамі, падказвае мне інтуіцыя, не мае сэнсу. Таму я з імі надта і не змагаюся, а крочу назіркам усцяж выкрутасаў лёсу, плыву, бы спанталычаны фатальным збегам абставінаў матрос пасля таго, як патануў карабель, усё далей ды далей у няведамым — дзе ён, жаданы бераг? — кірунку.*

*На дварэ ціха, гэтаксама ціха і ў пуньцы — датуль, пакуль не адзавецца з-за сцяны (пунька — прыбудова-трысцен да хлява) хтось з быдла ці Рэгіна не пачынае шнарыць рукамі па сене.*

*— Што ты робіш?*

*— Асцюкі выбіраю, — адказвае яна і глядзіць на мяне з-пад рукі, і вочы яе загадкава паблісквäюць у паўцемры. — Мог бы дзеля нас і лепшага сена расстарацца. А так… абы-што, абы-што…*

*— Табе дагодзіш!*

*— А ты паспрабуй.*

*— Як?*

*— Казала ўжо: падвышай інтэлектуальны ўзровень. Чытаць, напрыклад, пачні. А то так і застанешся да скону вясковым невукам.*

*Яна дастае з-пад падушкі томік Велты Спаарэ, які паўсюль носіць з сабою, няйначай, дзеля дэманстрацыі нянаскага імя аўтаркі, бо кніжка даўно ўжо, здаецца, ёю прачытаная, усоўвае мне ў руку:*

*— Не Бог ведае якая цікавостка, канешне, але ж і не твой "Багроў".*

*Згадка пра "Багрова" — намёк на фаліянт "Дзіцячых гадоў Багрова-ўнука", які бібліятэкарка дала мне пачытаць у трэцім класе і якім на ўсе астатнія школьныя гады дарэшты адбіла ўва мне якую-кольвек ахвоту да чытання.*

*Я кладу кніжку воддаль, знарок, каб пазлаваць Рэгіну, прыпарушваю яе сенам. Рэгіна — стыхія са сцюдзёных, і, як ні дзіўна, мне найбольш памагаюць у стасунках з ёю менавіта перапады яе настрою, асабліва ж моманты, калі яна злуе. Покрыва няўлоўнасці нібы саслізгвае з яе ў такія хвіліны, вызваляе эмоцыі, агаляе патаемныя згібы натуры. І робіць іх уладальніцу не проста зразумелай, а нават у пэўнай ступені — безабароннай.*

*Але не гэта зараз мяне найболей займае, а тое, як сказаць пра нас.*

*Хваля рашучасці ўздымаецца ўва мне, гнаная надзеяй, дакочваецца да горла.*

*Цяпер або ніколі!*

*Я пасоўваюся шчытней да Рэгінінага разгарачанага парою ад сена ды жарсцю маіх няўмелых, хоць мне яшчэ і няўцям, што яны акурат такія, любошчаў.*

*— Выходзь за мяне, Рэня…*

*— Рэня? — кажа яна пагрозліва і тыцкае мяне тварам у сена. — Зноў ты за сваё? Я ж прасіла гэтак мяне не называць.*

*— Прабач… Рэгіна…*

*Вочы яе святлеюць, голас набрыньвае пяшчотаю.*

*— Выйсці за цябе? Выкінь з галавы. Які з цябе муж? Якая з мяне жонка? Як ты ўяўляеш нашае сужэнства? Ха-ха! Вось каб ведала, што гэтак уляпаюся, нізавошта не паехала б сюды… Нізавошта!*

*— Я кажу сур'ёзна, — прамаўляю я, і голас мой патанае ў залепленым ластаўчынымі гнёздамі прагалку паміж кроквамі страхі. Свет нібы перакульваецца ўва мне, робіцца каляным і шорсткім, як словы, што толькі што зляцелі з Рэгініных вуснаў. — Чаму? Чаму ты не хочаш?*

*— Таму што так трэба. Табе — вучобу пачынаць, мне — над дысертацыяй працаваць. Мала гэтага?*

*Яна пасоўваецца ўбок, я мкнуся ўтрымаць яе, і яе сцішана-задаволены смех поўніць пуньку.*

*— Перастань, я не збягаю. Перастань! — Рука яе паволі цягнецца да сумачкі ва ўзгалоўі, лянiва шнарыць па набітых парфумаю ды рознаю іншаю дзявоцкаю драбязою закутках. — Вось, прэзент…*

*— Можа, лепш так — без?… Ты ж ведаеш, што…*

*— Ага, я што — дурніца? І не думай!*

*Я адварочваюся, каб узброіцца “прэзентам”. І не мінае і трох хвілін, як ужо мы з Рэгінаю адно, і шалёнае маё жаданне ўтрымаць яе, як і самому дарэшты належаць ёй, засціць мне глузды, ператварае ў ваяўнічапажадлівую, бессаромную жывёліну. Мне і боязна, я баюся паўтору заўчорашняе паразы, калі ўсё быццам бы гэтак жа спраўна пачыналася, а скончылася няўдачай. Але гэтым разам, здаецца, усё добра. Здаецца…*

*Не!*

*Прывід даўняе трагедыі з Ларыскай вытыркаецца з чэрава кладні, нясіліць цела, і я з жахам чую расчараваны голас Рэгіны:*

*— Ну, вось табе маеш… Зноў…*

*І хоць ні кроплі ў ім дакору ці папроку, адно толькі расчараванне, гэта мяне не ўсцешвае.*

*Я ўбіваюся тварам у сена, брыдкі сам сабе, спаўзаю з кладні.*

*Рэгіна хапае мяне за нагу, маніцца не пусціць, але мне гэта ўжо не абыходзіць.*

*Сена шашчыць пад маімі нагамі, і безвыходнае “ніколі, ніколі” чуецца мне ў тым шашчэнні і не адпускае нават тады, калі расчыняюцца, падхопленыя скразняком, дзверы пунькі і іншыя, знаёмыя адмалку*

*згукі прытомленай дзённымі турботамі вёскі абрынваюцца на мяне.*

*Ці кахае мяне Рэгіна? Гэта адзінае, што займае мяне цяпер, адзінае, на што хацеў бы я мець дакладны адказ. Мінулае, дзень сённяшні, будучыня — нішто не мае зараз для мяне гэткага значэння, як гэтае "ці кахае?" Тым больш што сёння яны з Інаркаю з'язджаюць у свой Т., і хто ведае, ці спаткаемся мы калі наогул.*

*Пах гарбаты даносіцца з разнасцежанага акна да прызбы, дзе я сяджу, шчаслівы Інарчын голас абвяшчае пачатак абеду. Не менш шчаслівы Тонікаў (сябрук праз тыдзень выпраўляецца следам за дзеўкамі ў Т. здаваць іспыты ў тэхнікум) адзываецца на яго, і толькі Рэгінінага — не чутно.*

*— Ты есці будзеш? — пытаецца Інарка і складвае вусны ў дакорлівую ўсмешку. — Хадзі.*

*Рэгіна сядзіць пры стале, прыхінуўшыся плячыма да сцяны, крэмсае відэльцам на талерцы бульбіну. Яе твар прыслонены ценем ад фіранкі, таму ён выдае амаль непранікальным.*

*— Стасік, вырашыў, урэшце, куды паедзеш паступаць? — пытаецца Тонік і тоўхае мяне даланёю ў бок. — Штосьці ж доўга цягамоцішся. Паехалі б удваіх у Т., весялей было б. І лягчэй. Праўда, Рэгіна?*

*— У Т. не вучаць на мастакоў, — адказвае яна холадна і пасоўвае ўбок талерку з рэштаю ежы. — Ты хіба не ведаеш?*

*— Конча на мастака паступаць? — не здаецца Тонік. — Мала іншых факультэтаў паўсюль? Убіў сабе штосьці ў голаў…*

*Я бачу, як напружваецца, а затым робіцца дарэшты непранікальным Рэгінін твар, употай наступаю*

*Тоніку на нагу. Я разумею: прысуд канчатковы і абскарджваць яго — марная справа.*

*Тонік запытальна-спагадліва глядзіць на мяне, але што мне з таго за наедак? Што да чыёйсьці, хай і найшчырай, спагады чалавеку, калі ўсё, чым той жыў дагэтуль, — тарчма, наперакасяк, і свет, учора яшчэ прыязна-ветлы, шырокі, раптоўна пажарстчэў, звузіўся, разбіўся на дробныя аскепкі?*

*— Ну, вось, здаецца, пад'ела, — кажа Рэгіна, і голас яе, паважліва-спакойны, абыякавы, крыху нібыта чымсьці незадаволены, пазбаўляе мяне апошняй ілюзіі.*

*Бацька ўязджае з падводаю на панадворак, прыкручвае лейчынай каня да аглоблі, ідзе ў хату.*

*Да прыходу цягніка на паўстанак зусім няшмат застаецца часу, і, каб не спазніцца, неўзабаве, дзесьці праз паўгадзіны, трэба пад яго выпраўляцца. Акурат гэтак яны, дзяўчаты і Тонік, і выпраўляюцца. Клічуць і мяне з сабою, але я адмаўляюся, застаюся памагаць бацькам парадкаваць у пуні прывезенае ўранні ад стожышча сена. Вядома, гэта адгаворка, але інакш я не магу.*

*Тонік садзіцца за фурмана. Я бачу, як уздрыгваюць наастатак Рэгініны павекі, і вось ужо нагружаная валізамі з няхітрымі вясковымі гасцінцамі падвода з'язджае з панадворка.*

*— Ну, не ўсё баляваць, трэба і рабіць сёе-тое, — кажа бацька і прастуе да пуні.*

*Мы з маці ўнізе, бацька — на кладні, і ён ледзьве паспявае пераймаць важкія зляжалыя пласты, якія я перакідваю яму віламі ў падстрэшша праз маціцу.*

*— Азвярэў ты, хлопец, ці што? — дзівіцца з майго неспадзеўнага працоўнага імпэту (зазвычай я — гультаяваты, як кажа маці — крыху "пры панку") і шпур-*

*ляе на дол пакінутую Рэгінаю кніжку апаведаў Велты Спаарэ.*

*Маці запытальна зіркае на мяне спадылба, уздыхае, кладзе кніжку на выступ падмурка пры лазе на гарышча хлява.*

*Тонкі, ледзьве ўлоўны водар Рэгініных духоў далятае да мяне ад кніжкі, перабіты пахам сена і пылу, чэзне ў вузкім праёме паміж кладнёй і сцяною пуні…*

У фае гэтаксама горача, як і ў зале. Я прыхопліваю са стала бутэльку з мінеральнаю вадою, сунуся да выхаду ў дворык. Там таксама не сказаць каб надта прахалодна, да таго ж і поўна ўжо люду.

Пад крайнім ад ходніка парасонам тройца з нашае дэлегацыі частуецца півам у кампаніі імпазантнага мужчыны гадоў пяцідзесяці. Мужчына распавядае анекдот пра консула, што рызыкнуў займець больш шыкоўнае аўто, як у амбасадара, і праз тое пацярпеў. Яго шырокі чырвона-бурачковы твар свеціцца здароўем і непадробнаю шчырасцю, вочы ўзбуджана паблісквающь.

— Пазнаёмцеся, гэта наш консул, — дачакаўшыся канца доўгага, як учарашняя стаянка на мытні, расповеду мужчыны, кажа Зяменя і падае мне кухаль з півам.

— Консул Папярэцкі, — ківае той і ўсміхаецца. — Рады яшчэ аднаму суайчынніку. Ведайце: калі ў вас узнікнуць тут якія-колечы праблемы, — я побач. Можа, маеце які асабісты клопат ці просьбу?

— Не, не маю, — няўзнак для сябе самога паддаючыся магнэзу агульнае плыні гаворкі і пераходзячы на расейскую мову, адказваю я.

Бадзёры вятрыска павявае з боку ракі, што цячэ ў колькіх метрах ад будынка мэрыі, ускалыхвае чыр-

вона-бела-чырвонае сцяжышча з жалобнаю стужкаю над нашымі галовамі.

— Што значыць гэтая стужка? — пытаецца Земеня. — Колькі вёсак ды паселішчаў праехалі ад мяжы — усюды яна. Бы памёр хто…

Твар консула яшчэ больш ажыўляецца. Бачна, што пытанне яму даспадобы, што ён нават быццам чакаў яго.

— Чарговыя ўгодкі, як мы іх пакрыўдзілі, — кажа ён і дапівае піва. — Уяўляеце? Мы іх пакрыўдзілі, дай рады! Тут, дзе, можна сказаць, адвеку жывем, дзе цэлы мацярык з нас, больш за восемдзесят адсоткаў насельніцтва… Палітыка! — Ён хоча яшчэ штосьці дадаць да прамоўленага, але не паспявае, бо да нас падыходзіць рэферэнтка Ілга.

— Спадарыня мэр запрашае вас па ўрачыстасці да сябе ў кабінет для неафіцыйнае размовы, — кажа вабная латышачка і датыкаецца па чарзе да рукава кожнага з нас. — А пятай, як толькі ўсё скончыцца ў зале. Ваша гід вам нагадае.

Жана, якая дагэтуль непрыкметна стаяла дзесьці ўбаку, цяпер гэтак жа непрыкметна аказваецца побач, пацвярджае прамоўленае рэферэнткаю кіўком галавы.

Да канца перапынку застаецца пяць хвілін, і мы ўсе, апроч консула, які мусіць ад'ехаць кудысьці па сваіх справах, спяшаемся ў залу, дзе неўзабаве павінен пачацца (так дакляруе праграма) дакументальны фільм з гісторыі горада-пабраціма Т.

Памяшканне паспелі праветрыць, у зале калі не прахалодна, дык больш-менш свежа. Праўда, трывае гэткае даброцце нядоўга. Не мінае і чвэрці гадзіны ад пачатку фільма, як зноў запаноўвае гарачыня.

На шчасце, фільм кароткі, ад сілы на паўгадзіны. Фінал яго зала сустракае ўздыхам палёгкі. На сцэну зноў падымаецца мэр, жадае ўсім добрых уражанняў ад горада, нагадвае пра тое, што ўрачыстая вячэра адбудзецца а восьмай гадзіне ў банкетнай зале Цэнтра нацыянальных культур. Апошняе нам ператалумачвае Жана ўжо на выхадзе з памяшкання.

Абвестка нас усцешвае, на яе фоне нават перспектыва цягнуцца на прыём да мэра, што мае пачацца з хвіліны на хвіліну, ужо не здаецца такою змрочнай. Тым больш што і біць ногі шмат не даводзіцца: кабінет мэра месціцца паверхам вышэй, акурат над фае канферэнц-залы.

Мэр сустракае нас пры дзвярах. Ветлівая ўсмешка, зычлівы пагляд. Нягледзячы на спёку і напружаны рытм працы выглядае яна бадзёрай.

— Ну, вось, цяпер і на мове акупантаў можна паразмаўляць, — кажа і энергічным рухам плячэй страсае з сябе цяжар абрыдлае — так мне, прынамсі, падаецца — афіцыёзнасці.

Прыём у мэра доўжыцца каля гадзіны. Гаспадыня кабінета распавядае пра надзённыя клопаты горада, звязаныя з несупыннымі дажджамі і размыццём дарог, рамонт якіх штомесяц з'ядае львіную долю бюджэту, пра іншыя цяжкасці, якіх яны раней, да ўступу ў Еўразвяз, не ведалі, а вось зараз…

— Проста так, за прыгожыя вочы ніхто нічога не дае! — падводзіць яна рысу і з выглядам чалавека, што дарэшты выканаў свой службовы абавязак, апускаецца ў крэсла.

— Як вы? — Жана, якая дагэтуль ціхамірна падрэмвала пры канцы стала, прыязна глядзіць на мяне. — Не стаміліся?

— Крыху.

— Нічога, — кажа яна і адорвае мяне зычлівым паглядам шэра-зялёных, у аздобе густоўна падфарбаваных веек вачэй. — Адпачняце да вячэры ў гатэлі і будзеце як новы.

— А вы…

— Што я?

— Вы абяцалі сказаць наконт зямляцтва, — нагадваю я. — Адкуль вы паходзіце?

— А, гэта… — мармыча яна і пераводзіць пагляд на аднаго з нашае дэлегацыі. Той якраз пачаў гаману на тэму спорту, і мая кволенькая надзея на дыялог з Жанаю канчаткова чэзне ў плыні яго энергічнага, густа перасыпанага лічбамі статыстыкі аповеду.

Жамярына ўлятае ў акно, падхопленая струменем паветра з кандыцыянера збоч стала, мітусіцца па-над галовамі, садзіцца спартоўцу на шчаку.

Мэр выпроствае руку, з мацярынскаю ўсмешкаю на твары, што, мабыць, павінна апраўдаць фамільярнасць наступнае хвіліны, адным рухам тонкіх, бы сцяблiны венерыных валасоў у вазоне насупраць, пальчыкаў адганяе назолу прэч. Выбух смеху, гаворка набывае яшчэ больш даверлівы, амаль прыяцельскі характар.

Ідылію парушае рыпенне дзвярэй. Мужчына ў чорнай камізэльцы ўваходзіць у пакой, падкрэслена сцішанаю хадой сунецца да вольнага месца. Па ўпэўненасці, з якою ён уладкоўваецца ў крэсле ўпобачкі з мэрам, няцяжка здагадацца, што ён тут не ўпершыню і пачуваецца даволі вольна.

— Віцэ-консул вашага консульства Калевіч, — кажа мэр і адорвае новага госця ўсмешкаю. — І я мушу перадаць вас у яго распараджэнне.

— Прыём у консула а палове пятай, у нас зусім няшмат часу, — кажа мужчына і абводзіць нас усіх па

чарзе пранікплівым, чамусьці найдаўжэй затрымаўшы яго на мне, паглядам. — Машына пры ўваходзе, так што паспяшаемся. Колькі нас?

— З вамі пяцёра, — кажа Жана і першая ідзе да выхаду. — Гэта без мяне. А калі са мною, то шасцёра.

— З вамі ці без вас — у аўто змесцяцца толькі чацвёра, — кажа віцэ-консул і моршчыць у одуме высокі, як скляпенні калідора, што мы якраз мінаем, лоб. — То і вам, і яшчэ камусьці давядзецца застацца.

— Магу застацца я, — пагаджаецца спартовец. — Я не надта добра сябе адчуваю.

Віцэ-консул і Зяменя абменьваюцца шматзначнымі позіркамі.

— Не, — кажа па кароткім маўчанні Зяменя. — Так нельга. Консул цікавіцца спортам і будзе незадаволены вашаю адсутнасцю. А вось калі вас пакінуць… — Ён прыпыняе мяне, адводзіць убок. — Не будзеце пратэставаць, калі вас пакінем? Усё-ткі мы гаспадарнікі, і нам след быць на прыёме. Вы ж чалавек творчы, далёкі ад рэалій, што вам нашыя заземленыя, нудотныя размовы. Займіцеся чым больш прыемным, схадзіце куды, пашпацыруйце…

— Канешне, — пагаджаюся я. Шчасце сядзець дзесьці ў пакоі і выслухваць розную афіцыйную лухту мяне, сапраўды, не прываблівае. Але і тое, што мною нібы наўмысна грэбуюць, пакідае ў душы непрыемны асадак.

— Што ж гэта яны вас гэтак пракінулі з прыёмам? — іранізуе, ледзь мы застаемся ўдваіх, Жана.

— Мабыць, пабаяліся, што аб’ем, — кажу як мага весялей. — А можа, збаяліся, каб не выпарыўся дачасна на такой спёцы…

— А ці каб не жэкнулі што-небудзь не тое, — кажа яна і лёгка, бы дзяўчо, што неспадзявана пазбавілася

апекі дарослых, збягае з ганка на ходнік. — Будуць анекдотамі адзін аднаго частаваць пра начальства, дэмакратызм удаваць, то навошта ім лішнія вушы? Я вашы газеты калі-нікалі чытаю, дык цямлю, што да чаго.

— Вы разумная, аднак.

— Ну, ужо ж не зусім дурная, — смяецца яна і прыпыняе крок, каб узяць мяне пад руку.

Дзве гадзіны да абяцанае вячэры пралятаюць нібы адно імгненне. Гатэльчык, у які Жана прыводзіць мяне па кароткім шпацыры па горадзе, уражвае цішынёй і амаль што хатняю ўтульнасцю інтэр'еру. Гаспадар яго, прыбалт у другім калене і вялікі аматар чэшскага піва і сацыяльна арыентаванае эканомікі, асабіста ўручае мне ключ ад пакоя і нават праводзіць бліц-экскурсію па вузкіх, завешаных рэпрадукцыямі канцэптуальнага мастацтва і творамі мясцовых графікаў калідорах.

Пацікавіўшыся, ці не маю я ў чым патрэбу, і атрымаўшы адмоўны адказ, ён хутка знікае, і апеку нада мною пераймае Таня, сімпатычная дзяўчына гадоў дваццаці пяці. Яна прыехала ў Т. восем год таму з Браслава з намерам перабрацца пасля ў Рыгу да сваякоў, ды так тут і засталася. Таня без натугі пераходзіць з мовы на мову, у тым ліку і на беларускую, так што я пачуваюся ў гатэлі зусім не як чужынец.

А сёмай з'яўляецца Жана, і мы едзем вячэраць. Дзесяць сантымаў, якія я ахвяроўваю на праезд у аўтобусе за сябе і за яе, з каптуром кампенсуюцца адмысловым Жаніным аповедам з жыцця тутэйшага люду. Я паказваю ёй будынак, дзе месцілася колішняя беларуская гімназія, і нават паспяваю да прыпынку распавесці сёе-тое з яе гісторыі і жыццяпісаў людзей, што ёю апекаваліся.

— Што Райніс — класік, я ведаю, канешне. А вось што гэтак нас шанаваў, не здагадвалася нават, — кажа яна з нотаю няёмкасці ў голасе і падымаецца з сядзення. — Як добра, што вы да нас прыехалі!

Ля будынка Цэнтра нацыянальных культур ужо поўна народу, і мы з Жанаю вельмі хутка губляем адно аднаго з поля зроку. На пляц выходзіць Ілга, запрашае ўсіх падымацца ў банкетную залу.

Нікога з нашае дэлегацыі ў зале няма, і мне, як і ўдзень у зале паседжанняў, выпадае сядзець упобачкі з дэлегацыяй з Харбіна. З дзясятка абыходлівых кітайцаў толькі адзін, таварыш Ду, разумее па-расейску, таму добрую чвэрць вечарыны я баўлю ў самоце.

На шчасце, да мяне падыходзяць двое мастакоў, якіх я ведаю з сумеснае пазалеташняе выставы прамысловага плаката ў Львове, і запрашаюць за свой столік. Там ёсць вольнае месца, я з радасцю скарыстоўваю прапанову перасесці да іх.

За сталом, апроч мастакоў, сядзіць паэтка ў ваўнянай, аздобленай нечым блішчастым сукні і з выразам невыказнае скрухі ў вачах цэдзіць праз саломіну кактэйль. Мой прыход яна сустракае падкрэслена абыякава. Ды, ведаючы не з чужых словаў сапраўдны кошт такое жаноцкае абыякавасці, што амаль заўжды неўпрыкмет, але не без прыхаванага змыслу пераходзіць у сваю процілегласць, я не надаю таму вялікага значэння.

Тым часам народ адчувае сябе ўсё больш раскавана, сям-там гучаць спевы.

Дзесьці праз паўгадзіны ў залу ўваходзіць віцэ-консул Калевіч з маімі хаўруснікамі і Жанаю. Кампанія ўладкоўваецца за столікам у другім канцы залы. І я падымаюся, каб далучыцца да яе, бо запал, з якім дай-

маюць мяне расповедамі пра свае творчыя ды ўсялякія іншыя праблемы мастакі, адзін з якіх, аказваецца, аўтар малюнкаў у гатэлі, пачынае мяне ўжо раздражняць.

Скруха ў вачах паэткі змяняецца расчараваннем, яна праводзіць мяне полымным, як ліпеньская ноч, што абяцае шмат прыгодаў, паглядам.

— Як вам нашая Фаіна? — перахапіўшы яго, пытаецца адзін з мастакоў, што ідзе за мною следам з чаркаю ў руцэ, і, не дачакаўшыся адказу, бо я ўжо адышоўся даволі далёка, плюхаецца на вольнае месца за адным са сталоў.

На подыуме між сцэнаю і столікамі квітнеюць спічы ў гонар сяброўства-пабрацімства. Эстонскі госць, госць ізраільскі, прадстаўнік дэлегацыі з Літвы… Энергічная мэр раз-пораз дэманструе выбітны гумар, суправаджае словы выступоўцаў кароткімі трапнымі рэплікамі.

Стол, напачатку даволі сціплы, з кожнаю хвілінаю багацее. Хлопчыкі-афіцыянты снуюць у вузкіх праходах з бутэлькамі ў руках, апафеоз гасціннасці — велізарная рыбіна ў аздобе з зяленіва — займае пачэснае месца на стале пасярод залы, да яго тут жа выстройваецца чарга.

— Заўтра прыязджае іхні прэзідэнт, — кажа віцэ-консул і паблажліва ўсміхаецца. — Дарэчы, хочаце анекдот пра прэзідэнта?

Анекдот ліберальны, аж занадта, хоць, папраўдзе, гэткі ж вялы, як фізія апавядальшчыка. Мы ўсміхаемся па яго сканчэнні больш з ветлівасці, і толькі Жана ды Зяменя, каб згладзіць няёмкасць моманту, смяюцца доўга і залівіста, чым узбуджаюць цікаўнасць Фаіны.

Паэтка падымае ўгору напоўнены нечым бурачкова-чырвоным фужэрчык, махае нам здаля рукою. Збянтэ-

жаны недахопам эмоцый у нашай ацэнцы ягонага красамоўства віцэ-консул падымае чарку ў адказ, залпам выпівае. Яго высокі, з тузінам кароценькіх валасінак-паўсцінак паперадзе, над самымі бровамі, лоб пры гэтым чырванее, а вусны стульваюцца ў вузкую, як нітка бурштыну на Жанінай шыі, шчэлку.

— Мы з вамі не знаёмыя? — звяртаецца ён раптам да мяне і па-свойску падміргвае.

— Наўрад, — адказваю я і ўглядаюся ў ягоны абсыпаны дробнымі кропелькамі поту твар. — Не, не думаю, хутчэй за ўсё, — не.

— Значыць, я памыліўся, — кажа ён і праступе праз залу да стала з рыбінай.

На адлегласці хада яго здаецца мне нібыта знаёмай. Я сілюся ўзгадаць, дзе мог раней бачыць гэтага чалавека, але дарэмна. Прытуманеныя віном і ўражаннямі дня глузды мае спяць і прачынацца, прынамсі зараз, у гэтую хвіліну, не жадаюць.

Вячэра доўжыцца амаль чатыры гадзіны. Першая адыходзіць (“Заўтра вельмі, ну вельмі адказны дзень, вы ўсе людзі дзяржаўныя, разумееце!”) мэр. Следам за ёю пакідаюць залу мэрскія чыноўнікі, так што пры гасцях застаецца толькі Ілга.

Жаны, якая выйшла кудысьці чвэрць гадзіны таму, дасюль не бачна. Знік і віцэ-консул, і калі я пытаюся пра яго ў Ілгі, яна толькі неўразуменна паціскае плячыма. Затое мастакі ўсё яшчэ тут і адыходзіць, бачна па ўсім, не збіраюцца. Фаіна, якую яны, відаць, добрatакі данялі нецвярозаю балбатнёй, скарыстаўшыся момантам, падсаджваецца да нас, каб прачытаць новы, толькі што народжаны ў бурапенных нетрах вясёлага застолля верш. Пра каханне, шматабяцальна абвяшчае яна напаўголасу і складае вусны сэрцам.

Верш пафасны і вельмі, ледзь не да слёз, чуллівы. Ілга просіць яго ў аўтаркі перапісаць, але тая адмаўляецца: так бы мовіць, юбілейнае, чатырохсотае тварэнне, і баронь бог яшчэ згубіцца, так што ўжо, прабачце, як-небудзь іншым разам, пазней…

— Вершы — мае дзеці, — кажа яна і падымае на мяне поўныя жадання атрымаць падтрымку ў гэткім важным перакананні вочы. — Вы як чалавек творчы мяне, напэўна, разумееце.

— Канешне, — заспеты знянацку праяваю ўвагі да сваёй персоны, падтакваю я.

— Вось і добра, і цудоўна, — голасам, у якім зліваюцца ў адно бязмежная ўдзячнасць і аванс на штосьці большае, чым звыклы флірт, працягвае яна. — Спадзяюся, вы не кінеце мяне тут адну, праводзіце дадому.

— Вядома.

— І па дарозе я пачытаю вам яшчэ. Пра каханне. Вы любіце паэзію?

Перспектыва слухаць сярэдначы вершы пяцідзесяціпяцігадовай паэткі Фаіны пра каханне мяне зусім не натхняе, і я сутаргава шукаю слоў, каб збіць яе запал. На шчасце, гэта не патрэбіцца: у размову ўступае Ілга.

— Можаце не турбавацца, Фаіна, — кажа яна і дапівае кактэйль. — У нас ёсць аўто, на ўсялякі выпадак… Кіроўца тут, так што развязем усіх, куды каму трэба. Дык можаце надта не спяшацца адыходзіць, пабудзьце яшчэ з паўгадзінкі.

— Што ж, гэта мяняе расклад, — адзываецца захмялелы Зяменя і замест таго, каб пайсці да выхаду, што не адзін раз ужо мануўся зрабіць перад гэтым, накіроўваецца да століка мастакоў.

Фаіна спапяляе Ілгу паглядам, робячы выгляд, што вельмі радая прапанове наконт аўто, налівае ў фужэр кроплю, як абмачыць вусны, віна.

Паўгадзіны расцягваюцца на цяжка сказаць колькі. І калі мы ўрэшце вырушваем з залы, гадзіннік у холе Цэнтра нацыянальных культур з шыкоўнаю выставаю з жыцця гарадоў-пабрацімаў пры ўваходзе паказвае палову першай.

Дзённая спёка прыносіць навальніцу. Мы сядзім у аўто на стаянцы пры гатэлі, чакаем, калі яна аціхне. Да дзвярэй гатэля крокаў трыццаць, але мокнуць ніхто не жадае. Маланкі раз-пораз успыхваюць, асвятляюць дворык з шыхтам дэкаратыўных дрэўцаў наўзбоч става, фантастычнымі пасамі-ланцугамі сякуць па старанна выстрыжанай траве ўздоўж цэментовай сцяны-агароджы.

Таня выскоквае на ганак са стосам цэлафанавых накідак у руках, порстка імчыць падляскат перуноў да машыны, садзіцца на вольнае, вызваленае хвілін дзесяць таму Фаінаю месца.

— Бачыце, якая ў нас выкшталцоная абслуга ў гатэлях, — кажа Ілга і гучна смяецца. — Ну, да заўтра!

Мы выкараскваемся па чарзе з аўто, шыбуем да будынка.

Абыходліва-ўрачысты, белатвары, бы нябожчык у Чыстцы на адной з карцін у калідоры, парцье аддае нам ключы, і мы разыходзімся па сваіх паверхах.

Дзверы ў пакой насупраць майго незачыненыя, і я бачу Жану. Яна стаіць паўголая перад люстэркам, падфарбоўвае вусны. Мяне яна не бачыць, і я, не хочучы яе бянтэжыць, адступаю ад дзвярэй у глыб калідора.

Паркеціна пад маімі нагамі гучна вішчыць. Жана паварочвае галаў, заўважае мяне. Дзверы ваннага пакоя расчыняюцца, і побач з ёю вырастае на хвіліну і тут жа знікае ў пакоі вузкаплечая, з пластком тлушчыку наўкола пояса постава віцэ-консула Калевіча.

— Ах, прабачце! — кажа Жана і знікае за дзверыною шафкі.

Не паспяваю я, аднак, павярнуць ключ у шчыліне замка, як яна зноў выходзіць у калідор.

— Прабачце, — кажа і прыкрывае ніз твару ручніком. — Мне… Мне прыкра, праўда…

— Нічога, — запэўніваю я і, не ведаючы, як згладзіць няёмкасць, што ўзнікла гэтак нечакана, весела працягваю: — Дарэчы, памятаеце, вы абяцалі сказаць…

Напамін мой нагадвае спробу шантажу, але, на дзіва, яго дастаткова, каб Жана супакоілася.

— А, гэта, пра паходжанне! — бы тапелец за саломіну, хапаецца яна за мае словы і, пэўная, мусіць, што праўдзівага адказу ў якасці разліку за маё маўчанне пра яе сорам будзе дастаткова, голасам, быццам паведамляе невядома якую гнюснасць, прамаўляе: — Я… з Шаркаўшчыны.

Я ўваходжу ў нумар з цвёрдым намерам тае ж хвіліны рынуцца пад душ, але не паспяваю. Дзверы, якія я неабачліва пакінуў незамкнёнымі, рыпяць, у пакой увальваецца Зяменя з пляшкаю піва ў руцэ.

— Не спіш? — пытаецца ён узрушана і куляецца ў крэсла збоч стала. — Ты ведаеш, а няблага тутачка… Кабеты сімпатычныя, асабліва паэтэска, Фаіна, такая ўжо ляля. Цікава, яна замужам?

— Не ведаю, — крыху, папраўдзе, шакаваны ягоным неспадзяваным уварваннем, адказваю я.

Мой адказ яго відавочна расчароўвае, ён падымаецца з месца, гэтак жа імгненна, як і прыйшоў, са словамі “Ну, паглядзім, паглядзім!” вылятае з пакоя.

Я мкнуся як хутчэй зашчапіць дзверы, каб засцерагчыся ад новага госця, але зноў спазняюся.

Гэтым разам візітам ашчасліўлівае мяне віцэ-консул. Ад яго пахне парфумаю, расчырванелыя пасля мыцця твар і шыя выпраменьваюць здароўе.

— Не будзеце супраць, калі трохі ў вас пабуду? — кажа ён дружалюбна і дастае з пачка цыгарэту.

Ён запальвае цыгарэту, і мне нічога не застаецца, як сесці насупраць.

— Вы сапраўды мяне не памятаеце? — У голасе яго чуюцца адначасна інтрыга і занепакоенасць. — Не?

— Не, прабачце, — пачынаючы нервавацца, адказваю я.

— Што робіць час! — уздыхае ён. — Вы ж Стасік? Так? Няўжо не помніце студэнта, што кватараваў у вашых суседзяў? Таго, што выцягваў вас ды вашага дружбака з падпечка, Васю-практыканта? А вы хаваліся ўсё… Ну ж! Ну… Васю-практыканта!

Вузкая прастора пакоя звужваецца яшчэ больш, настуджанае кандыцыянерам паветра халоднаю плёнкаю застывае між намі.

Камізэлька на рэспектабельным панку насупраць мяне змяншаецца памеру да сорак шостага, лоб вачавідзь ніжэе, твар драбнее, вочы робяцца светлымі і выразнымі, як у юнака.

Цыгарэта дрыжыць у ягоных спярэшчаных вузлаватымі венамі руках, ашмётак попелу зрываецца з яе, падае на манжэту кашулі. Ён похапкам страсае попел далонню, радасна, ажно загараюцца вочы, усклікае:

— Пазнаў! Бачу: пазнаў!

Прыступ ягонае радасці канчаткова мяне спанталычвае, я не ведаю, што рабіць. Першае, што прыходзіць у голаў, — выпхнуць яго з пакоя. Ды цела маё такое слабое па выпітым-з’едзеным, што нават паварушыцца, не тое што ўчыніць штосьці больш грунтоўнае, для мяне зараз неймаверны цяжар. Да таго ж гэты кандыцыянер…

Я цягнуся рукою да пульта, што ляжыць на тумбе ля акна, каб адключыць агрэгат, але госць апярэджвае мяне.

— Адключыць? — кажа і націскае на кнопку.

Кандыцыянер суцішваецца, і ў пакоі адразу робіцца неяк пуста і няўтульна.

— Мне сказалі, ты мастак. Гэта праўда? Я, прызнацца, тваіх прац не бачыў…

— Я займаюся наладжваннем выставаў, і толькі… Сюды ж наогул прыехаў, каб з сім-тым пабачыцца, вось і ўсё. Выкарыстаў магчымасць…

— Магчымасць не плаціць за візу? — падхоплівае ён. — Так?

— Трыццаць пяць еўра на дарозе не валяюцца.

— Плюс страхоўка, плюс кошт праезду ў два канцы… А я вось — з ветэрынарыі ды ў дыпламатыю, як бачыш. Такі вось фінт у жыцці атрымаўся…

Дзіўна, але з кожнаю хвілінаю ягоная прысутнасць раздражняе мяне ўсё менш і менш. Я сілюся выклікаць у памяці што-небудзь такое, што зрабіла б ягоную істоту яшчэ больш злавеснай, як напачатку, калі ён толькі назваўся, але гэта мне не ўдаецца. Больш за тое, я ўжо за паўкроку ад таго, каб сказаць яму пра Тоніка.

— З сябрам прыехаў пабачыцца? — быццам угадваючы мой намер, пытаецца ён і ўстае з месца. — Так?

— Так. Але размаўляць пра гэта не маю жадання. Я стаміўся, вельмі…

— Як хочаш… Прабач, што патурбаваў. Толькі вось што: пра Жану нікому не кажы, яна дама замужняя, то каб не атрымалася якая непрыемнасць, — кажа ён і ідзе да дзвярэй.

Я зашчапляю дзверы на засаўку, брыду ў ванны пакой. На душы ў мяне пуста. Мярзотная прыгнечанасць давіць на цемя, і нават тугім струменям вады не па сілах яе адтуль выпхнуць.

Вася-“заўцехнік”, ото неспадзянка!

— А я ж дык хвіліны не паспала, — жаліцца Жана і цярэбіць у одуме сваю зялёную, пад колер кофты, сумачку. — Ні хвілінкі, ведаеце…

Мы сядзім утраіх (трэці — Зяменя) на канапе ў холе гатэля, чакаем, калі выйдуць са сваіх нумароў астатнія. А палове дзясятай экскурсія па горадзе, і група з Харбіна, да якое нас далучылі, ужо чакае ў двары ў аўтобусе.

— Але ж і доўга штосьці сцэджваюцца, — бурчыць Зяменя і, пазіраючы скоса на экран тэлевізара з відарысам месца двухгадовае даўніны тэракта ў Нью-Ёрку, пачынае разважаць аб прычынах жорсткасці ў стасунках паміж людзьмі. Развагі абяцаюць быць грунтоўнымі, ды, на шчасце, нашы збягаюць у хол, і мы ідзем да аўтобуса.

— Не перадумалі ехаць да сябра? — кажа Жана. — Я перагаварыла з кіроўцам, ён не супраць вас падкінуць куды трэба пасля экскурсіі.

Кіроўца, даволі сталага веку чалавек у шэрым швэдры, ветліва матляе мне галавою, падае мапу мікраraёнаў горада.

— Ну, Жана, вас сам Бог нам паслаў, — кажа Зяменя і шырока, як гіпапатам, пазяхае. — З усіх успа-

мінаў, што ў нас застануцца, вы, бадай, будзеце найпрыемнейшым.

— Няўжо ж прыемнейшым за Фаіну? — кідае ў адказ Жана і залівіста — куды дзелася маркота — смяецца.

— О, Фаіна — па-за канкурэнцыяй! — уздымае ўгору рукі Зяменя. — Фаіна!

— Усе на месцы? — пытаецца Жана і падае кіроўцу знак ад'язджаць.

Чырвоны, з украпінамі чорнага ды шэрага горад плыве наўзбоч, сонна пазяхае насустрач праёмамі вокнаў. З абклееных рэкламаю фасадаў млявымі паглядамі клічуць навяртацца да гламурнага ладу жыцця бездакорна фотагенічныя прыгажуні. Аўтобус пятляе, то вынырвае з засені дрэваў, то зноў хаваецца сярод іх. Горача. Чжан Ду злазіць з пярэдняга сядзення, уладкоўваецца на больш зручным месцы побач з Зяменем.

— Харбін — вялікі горад? — пытаецца той, і голас яго, падхоплены парывам ветру з форткі, разносіцца па салоне.

— Мегаполіс, восем тысяцы людзей, — адказвае кітаец і тут жа, спахапіўшыся, папраўляе сам сябе: — Мільёнаў восем, мільёнаў…

Уражаны лічбаю Зяменя хоча штосьці сказаць, але ўжо запозна: аўтобус уязджае на тэрыторыю фартэцыі.

Экскурсаводка, энергічная маладзіца з плецаком за спінаю, падыходзіць да нас, вядзе тунэлем у прыцемненае дрэвамі чэрава мілітаршчыны-старасветчыны.

— Ну, вось вам і колішняе апірышча імперыі, — кажа і дадае з настальгіяй у голасе: — Год дзесяць таму тут месцілася савецкая вайсковая часць і, адпаведна, гэта быў адзін з элітных раёнаў горада, а зараз, як бачыце…

Фразу яна не паспявае скончыць, бо перашкаджае гул аўто, але гэта і не патрэбна. Пустыя аканіцы бу-

дынкаў ды дзіркі ў бруку пасярод вуліцы прамаўляюць самі за сябе.

— І ўсё кату пад хвост, — падхоплівае яе словы Зяменя і плюе сабе пад ногі. — Гадства нясветнае!

— Цяпер тут самае таннае жыллё… — працягвае, ледзь толькі сціхае гул, экскурсаводка і вядзе нас углыб тэрыторыі.

— Вам даводзілася бываць тут раней? — пытаецца Жана і бярэ мяне пад руку. — Так?

— І нават начаваць двое сутак. Мой сябар рабіў у часці цесляром, і я калі-нікалі яго наведваў.

— Той самы, да якога збіраецеся ў госці? Тое я гляджу: нецікава вам. Канешне, у параўнанні з тым, што раней тут было… Дык, можа, паедзеце да сябра, пакуль аўтобус вольны? Я скажу кіроўцу.

Яна рэзка вымае руку з маёй, шыбуе паўз выбоіны назад да аўтобуса, што акурат вырульвае ўжо на шашу:

— Pagaidiet! Пачакайце!

Яе жаданне як хутчэй пазбавіцца мяне, сведкі ўчорашняе сцэны ў гатэлі, мне цалкам зразумелае: з кім не здараецца. Хоць, з іншага боку… Сужэнскія здрады, якія я некалі, па маладосці, гэтак апантана асуджаў, зараз выклікаюць у мяне адно ўсмешку.

Кіроўца высоўвае галаў з кабіны, яны перамаўляюцца. Жана жэстам рукі падзывае мяне да аўтобуса.

— Ведаеце мову, а патлумачыць, што казалася там, у зале, не пажадалі, — кажу я і падымаюся на прыступку. Папрок мой гучыць недарэчна, але Жану ён, здаецца, ані не бянтэжыць.

— Дваццаць словаў, ну, можа, трыццаць, — смяецца яна ў адказ і выводзіць штосьці пальцам на шкле з надворнага боку аўтобуса.

“Ад сілы 50!” — высвечвае, гуляючы ценямі, лічбу запацелая шыбіна і плыве наўздагон гучнаму Жані-наму, з дамешкам гарчыны, смеху.

З кватэры даносіцца музыка, але на званок мой ніхто не адгукаецца. Я тузаю ручку дзвярэй, і тае ж хвіліны яны адчыняюцца.

— Стасік? Ты? — на твары Інары спалох і здзіўленне. Яна адступае ў глыб калідора, прыкрывае далонню рот. — Але ж любіш ты неспадзянкі! Мог бы і папярэдзіць, што прыйдзеш… Ну, ужо як ёсць, уваходзь…

Кучаравы — акурат малады Тонік — юнак вызірае з-за Інарынай спіны, дае “дзень добры”.

— Прывітайся як след, Андрыс, — кажа Інара і прыбірае похапкам раскіданыя па кватэры рэчы. — Прабач, што гэтак нячыста. Я ж прадпрымальніца зараз, ездзіла ў Маскву па тавар, уначы вярнулася, дык не паспела прыбраць…

Я дастаю з сумкі пакунак з гасцінцамі, і ён вокамгненна губляецца на канапе сярод гурбіны штаноў, камізэлек і featuresрознага іншага кірмашовага рыззя. Андрыс употай, бы малое дзіця, выхоплівае з яго колькі цукерчын, вырашыўшы, відаць, што болей тут няма чаго з намі, мастадонтамі, рабіць, знікае ў другім пакоі.

— З Тонькам мы не жывем, — кажа Інара і садзіцца на канапу. — Ужо два гады… Ты не ведаў? Мяне дасталі ягоныя п’янкі. Чым штодня такое бачыць, лепш ужо адной быць. Не згіну, дам рады! Не глядзі на мой рот! Ніяк не збяруся да дантыста. Ды і дарага. Што ў цябе?

— Ехаў пабачыцца з Тонікам, а тут вось такое… Дзе ён?

— У фартэцыі, напэўна, дзе яшчэ… Там поўна падполаў, займаюць лыгі каму каторы глянецца. Я сама не бачыла яго, але кажуць, што там. Спіўся ўшчэнт. Жытло сваё — мы размянялі трохпакаёўку па разводзе — збаёдаў, прадаў за капейкі нейкаму таўстасуму… Нават сына не парупіўся прапісаць, хоць што хлопец меў бы з часам, а так… Андрыс мяне таксама непакоіць, вельмі.

— Чаму? Здаецца, нармальны хлопец…

— Вось-вось, здаецца. — Інара падхопліваецца з канапы, са злосцю расшкамутвае стос рыззя. — Мышы, халера! Пра што гэта мы? А, Андрыс… — яна пераходзіць на шэпт. — Быў бы нармальны, каб не звязаўся з шваллю. Ды з якою! Зрэшты, мы з Тонькам самі вінаватыя. Тонька гэтак піў перад тым, як я зацяжарала, што я баялася раджаць: раптам калека народзіцца? Дый алкагалізм, я чула, перадаецца ў спадчыну, вось і падумвала перарваць… Доўга мучылася, ды так і не наважылася давесці да канца… А тут Тонька ўзяў ды ляпнуў неяк на падпітку Андрысу пра тыя мае здумкі-пакуты. Хлопцу шаснаццаць тады было, сам разумееш, якая магла быць рэакцыя. З таго часу і пайшло-паехала ў нас усё абы-як. Занурыўся, усё, што ні робіць, — наўпроць… Хацела да псіхолага завесці — адмаўляецца.

— Мама, перастань гнаць істэрыку, — падае голас са свайго пакоя Андрыс. — Я нічога благога не раблю. Ні-чо-га! — Ён вызірае з дзвярэй, акідвае мяне цікаўным паглядам. — Чым частаваць госця байкамі, лепш бы кавы прапанавала.

Інара змаўкае, сядае на канапу, але тут жа зноў падхопліваецца.

— А праўда, прабач, Стасік, — кажа і ідзе ў кухню. — Прабач, што гэтак сустракаю. Ведаеш, гэтулькі ўсяго навальваецца, што галава кругам… Ад суда ледзь

адбілася, ставілі пытанне аб перасяленні ў сацыяльны дом за няўплату… А там п’янюгі адны ды зладзеі. У мяне запазычанасць за кватэру дзве тысячы латаў, гэта амаль чатыры тысячы даляраў. Дзе ўзяць такія грошы? Добра, Ірэнцы пашчасціла знайсці працу ў Манчэстары, прысылае сто даляраў у тыдзень, паціху сплачваем. З кіпрыётам, піша, пасябравала, нібыта пабрацца ёй прапаноўвае, то, можа, і назаўжды застанецца ў Англіі.

Ірэнка — дачка Інары і Тоніка, апошні раз я бачыў яе падчас канікулаў у вёсцы: мілае дзяўчо з дзвюма тонкімі коскамі цераз плячо.

— А ці лёгка гэта — выправіць дзіця, ды яшчэ якое гэтак цяжка далося (ты ж ведаеш, як я позна нарадзіла), у чужую краіну і кожную хвіліну думаць, як яно там.

Кава моцная і густая, як кісель, да таго ж аддае чамусьці вішняю.

У пакоі Андрыса адзываецца мабільнік. Інара сціхае, навострвае вушы.

— Мам, Ірка! На…

Інара прыліпае вухам да тэлефона.

— Вы надоўга да нас? — пытаецца Андрыс і схіляе ўбок — бацькава звычка — падфарбаваную белым галаву.

— Паслязаўтра з’язджаю, віза ў мяне на чатыры дні.

— Шкада…

Чаму шкада, ён не дагаворвае, бо зноў у гаворку ўступае Інара. Пасля размовы з дачкою яна значна павесялела, нават пасвятлела з твару.

— Ты па-ранейшаму нацыяналіст? — пытаецца яна і пераводзіць пагляд на сцяну са здымкамі, сярод якіх я пазнаю наш сумесны з Тонікам падчас мітынгу ў Курапатах дзесяцігадовае даўніны. — Усё яшчэ ходзіш на сходкі?

— Не так часта, як раней, але зрэдку бываю. Хоць, папраўдзе, палітыка мяне ўжо не надта цікавіць.

— Расчараваўся? Ат, што я пытаюся, многія расчараваліся. Як згадаю, як сама сядзела пры тэлеку тады, на пачатку дзевяностых, дык сабе не веру, што гэткая была палітызаваная. Цяпер жа адзін клопат: выжыць як-небудзь, здабыць капейчыну. Сам ведаеш, як цяжка адной даваць усяму рады…

Я хачу сказаць ёй пра Васю, але не рашаюся: наўрад гэта зараз будзе дарэчы. І замест таго, каб сказаць, што круціцца на языку, дастаю з кішэні грошы.

— Вось, вазьмі, Інара.

Яна з хвіліну неўразуменна глядзіць на маю далонь.

— Што ты! Не трэба! Во яшчэ надумаўся… — голас яе слабее, робіцца дрыготкім і нерашучым.

— Тут усяго сотня еўра, тое, што я не плаціў за візу і праезд. Гэта замест прэзента, я ніколі вам нічога не дарыў. Будзем лічыць, што гэта я дзядзьку Міхалу вяртаю…

Яна бярэ грошы, павагаўшыся, нібы раздумваючы, ці добра зрабіла, кладзе іх на шуфляду.

Не ведаю, што ўдае ў гэтую хвіліну мой твар, але яна падымаецца, з выглядам, быццам я ўжо сказаў “да пабачэння”, падае мне руку.

— Дарэчы, Рэгіна пра цябе ўвесь час пытаецца. Можа, хочаш з ёю спаткацца? Я патэлефаную ёй, скажу, што ты ў Т.

— Яна ведае.

— Вось як! А мне нічога не сказала, от сяброўка! Дык вы ўжо сустракаліся?

— Не.

— Гаварылі па тэлефоне? Зрэшты, што гэта я лезу не ў сваё… — Інара адпускае маю далонь, ідзе ў калі-

дор. — Вось! Вось чым займаецца мой сын! — кажа і падхоплівае на хаду з зэдля нейкі часопіс з выяваю двух юнакоў у напалову спушчаных джынсах, што са смакам цалуюцца ля рассцеленага ложка.

Часопіс называецца “Logos-contact” — гэта апошняе, што я бачу перад тым, як вымыкаецца з пакоя Андрыс і выхоплівае яго з рук маці.

Я вяртаюся ў гатэль каля паловы трэцяй. Вандроўка па горадзе стаміла мяне, ды і спатканне з Інараю і Андрысам не дадалі, папраўдзе, бадзёрасці. Таму найпершая мая зараз мара — адпачыць перад вячэраю. Адпачыць як след, а далей бачна будзе, што ды як.

Час абеду яшчэ не скончыўся, і я цягнуся ў буфет, з якога выходзяць купкамі поўныя ўражанняў ад экскурсіі ў фартэцыю, з вачавідзь пакруглелымі жыватамі ад нязвыклых прыбалтыйска-еўрапейскіх прысмакаў харбінцы.

Есці мне не хочацца, толькі піць — ці не нагадвае пра сябе неабачліва з’едзенае ў горадзе занадта салодкае марозіва. Жанчына, што сядзіць у самоце збоч дзвярэй буфета, рэзка падымаецца з канапы, кідаецца мне напярэймы.

— Стас! Гэта ты? — кажа, і яе трымцлівы радасны голас падаецца мне занадта пафасным, а злёгку распаўнелы, хоць усё яшчэ вабны стан — неспасціжначужым. — Ну, можа, пацалуеш мяне?

Рэгіна.

Яна падстаўляе шчаку, і мой мусовы — куды тут дзенешся — пацалунак засведчвае пачатак нашае першае за трыццаць гадоў пасля расстання сустрэчы.

— Ну, як ты?

— Усё добра. А ты як?

Мы ўсаджваемся за столік, моўчкі глядзім колькі часу адно на аднаго.

— Як твае? — першая парушае паўзу Рэгіна.

— Дзякуй, усё добра.

— Я заўжды цікавілася праз Інару тваімі справамі. Нават, ці паверыш, ведаю імёны тваіх сыноў. А ў мяне вось дачка. Тут, у Т. жыве. Ужо замужам, нядаўна ўнучкаю мяне ашчаслівіла. Табе, можа, нецікава ўсё гэта…

Мне, сапраўды, не надта цікава, але казаць пра гэта не выпадае.

— Не, што ты, наадварот. Ты працуеш?

— Выкладаю крыху ва ўніверсітэце, — кажа яна і круціць у далоні цыгарэту. — Кандыдат навук, хоць, папраўдзе, якая там навука… Так, вякнула штосьці год дваццаць таму пра памежныя культурна-этнаграфічныя стасункі, прычынілася да ўслаўлення, так бы мовіць, дружбы паміж народамі. А й добра, і прыдалося пад старасць кандыдацтва. Кадраў са ступенямі зараз мала ў вучэльнях, дык шануюць… І пасля дасягнення пенсійнага ўзросту да таго ж можна са ступенню працаваць. А гэта і капейчына лішняя, як сам разумееш, і з людзьмі стасункі.

— Словам, задаволеная жыццём?

— Як сказаць? Напэўна… У маладосці ў раскошы за добрым мужам — ён дырэктарстваваў на заводзе — пажыла, свету пабачыла, пра непамысноты матэрыяльныя і размовы ніколі не было. Цяпер сціплей, канешне, як адна засталася, жыву, але ж, пэўна, не горш за іншых. Ды і дачка добрая ў мяне, не кіне, паможа, калі што якое…

Яна дастае з сумачкі некалькі здымкаў, раскладае веерам на стале.

— Гэта Ян, муж, ён у пазамінулым годзе памёр з інфаркту, згарэў, можна сказаць, на працы. На дзесяць гадоў быў за мяне старэйшы і такі ўважлівы заўжды… Гэта дачка і зяць, мы ўтраіх у Юрмале залетась падчас фестывалю “Новая хваля”. Унучку паказала б, ды, на жаль, няма тут нічога з сабою прыстойнага. Ты не крыўдуеш на мяне, што гэтак тады з табой абышлася?

— Я? — Пытанне заспявае мяне знянацку, я не ведаю, што сказаць.

— Дай агню. — Яна нахіляецца да мяне, абдае водарам духоў уперамешку з пахам тытуню. — Ці ты не курыш, можа?

Афіцыянт падскоквае да століка, паслужліва падносіць ёй газнічку. Рэгіна зацягваецца дымам, прыжмурвае вочы.

— Успамін пра шчаслівае мінулае — не лепшае суцяшэнне для жанчыны ў гэткім веку, як мой, — кажа і зноў похапліва глытае дым. — Прызнацца, мне было часам шкада, што так між намі адбылося. Але ты не адказаў на маё пытанне.

— Ці куру я? Ты ж бачыш: не.

— Не тое… Ці крыўдуеш ты на мяне?

— Ужо не. Хоць, папраўдзе, мне таксама, здаралася, было шкада.

— Ці мне гэта здаецца, ці мы насамрэч аб адным і тым жа шкадуем? — кажа яна ціхім голасам, і мне выразна чуецца ў ім водгулле далёкага-жаданага, ды няспраўджанага. — Я нават, помніцца, з-за імя цябе даставала, такая была сцерва…

Яна абводзіць паглядам размаляваныя садавіною сцены памяшкання, кідае ў попельніцу недапалак, падпраўляе прычоску.

— Пра Тоніка ведаеш?

— Ведаю, Інара распавяла.

— Маеш намер з ім спаткацца?

— Як атрымаецца. Няблага было б.

— Вось як яно ўсё паварочваецца. — Яна ўздыхае, лезе ў сумачку па насоўку. — Праводзіш мяне? Пагамонім па дарозе.

Яна падымаецца, ідзе да выхаду.

— А можаш і не праводзіць, не пакрыўджуся, — кажа і дадае: — Шкада то шкада, ды, вярніся ўсё зноў, не ведаю, ці зрабіла б я іначай, як тады зрабіла. Хоць хто ведае… Ты кніжку тады знайшоў маю? Памятаеш кніжку Велты Спаарэ? Я знарок, між іншым, яе пакінула. Каб пры выпадку мець нагоду для спаткання. Ты, мабыць, адразу выкінуў яе?

— Пасля бацькавай смерці на гарышчы натыкнуўся сярод рознага друзу. І не выкінуў, аддаў камусьці.

— Але ж і пры сабе не пакінуў. Ат, прабач, што я кажу, хто мы адно аднаму? Ніхто.

Мы выходзім з гатэля, моўчкі прастуем да трамвайнага прыпынку.

— Ніхто, — кажа яна зноў і прыспешвае крок, і ўрэшце ідзе так хутка, і хлясцік на яе плашчыку матляецца ў такт крокам так рашуча, што мне нічога не застаецца, як ёй паверыць.

Я думаю пра тое, што яна, мабыць, запросіць мяне дахаты. І калі яна, сапраўды, прапаноўвае зайсці да яе на каву, адгаворка ў мяне да такой ступені гатовая, што імгненна злятае з вуснаў.

Яшчэ толькі палова шостай, і ў калідоры ціха, бы ў кляштары. Жана з Фаінаю сядзяць на канапе пры дзвярах буфета, штосьці тлумачаць па чарзе разамле-

ламу ад спёкі ды суседства кабет таварышу Ду. Харбінец пры парадзе, яго чорныя, наваксаваныя да бляску туфлі свецяцца, як люстэрка. Жана першая заўважае мяне, твар яе, дагэтуль бясклапотны, імгненна хмурнее.

— Вячэраем у бары а сёмай, — кажа яна і строга, быццам паведамляе невядома якую важную навіну, дадае: — Вас расшукваў віцэ-консул. Сказаў, што прыедзе за гадзіну да вячэры.

Яна зноў паварочваецца тварам да харбінца, і мне міжволі даводзіцца стаць ахвяраю Фаінінай гамонкасці.

— Я, мабыць, кепска выглядаю, — жаліцца паэтка. — Сёння праз усю ноч не заснула, лезлі ў глузды рыфмы праклятыя… О-ох! — Яна адкідвае галаў, робіць выгляд, быццам ратуецца ад непераадольнага жадання пазяхнуць, прыкрывае рот рукою. — Што за жыццё стала! Хачу да мамы ў Варонеж з'ездзіць, а ўсё не выпадае — гэтулькі мітрэнгі з візаю, ды і выдаткі не абы-якія. Раней, бывала, квіток купіў, сеў у цягнік, сюды-туды, і вось ён, Варонеж, дом радзінны… Зноў жа, з тутэйшымі было лягчэй ладзіць. Галас ледзь падымуць пра ўціск, а мы ім — іхняй жа зброяй — у адказ: " Пад акупацыяй вы? Пад акупацыяй! То і змоўкніце!". Цяпер гэткае не пройдзе. Вось я пляменнікаў сюды, у Т., за савецкім часам паперацягвала з Варонежа… А яны цяпер наракаюць: навошта, маўляў? З працаю цяжка, круціцца трэба, а не хочацца, не прывыклі, усё прынясі-падай… І ўдзячнасці ніякай, адно і глядзяць, каб што паймець з цябе. Быццам самой мне нічога не трэба… Во конча камп'ютар трэба купіць… Зусім іншая выгода, а то скрозь паперы ў кватэры, не даприбірацца. Прэзентую сама сабе к дню нараджэння…

Маналог абяцае быць працяглым, гэта мяне засмучае. Выручае Жанін мабільнік.

— Гэта Ілга, яна ў бары, — кажа яна па хвіліне размовы і ўстае з канапы. — Фаіна, мы мусім ехаць сёетое памагчы Ілзе, яна просіць… Прабачце, мужчыны.

— Ехаць, ехаць, — хітае галавою кітаец і таксама падымаецца. — Ехаць.

— Вам не трэба, — спыняе яго Фаіна, і ён зноў садзіцца. Пра што ён думае пры гэтым — невядома, і я, каб унікнуць перспектывы чарговы раз стаць суразмоўцам — цяпер ужо дапытліваму ўсходняму сябру, — хуценька іду ў свой пакой.

У нумары прахалодна і нязвыкла — пасля святочнае гамэрні ў горадзе ды несупыннага тараторання Фаіны — ціха. Я кладуся на ложак з надзеяй хоць на хвіліну заснуць, але дарэмна. Ледзь змежваю павекі, як перад вачыма ўзнікае пастава віцэ-консула Васі Калевіча. Да ягонага прыходу, калі ён насамрэч прыйдзе, застаецца дзесяць хвілін. Што ён хоча? Зноў пачне казытаць згадкамі пра тое далёкае вясковае? Вось ужо з кім хацеў бы я як менш размаўляць. Ды так яно: чаго пазбягаеш, тое і даганяе.

Пра Тоніка я не думаю. Дакладней, думаю, але думкі пра яго — абрывістыя і вялыя — самі міжволі чэзнуць, ледзь нарадзіўшыся.

Хтосьці падыходзіць да дзвярэй, кранае ручку.

Набрыяліненая віцэ-консулава галава з праборам на левай скроні энергічна ўсоўваецца ў праём, падхоплены скразняком з форткі водар адэкалону разліваецца па пакоі.

— Прабач, што турбую. З раніцы шукаю моманту з табою перагаварыць, — кажа ён і сядае на ўчарашняе месца. — Я замовіў каву, дык пагамонім крыху. Ты не супраць?

— Хай будзе так, — ці то кажу, ці то думаю — у галаве туман — я.

Таня ўваходзіць у нумар, ставіць на стол два кубкі кавы і сподак з печывам, уключае электрагарбатнік.

— Што не ў гуморы? Бачыўся з Тонікам?

— Адкуль вы ведаеце пра мой намер з ім пабачыцца?

— Што ты ўсё выкаеш? Мог бы і тыкнуць раз дзеля прыліку, гэтулькі гадоў знаёмыя. Адкуль ведаю? Здагадаўся, калі ты сказаў, што шукаеш чалавека. Каго тут табе яшчэ шукаць? Я, дарэчы, таксама яго доўга расшукваў…

— І ці знай… шлі? — Я хачу сказаць “знайшоў”, але язык пратэстуе. — Знайшлі?

— А як жа, знайшоў, канешне. — Ён перастаўляе кубак са стала на канапу, старанна перамешвае пітво лыжкай. — Усё пустое, яму нічым не паможаш. Патэнтаваны хронік. Купіш касцюм, і заўтра ён яго прап’е. Грошы дасі — і толькі горш зробіш, бо будзе квасіць да пасінення. Гэтаксама з працаю. Неяк памог уладкавацца вартаўніком у кветнік, і што ты думаеш? Збег, не вытрымаў “рэжыму”. А рэжыму таго — пасядзецьпахадзіць ля ружаў-лілеяў тры разы на тыдзень. Некандыцыі заўжды шмат, пры жаданні і гандлянуць можна, сякую-такую капейчыну ў сям’ю прынесці. Дзе там, баронь бог! Палячыцца прапаноўваў — і слухаць не жадае. Ат, што пустое казаць… Чалавек без тармазу. Тут упісвацца трэба ў новыя рэаліі, а гэта — не па ім. Не ўпісаўся і ніколі не ўпішацца. І адсутнасць грамадзянства, і іншае такое — не ў тым справа, усё значна прасцей. Людзі ж жывуць тут і няблага жывуць, хоць бы вашых некаторых узяць…

— Што ж будзе з ім?

— А хто ведае… Змерзне калі ўзімку, ці аўто прыдушыць п’янага. Звычайная рэч, на жаль…

— Чаму вы гэтак пра яго клапоціцеся?

— Таму што адчуваю віну перад вамі ўсімі. Ты ж ведаеш: з-за Ларысы. Гэта заўсёдны мой боль. — Ён адсоўваецца ў глыб пакоя, суцішваецца. — Не ведаю, што і думаць, як тады яно атрымалася. Тры разы мы толькі з ёю ўсяго пабавіліся, ды і гумкаю я карыстаўся. У падстоллі ў вас пачак быў, я браў цішком… А во як атрымалася, хто б мог падумаць… Я праз паўгода дзесьці пра ўсё даведаўся, месца сабе не знаходзіў. Я бабнік, канешне, дрэнь, ды не быдляк жа кончаны… Чаму ты маўчыш? Скажы што-небудзь.

— Што я магу сказаць?

— Хоць што! Мацюкніся ці плюнь на мяне…

— Не бачу сэнсу. Ды, папраўдзе, і права наўрад маю… Тады б — плюнуў, і не толькі… — Словы самі вымыкаюцца з маіх вуснаў — такое ўражанне, быццам не я іх прамаўляю, а хтосьці іншы, хто сядзіць ува мне зараз і хто, мабыць, сядзеў заўсёды, ды не асмельваўся да часу вымыкацца ўсе гэтыя гады. Вымыкаюцца лёгка, як пераспелае зерне з коласа, як пара з гарбатніка, што вось ужо колькі часу сіпіць, заходзіцца ёю, пакрыўджаны няўвагаю людзей, на падваконніку. — Хочаце яшчэ кавы?

Ён падстаўляе кубак, нашы рукі на хвіліну судакранаюцца, і я адчуваю, як дрыжыць ягоная.

— Табе так абыякавае мінулае?

— Мінулым не будзеш жыць вечна. Ды і рахункі ў кожнага свае да яго.

— Я не ведаю, не ведаю, як гэта здарылася, — кажа ён і насыпае ў кубак каву. — Сорак гадоў мкнуся даўмецца і ніяк не дам рады… Ты мне не верыш…

— Чаму, веру, — гэтым разам сваім, а не таго, хто староннi ўва мне, голасам адказваю я i падаю яму цукар.

— Праўда? — ажно падскоквае ён ад радасцi i ўпiваецца мне даланёю ў запясце. — Няўжо праўда?

— Ад’язджаем, ад’язджаем, — даносiцца з калiдора голас Жаны.

Сiвы, з плехам на ўсё цемя чалавек падымаецца з месца, нiбыта жадаючы ды нiяк не могучы скiнуць з плячэй не абы-якi цяжар, торгае плячыма. Мне шкада яго, ды не настолькi, каб тут жа, гэтае хвiлiны спынiць яго ды падзялiцца з iм цяжарам уласным.

У бары тлумна i горача, пахне каваю. Моладзь трэцца ля стойкi з напоямi, гучна перамаўляецца. Зала, у якой мае быць вячэра, знаходзiцца за перагародкаю насупраць, там пуста, толькi бачна, як завiхаюцца ля сталоў афiцыянткi.

Двое хлопцаў, пабраўшыся за рукi, размаўляюць у прыцемку на канапе, то аддаляюцца адзiн ад аднаго, то зноў злiваюцца ў экстазе ўзаемаразумення. Яны сядзяць так шчытна, што ценi iх сiлуэтаў на сцяне злiваюцца ў адзiн. Адзiн з хлопцаў устае, хiсткiм няпэўным крокам накiроўваецца ў мой бок.

Бледны, з кругамi наўкола вачэй твар, знаёмая ўсмешка. Другi таксама падымаецца, iдзе следам за першым.

— Гэта Валiк, мой сябар. Мы пазнаёмiлiся праз iнтэрнэт, а потым аказалася, што i жывем у адным мiкрараёне. Вы бачылi бацьку?

Валiк, падае мне руку, стульвае вусны ў iранiчнай усмешцы.

— Не, не бачыў, на жаль. I не ведаю, цi ўжо наогул пабачу. Наўрад паспею, заўтра ад’язджаць…

Андрыс прыхінаецца плячом да стойкі, абводзіць паглядам шыхт бутэлек на вітрыне.

— І не варта, — кажа бы між іншым і, какетліва выгнуўшыся зацягнутым у скуру станам, абдымае Валіка.

— Чаму?

— Таму што ён сам не жадае нікога бачыць.

— І цябе?

— Магчыма, жадае. Але я не жадаю.

— Чаму так?

— Не жадаю, і ўсё. Хай жыве, як хоча. Кожны мае права жыць, як хоча. Вас здзіўляюць мае паводзіны? Можаце не адказваць, сам бачу: здзіўляюць. А мне пляваць. Днямі мы з Валікам едзем у Юрмалу. Потым, калі ўдасца, перабярэмся куды-небудзь у Еўропу. Магчыма, у Манчэстар паедзем, да Іркі… Вось так, бывай, Т.! Дарэчы, здзіўлю вас яшчэ раз: я не підар.

— Як так?

— Вельмі проста, звычайны падман, блеф. Насуперак бацькам, калі даведаўся, што маці не хацела мяне раджаць. Які гэта быў для мяне ўдар! Спачатку я ад злосці ды крыўды падзіравіў ім усе гумкі. Натыкнуўся ў шуфлядзе пры ложку на пачак — і голкаю іх, голкаю… Мяне не хацелі, дык вось вам ад мяне дарунак! Вам, вясковаму, ужо прабачце за нетактоўны напамін, у маім узросце гэткія жарсці, пэўна, і не сніліся… Ды дарэмна я з тымі гумкамі стараўся, абышлося без брацікa-сястрычкі. Шкада… А праз год мы вось пазнаёміліся з Валікам, і тады я вырашыў папомсціцца інача́й. Маці любіць пра жаніцьбу завесці пры нагодзе гаману, ну, там пра нявестку, унукаў — звычайныя жаночыя тары-бары, самі ведаеце. Вось тады я і аб’явіў пра сваю нібыта блакітнасць. Так і так, нічога з наш-

чадкамі не атрымаецца, агідныя мне жанчыны, мужчын люблю. Маўляў, вось вы пры нараджэнні без ахвоты такога, як Бог даў, мяне прынялі, дык цяпер такога прыміце, якім сам хачу быць. Нібыта хачу, разумееце?

— Значыць, усё гэта — тэатр, маскарад? Усе гэтыя часопісы, манера апранацца? Ці не занадта жорстка ў дачыненні да маці?

— Можа, і жорстка, але — справядліва, згадзіцеся. Да таго ж я павінен цяпер, абавязаны падтрымліваць Валіка. Ён быў адзіны, хто зразумеў мяне, калі было кепска, памог у нядобрую хвіліну… Цяпер мая чарга. І мне пляваць на яго арыентацыю. Любіць трэба тых, хто нас любіць, ці не так? І не трэба мяне перасцерагаць: ах, што, як крый бог… Тым болей што, можа, і прыдасца мне, і неаднойчы, яшчэ ўвесь гэты, як вы кажаце, маскарад. Кажуць, у замежжы праз гееўскае асяроддзе заўжды прыезджым лацвей уладкавацца, чым праз якое іншае. Вось і скарыстаюся… А маці… Ёй скажу наастатак, ад'язджаючы, каб надта не перажывала. Скажу, вядома… І зараз бы сказаў, ды рагязы не хочацца лішне нарабляць. Ужо няхай будзе да часу, як ёсць.

— Гэта, напэўна, цяжка?

— Што?

— Удаваць таго, кім не з'яўляешся. Не быць сабою.

— А вы заўжды такі, як насамрэч? А іншыя? Колькі вы прыгадаеце сваіх знаёмых, якія нічога і нікога не ўдаюць? Шмат? Ісці насуперак заўжды цяжка, вы гэта, пэўна, ведаеце не горш за мяне. Але ж што за жыццё будзе, як ніхто не будзе таго рабіць…

— Навошта вам з'язджаць, вы маглі б і тут няблага ўладкавацца.

— Тут? Вы не ўяўляеце, што такое правінцыя. — Ён змаўкае на хвіліну, скоса, нібы вагаючыся, ці казаць,

што думае, ці не, пазіраючы на мяне, прамаўляе: — Вы гэтак перажываеце за бацьку, між вамі, напэўна, што-небудзь было ў маладосці? У сэнсе…

Тройца нашых на чале з Жанаю ўваходзіць у бар, накіроўваецца ў банкетную залу, дзе ўжо шмат — і калі паспелі прыйсці? — іншых гасцей. Фаіна ў суправаджэнні Зямені і спадара Ду праплывае паўз мяне, абдае воблакам парфумы.

— Хадзем, хадзем, — кажа Зяменя і цягне мяне следам за паэткаю ў банкетную залу.

— …у сэнсе сексу, — выгукае наўздагон нам Андрыс, і ягоны голас працінае мне вушы бязглуздасцю прыпушчання.

Вячэра расцягваецца да поўначы. Першымі адыходзяць — употайкі, ні з кім не развітаўшыся, — Фаіна і Зяменя. Усе на добрым падпітку, таму ніхто знікнення пары, здаецца, не заўважае. Толькі незадаволены спрытам суперніка і вераломствам паэткі таварыш Ду маркотна круціць у руцэ недапіты келіх ды чухае галаву.

Жана размаўляе з кімсьці па мабільніку.

— Мэр просіць конча яе дачакацца, — кажа па размове і цярэбіць у руцэ сурвэтку. — Яны толькі што праводзілі прэзідэнта, і яна ўжо едзе сюды. Літаральна пяць хвілін пачакаць…

Папярэджанне выглядае як просьба, але гэта лішняе: і без таго пакідаць гасціну ніхто не спяшаецца.

Мне цікава, чаму няма віцэ-консула, але даймаць такім пытаннем Жану не хочацца, і я маўчу.

Мэр уваходзіць у залу, накіроўваецца да столікаў: ветлівая, паводле этыкету, усмешка, падзяка за візіт, апошні, пад сцішаны гул застолля, тост.

— Ну, вось, і фініш, здаецца, — кажа Жана, і мне чуецца ў яе голасе палёгка.

У зале пры стойцы, дзе бавіцца моладзь, яшчэ больш шматлюдна, як напачатку, і я затрымліваюся на хвіліну ў спадзеве ўбачыць Андрыса. Ён сам заўважае мяне, ідзе напярэймы.

— Не крыўдуйце на мяне, — кажа і разводзіць рукі ўбакі. — І не засмучайцеся, што бацьку не пабачылі. Я пашукаю яго, скажу, што вы былі. Калі ён у стане будзе хоць што ўспрымаць. Шкада, што ўжо з'язджаеце.

— Мне таксама, — кажу я, і маё ненаўмысна-злачыннае мінулае, згарнуўшыся да памеру пары ягоных вачэй, што глядзяць мне ўслед (я заўважаю іх у люстэрку перад дзвярыма), нябачным ценем валачэцца следам за мною да выхаду.

На дварэ дождж, гэтым разам, праўда, без навальніцы. У аўтобусе прахалодна і вольна: кітайцы ад'ехалі раней, каб паспець на цягнік да Рыгі, ды і нашых паменела.

— Вы ці не скралі сурвэтку? — смяецца Жана і хапае мяне за руку. — Ай-я-яй, ну ж сорам!

Далонь мая выпростваецца, жоўта-залацістая вышыванка бліскае ў паўзмроку дробнымі кветкамі, падае долу. Я адчуваю сябе няёмка, і Жана літасціва прыходзіць мне на дапамогу.

— Не камплексуйце, — кажа і кладзе сурвэтку сабе на калені. — Не знарок жа вы яе панеслі, з кім не здараецца. Хай у мяне застаецца, вярну як-небудзь пры нагодзе ў бар. — Яна разглядае тканіну, і вочы яе загараюцца гарэзлівым агнём. — А можа і не вярну. Рэч

неблагая, застанецца хоць што на памяць пра вас. Яня прыгожыя рэчы любіць, дарма што вясковая.

— Яня? Ваша дачка, мабыць?

— У мяне сын, адзіны. Яня — гэта я сама. Іаана, а яшчэ правільней — Югана.

— Ажно чатыры імі! Але ж! Амаль па адным на кожны дзень тыдня!

— А вы думалі… Ці ж мы з вамі, беларусіны, такія простыя людцы? Ну, вось, цяпер вы ўсё пра мяне, здаецца, ведаеце. Усё, што жадалі, і нават больш.

Я хачу спытаць, ці добра гэта, ці кепска — больш, але Жана апярэджвае мяне бадзёрым, бы майскі гром, смехам. І мне нічога не застаецца, як бегчы следам за астатнімі ў гатэль, каб там, удалечыні ад староннніх вачэй, аддацца чарговы раз чарвячку сумневу. Таго самага, што ўранні ўсё яшчэ бадзёрыць душу спадзевам на спатканне з Тонікам, а напрыканцы дня, спанталычаны маёю нібыта незнарочыстаю — ах, гэтая мітусня! — абыякавасцю да лёсу сябра, выпаўзае вужакай з нетраў памяці і вярэдзіць, вярэдзіць глузды дакорам.

У гатэлі ціха, нават цішэй, як учора. Толькі што з'ехалі літоўцы, рыхтуюцца да ад'езду і іншыя дэлегацыі, так што да раніцы застаемся адно мы. Я іду да пакоя Зямені, каб папытацца, у колькі ад'язджаем, але ён не адзываецца: мабыць, Фаіна залюляла вершамі пра каханне.

Размова з Андрысам раз-пораз пракручваецца ў мяне ў галаве, не дае спакою, вярэдзіць адчуваннем віны перад Тонікам: трэба, трэба было расшукаць. Ды далей дакору справа не ідзе: я занадта стомлены ды і куды зараз, сярэдначы, бегчы?

Я лезу пад душ і затым, ледзь вярнуўшыся да ложка, адразу засынаю.

Мне сніцца бацька. Ён вышчэплівае ў шуле сякераю чарговы пазок. Трэскі з шумам пырскаюць з-пад ляза, разлятаюцца ва ўсе бакі. Раптам сякерышча крышыцца, і бацька, не жадаючы марнаваць час на яго замену, пачынае хуценька — надвячорак, а паспець скончыць працу трэба да змяркання — вышчэпліваць дрэва кіпцюрамі. Драўніна каляная, і бацькавы далоні ўвобміг робяцца чырвонымі ад крыві.

Людзі без твараў — ні вачэй, ні вуснаў, ні насоў — па чарзе ўзыходзяць на трасотнік, бяруць па шчэпіне, хаваюць пад вопратку. Ларыска, цётка Адальфіна, дзядзька Міхал, маці, усіх іх я пазнаю па паставах. Апошнімі з'яўляюцца на трасотніку Рэгіна і Тонік.

Бацька выдзірае з камля чарговую шчэпку, яна, пакружыўшыся ў паветры, з ціхім шоргатам кладзецца ля Тонікавых ног. Тонік нагінаецца, каб падняць яе, але не дае рады: шчэпка выслізгвае з ягоных рук, падхопленая ветрам, узлятае на дах клеці.

Дзядзька Міхал выходзіць наперад, каб аддаць Тоніку сваю, але той не хоча браць і борзда, як толькі можа, бяжыць прэч, туды, дзе чырванеюць цэглаю муры старое фартэцыі.

"Ну, а ты што?" — кажа бацька і падае мне скрываўленую, з вялізным мазалём на далоні руку. Я мкнуся дацягнуцца да яе, але не паспяваю. Моцны вецер уздымаецца над нашымі галовамі, падхоплівае мяне, нясе кудысьці.

Агромністы, як мора, мегаполіс свеціцца агнямі ўдалечыні, і вось я ў ім, і вузкавокі чалавек з бэджам на грудзях вядзе мяне дзівіцца на чайную цырымонію.

Гейша па імі Фаіна выходзіць нам насустрач, вершы раямі вылятаюць з яе вуснаў, асядаюць гірляндамі на галінах магнолій. “Вунь яны”, — кажа яна і ківае ў бок прыбудовы, у якой стаяць (усё бачна, бо дзверы будыніны расчыненыя) прыкутыя ланцугамі да слупа, бы святы Пётра ў Мамерцінскай вязніцы, віцэ-консул Вася Калевіч і Тонік.

Бэлькі выслізгваюць з шула ў куце прыбудовы, абрушваюцца на Тоніка. Я кідаюся ратаваць сябра, але мяне апярэджвае бацька. “Парода да пароды мусіць быць, а яшчэ лепш — калі добра падагнана”, — кажа і заганяе бэлькі сякераю ў пазы. Ды яны зноў праз хвіліну вымыкаюцца адтуль, з грукатам падаюць нам на галовы. Бацька разгублена міргае, хапае адною рукою за плячо Тоніка, другою мяне, цягне прэч з прыбудовы…

Парушаныя грукатам будынкі мегаполіса ўздрыгваюць, паволі распаўзаюцца ва ўсе бакі, трушчачы паселішчы наўкола, мкнуцца ўсё далей і далей і ўрэшце, калі ўсё пачынае нагадваць пустэльню, асядаюць долу…

Гэта апошняе, што я бачу: воблака пылу паўзе па-над зямлёю, і густая, як ноч, цемра запаноўвае над усім…

Я прачынаюся а шостай. Ад’езд а дзявятай, і ў гатэлі ціша, толькі кроплі дажджу, што сцякаюць на падваконнік з даху, парушаюць яе аднастайным, метадычным цурчэннем.

Падымацца не хочацца, і я доўга качаюся ў ложку, то праглядаю прэзентаваныя Ілгаю і Жанаю напярэдадні праспекты, то проста ляжу ўтаропіўшыся вачыма ў столь. Сілюся зноў заснуць, але беспаспяхова: ледзь змежу павекі, як пачынае здавацца, быццам я не ў пакоі,

а ў нейкай скрыні. На шчасце, сродак змагання з гэткаю пошасцю мне вядомы: уключыць святло і ляжаць, ляжаць з расплюшчанымі вачыма, пакуль туман не зацемніць глузды.

Прахопліваюся я зноў ад тэлефоннага званка.

— Прабачце, — кажа парцье, — вы прасілі пабудзіць вас а палове восьмай.

Зборы займаюць паўгадзіны.

Калі я спускаюся ў хол, усе нашы і Жана ўжо там. Усе паснедалі ўжо і цяпер мусяць чакаць, калі тое ж зраблю я.

Аўто стаіць на рамарэнце пры браме. Зяменя садзіцца побач з кіроўцам, загадвае запускаць матор.

— Фаіна тэлефанавала, жадае ўсім шчаслівай дарогі, — кажа Жана і схмурвае тонкія ільняна-шэрыя броўкі. — Я таксама. Шкада, што ад’язджаеце, вельмі, вельмі было з вамі добра.

Яна яшчэ нешта кажа, але я не ўслухоўваюся ў яе словы. Увагу маю прыцягвае чорная “volvo”, што з’язджае з шашы ў завулак. Мне падаецца чамусьці, што гэта віцэ-консул Калевіч, і я прашу Зяменю хвіліну пачакаць.

“Volvo” спыняецца ля брамы, разварочваецца, вяртаецца зноў на шашу.

Значыць, не віцэ-консул. Дзіўна, але мне нават шкада, што гэта не ён — быццам абрываецца апошняя повязь з мінулым. З не надта прыемным і ўсё ж — блізкім, дарагім.

— Ну, з Богам, — кажа Зяменя, і аўто вырульвае на шашу следам за “volvo”.

Дарога да мытні займае дзве з паловай гадзіны — з улікам часу, што змарнавалі ў краме на выездзе з Т.

дзеля набыцця мясцовых рознасцяў-прысмакаў. Разлічвалі прабыць там хвілін дзесяць, а правалэндаліся ля паліцаў, бы тыя жанкі, усе сорак. Затое і затавaрыліся: багажнік як не трэсне.

— Можа, гэтым разам больш пашанцуе, не давядзецца зашмат чакаць, — кажа Зяменя і загадвае кіроўцу прытармазіць вярсты за тры ад памежнага шлагбаума. — Усе пры дакументах, ніхто не забыўся пашпарт у гатэлі?

Пытанне рытарычнае і гучыць недарэчна, ды ніхто пярэчыць Зяменю не жадае: што карысці псаваць нервы ды яшчэ ў гэткую спёку?

Чорнае аўто нячутна падрульвае ззаду, спыняецца побач з намі. Віцэ-консул Калевіч вылазіць з яго, вітаецца з кожным за руку, просіць мяне выйсці на хвіліну. Адводзіць убок, ціха, нібы асцерагаецца, каб не пачулі нашую гаману астатнія, кажа:

— Там паглядзі, хата іхняя нібыта пустая стаіць, можа, угаворым Тоніка пераехаць. Можа, хоць родныя сцены памогуць яму, так бывае, ведаеш… А я, калі што якое, тут плячо падстаўлю, памагу з афармленнем дакументаў. Даведкі там розныя, іншыя паперы… Абы толькі сам ён не ўпёрся рогам… Дык памяркуй… Грошы спатрэбяцца — не шкадуй, усё сплачу, да капейкі.

— Няблага было б, — адказваю я, і нявер’е ў станоўчы зыход ягонае задумы прабіваецца паўз мае вусны так незаўважна, што я і сам яго ледзь-ледзь улоўліваю.

— Ну, тады бывай, — кажа ён і ідзе да машыны.

Я гляджу яму наўздагон, і ўражанне, што час спыніўся, захрас на мяжы двух светаў, ахоплівае мяне. Як неўпрыцям усё зрабілася неістотным з прамінулага жыцця, як незаўважна аддалілася, стала абыякавым тое, што калісь гарачыла кроў, казытала глузды спадзевам на новыя далягляды!

Мне горача і хочацца як хутчэй дадому. Я думаю пра няспраўджанае жаданне цёткі Шуры вярнуцца па мужавай смерці дажываць век у родныя мясціны, затым пра Тонікавых сына ды дачку, што асталююцца, хутчэй за ўсё, назаўжды ў якой-небудзь Англіі, урэшце, пра сваіх сыноў, унукаў і жонку і міжволі — каторы раз за апошнія дні — згадваю бацькава шула і яго больш як саракагадовае даўніны размову з дзядзькам Міхалам на трасотніку.

Жаночы твар з няпэўнымі абрысамі — маці? Ларыска? Рэгіна? — мільгае перад маімі вачыма, я правальваюся ў хісткую, як марыва над полем пасля дажджу, дрэму. І прачынаюся толькі ў Мураванцы — ад Зяменевага воклічу:

— Охці-вохці, ёрш т-тваю р-раз, было — і няма.

Я прахопліваюся ад одуму, і відарыс са збураным котлішчам рымара Ванагіса, што паўстае наўзбоч, збівае мяне з тропу: ні коміна, ні падпечка, ні нават цагліны. Толькі самотны куст парэчніку ды сляды ад падводы, што губляюцца сярод прыбітага коламі быльнягу, ды ўсё тая ж купка здзічэлых вішняў на краі паўвыспы.

— А ўмеюць частаваць гэтыя еўразвязаўцы, умеюць пыл пусціць у вочы, — кажа Зяменя і смачна пружыніцца ўсім целам. — А няхай…

Мытнік, той самы, што гэтак доўга мучыў нас тры дні таму чаканнем на ўездзе, падыходзіць да аўто, каб спраўдзіць дакументы, і чарада ластавак між кроквамі ангара адзываецца на ягоныя крокі похапліва-сцішаным шорганнем крылаў.

## I

— Вось так яно ўсё і выплывае на свет Божы, — з выглядам чалавека, які згубіў падчас стыхійнае навалы ўсіх сваіх крэўных, прамаўляе Алуша, і гэтак знаёмая Дарашэнку напятасць жончынага голасу канчаткова пазбаўляе яго надзеі на які-кольвек дыялог. — Дык у вас з гэтаю Люсяй, можа, і дзеці ёсць? Можа, і ўнукі таксама? А мы і чуць пра іх не чулі, і ведаць не ведаем. Пазнаёміў бы ўжо, ці што… Ёсць? Колькі? Ну, прызнайся!

Твар яе пярэсціцца плямамі, колер вачэй імкліва перамяняецца з шэрага на рудаваты — першая прыкмета, што прыступ злосці будзе працяглым. А гэта значыць — спрачацца не варта. Бо цяпер яна будзе гаварыць ды гаварыць, як заведзеная, аж пакуль не стоміцца. І кожнае ягонае неабачлівае слова толькі падліе масла ў агонь. Такая ўжо ў кабеціны заюшлівая натура, нездарма ж — мастачка.

Алуша вырабляе батык і прадае яго праз ралет на кірмашы. Галоўным чынам гэта выявы дзявочых твараў і экзатычных кветак на фоне бляклых пасаў дажджу ці, наадварот, да рэзі ўваччу яркіх сонечных прамянёў. Да таго, як заняцца батыкам, жонка працавала настаўніцай малявання ў школе для дзяцей з затрымкамі псіхічнага развіцця, што, відаць, і паўплывала, хоць сама яна так не лічыць і баронь бог лішні раз нагадаць ёй пра тое, на яе творчую — або толькі чорнае, або толькі белае, і ні пядзі ўбок — палітру.

— Алуша, ну чаму нельга пагаварыць спакойна? — употай спелячы спадзеў хоць на якое, хоць на самае кволае, замірэнне, прамаўляе Дарашэнка. — Мы ж не дзеці, здаецца… Можна высветліць усё цывілізавана…

— Во-во, цывілізавана! Цы-ві-лі-за-ва-на — о, як гэта ўпісваецца ў тваю жыццёвую схему: паводзіны абавязкова ў адпаведнасці з узростам і каб усё пры тым было цывілізавана і ціха! А дакладней — шытакрыта. І гэтаму ты, мабыць, і моладзь вучыш? Нішто сабе навука!

Апошняе — намёк на Дарашэнкаву працу ў тэхнікуме, дзе ён па выхадзе на пенсію, каб крыху падперці хісткі сямейны бюджэт, застаўся выкладаць на чвэрць стаўкі сваю фізіку. І хоць словы Алушыны па-ранейшаму гучаць злосна і твар яе ўсё яшчэ гарыць абурэннем, ён, аднак, не можа не заўважыць, што гэта ўжо не тыя неўтаймоўныя злосць і абурэнне, што былі напачатку. Значыць, неўзабаве яна супакоіцца, і прыступ агрэсіі зменіцца апатыяй. Вось толькі калі тое будзе?

Ох, сітуацыя! І собіла яму вымкнуцца з тым двухгадовае даўніны Люсіным лістом! Быццам Люсі, з якою яны не бачыліся сорак з гакам год, адно і клопату, што чакаць ягонага прыезду. Тым больш што і не адпісаў

ён тады Люсі, хоць, папраўдзе, і карцела. Але як ты давядзеш Алушы, што ягоная пуцёўка менавіта ў той самы дом адпачынку, дзе два гады таму рабіла Люся, — чыстая выпадковасць? Што зусім не дзеля спаткання з Люсяй, а адзіна каб крыху падлячыцца ды пабыць у адзіноце, падалей ад абрыдлых хатніх клопатаў, ён туды выпраўляецца? І наогул, невядома яшчэ, ці працуе яна ў гэным доме…

— Спадзяюся, ты хоць не забыўся пра наш заўтрашні візіт да Кірыкаў, — кажа Алуша, і перамена тэмы размовы, ды яшчэ ў такім неспадзявана ціхамірным тоне, міжволі прымушае Дарашэнку насцярожыцца. Алушын характар — як надвор'е ўвосень: на тыдзень зменаў восем. І галоўнае, ніколі не ведаеш, якім сюрпрызам абернецца праз хвіліну ўдаваная лагоднасць.

— Не забыўся.

— Ну, і на тым дзякуй… Хоць нешта ўрэшце…

Кірыкі — сям'я Алушынага стрыечнага брата-бізнесоўца Андрэя. Неблагія, хоць, папраўдзе, светапоглядна не так ужо блізкія Дарашэнкам людзі.

Узмажнеўшы ў бурапенны час перабудовы на вывазе ў Польшчу прасаў і рознага іншага побытавага прычындалля, Андрэй Кірык і ягоная жонка Нэля, былая доктарка, так удала распарадзіліся займетымі ад таго паўлегальнага гандлю грашовымі сродкамі, што сёння могуць дазволіць сабе рэчы, якія Дарашэнкам і не снілася. Да прыкладу, тую ж выправу ў Прагу, з якой днямі вярнуліся, нагружаныя пад завязку бра ды люстрамі з праўдзівага чэшскага шкла.

Заўтра спаўняецца дзесяць год, як не стала малодшай дачкі Кірыкаў Олі, адной з дзвюх забітых нейкім маньякам з інтэрваламі ў паўмесяца дзяўчын-падлеткаў. Злачынствы тады шмат нарабілі галасу ў мікра-

раёне і ва ўсім горадзе, ды так і засталіся, здаецца, дасюль не раскрытымі.

— Не забыцца купіць чаго-небудзь. Лікёру можна, Нэля любіць лікёр. Ці каньяку… Цукерак якіх, печыва альбо торт… А то заявімся без анічога, з пустымі рукамі, няёмка будзе.

Перавод гаманы ў практычнае рэчышча канчаткова супакойвае Дарашэнку. Да таго ж з калідора даносіцца званок.

Алуша ідзе адчыняць, і праз хвіліну ў дзвярах вырастае мажная Ігарава постаць. Іх дваццацісямігадовы сын-аспірант, які паставіў сабе за мэту не жаніцца раней, як абароніць кандыдацкую дысертацыю, жыве асобна ад бацькоў, у інтэрнаце, і ягоны прыход — дадатковая гарантыя, што вяртанне да тэмы пра Люсю сёння не пагражае.

Ігар — вялікі майстар мірыць продкаў. І робіць ён гэта так спрытна, з выкарыстаннем такіх тонкіх прэвентыўных захадаў, што Дарашэнка і Алуша часам і міргнуць не паспяваюць, як тэма спрэчкі ўжо надзейненька зачынена.

— А, дыпламат наш сямейны, як добра, што завітаў! Заначуеш у нас? — кажа Алуша і, атрымаўшы станоўчы адказ у выглядзе сцвярджальнага сынавага кіўка, дастае з серванта бутэльку віна. Заўтра з раніцы, перад тым як выправіцца да Кірыкаў, яна яшчэ мае намер схадзіць у капліцу, а якая ж малітва ў гэткім растузаным стане… То вось, можа, фужэрчык напою якраз і адцягне думкі ад прыкрае перапалкі з мужам ды дадасць раўнавагі перад споведдзю…

Што ў сына непрыемнасці з абаронай дысертацыі, бо ягоны навуковы кіраўнік акурат за месяц да яе ўмудрыўся грунтоўна перасварыцца з-за нейкай драбязы

з калегамі з атэстацыйнай камісіі і цяпер немінуча чакай помсты з іх боку, яна, як і муж, ведае не горш за самога Ігара. Але распачынаць прыкрую размову не жадае: карысці з тае гамонкі, толькі развярэдзіш душу перад ноччу ды сапсуеш дарэшты і без таго далёка не мажорны настрой.

Палова дзявятай, а на дварэ, нягледзячы на задуху апошніх дзён, шэра і хмурна, як у верасні. Гэтаксама шэра і ў кватэры, толькі блікі ад экрана слізгануць раз-пораз па адпятай на палову акна гардзіне. Сфакусуюцца на імгненне вузкім пукам святла на паставах мужчын пры тэлевізары і зноў рассыпяцца веерам па шчыльна завешанай батыкам сцяне.

— Не дрэнкен коп![*] — дэманструючы, як заўсёды ў хвіліну ўзруху, ашмёткі ведаў з замежных моваў, якія яна раз-пораз папаўняе праз гартанне розных размоўнікаў (рэцыдыў няздзейсненага намеру вывучыцца на перакладчыцу), кажа Алуша, і выраз яе твару, і без таго не сказаць каб лагодны, робіцца яшчэ больш незадаволеным. — Што мне да вашага салона ды ўсёй гэтай аўталухты? Толькі і чуеш штодня: стырно, запальванне, каробка перадач… Быццам ужо і размаўляць больш няма пра што. Я ў такім мандражы, а вы са сваімі глупствамі.

Яна ўсторквае на ногі туфлі, знікае ў ванным пакоі.

Глупствы, на яе думку, — мужава з Ігарам пустое (“ані яны вам калі свецяць, гэткія машыны!”) захапленне найноўшымі аўто. Прычына яе мандражу — споведзь, дзеля якой яна збіраецца ў капліцу ледзь

[*] Не тлумі галавы! (сапс. з ідыш).

не ад самага золаку і дзеля якой нават адмовілася ад звыклай ранішняй цыгарэты.

Ды, як захапленне мужчын машынамі яна лічыць бессэнсоўным, бо і насамрэч яно ў практычным плане далей прагляду ды абмеркавання перадач тэлеканала DISCOVERY не сягае, так і яе пабожнасць, у сваю чаргу, ім таксама чымсьці надзвычайным не здаецца.

Дзесяць год таму Алуша выбрала канфесію так паспешліва, у такім эмацыйным запале, што наўрад той выбар можна лічыць дарэшты ўсвядомленым і абгрунтаваным. За выняткам хіба таго няпэўнага, нічым не пацверджанага прыпушчання, быццам хтосьці з яе продкаў быў католікам. Пра што павінна сведчыць і яе метрычнае каталіцкае імя Альдона, якое яна сама падчас вучобы ў інстытуце памяняла на больш звыклае Ала. Дарашэнку часам нават здаецца, што яна ўжо ўпотай шкадуе аб зробленым выбары і пры выпадку зноў вярнулася б да зручных — жыві, як жывецца, і ніякага табе рэлігійнага свербу — часоў нікуды-не-належання.

— Вось, я ў поўным ажуры, — абзываецца Алуша — яна ўжо ў калідоры — і застывае перад люстэркам. — А вы што седзіце? Ігар, развязеш нас? Я спачатку ў капліцу, а адразу па споведзі — да Кірыкаў. Так што чакай мяне там, Зянонавіч, чуеш? — Яна нахіляецца да мужа, слізгае далонню па ягоных валасах.

Любасны жэст — няйначай, дзеля прыліку, але Дарашэнку бачыцца ў ім жаданне канчатковага прымірэння пасля ўчорашняга непаразумення, і ён згодна хітае галавой.

Жытло Кірыкаў месціцца на восьмым паверсе. І ўсё тут іначай, як у Дарашэнкаў. Перагародка з нержавейкі

перад ліфтам. Дыванок у самім ліфце. Падвойныя масіўныя дзверы з надпісам +*К*+*М*+*В* угары. Надпіс сведчыць, што гаспадары жытла, як і Алуша, — каталікі.

Насамрэч каталічка толькі гаспадыня, Нэля, якая, у адрозненне ад Алушы, ведае свой радавод да шостага калена. А прозвішча аднаго з прашчураў, сына збяднелага шляхціца, нядаўна нават адшукала ў спісе манахаў разбуранага з прыходам Саветаў на "крэсы" францішканскага кляштара часоў Рэчы Паспалітай.

Жанчыны калі-нікалі разам ходзяць у капліцу, хоць сказаць пры гэтым, што надта сімпатызуюць адна адной, не выпадае. Алушы не даспадобы Нэліна меркантыльнасць. Нэлю раздражняюць у Алушы катэгарычнасць меркаванняў і празмерная схільнасць да фемінізму. Што, аднак, зусім не перашкаджае ім супрацоўнічаць падчас дабрачынных акцый, якія штомесяц наладжвае мясцовае аддзяленне "CARITAS"* для дзяцей-сіротаў і інвалідаў.

Букет пахаў ірвецца Дарашэнку насустрач з кухні, і ён у думках хваліць жонку за падказку купіць лікёру.

— Памятаеце, які сёння дзень? Ну, дзякуй, — кажа Нэля і падае мужу знак адкаркаваць напой. — А мне здаецца часам, што ўсе забыліся пра нашу дачушку. Людзі так хутка пра ўсё забываюцца… І тым больш прыемна, што хоць вы з Алушай памятаеце.

Яна вядзе госця ў пакой, дзе пры Олінай фотцы на стале са стравамі наўзбоч новага чэшскага бра з шыкоўнымі падвескамі гарыць свечка.

— Вось, як жывая дзяўчына на здымку. Як быццам учора ўсё было. Трэба было мне заснуць тады на радасць таму гаду… Ніколі сабе не дарую, ніколі…

---

* Дабрачынная каталіцкая арганізацыя.

Нэля ўпусціла тады Олю праз дамафон у пад'езд, а сама тым часам заснула на канапе. А калі прачнулася, дачкі ў кватэры ўсё яшчэ не было. Пайшла шукаць па пад'ездзе ды і знайшла нежывую, з шалікам на горле, у закутку пляцоўкі перад уваходам на гарышча…

Андрэй уносіць паднос з ежаю, ставіць на стол. Ён, відаць, чуў размову, бо тут жа пачынае супакойваць жонку. Дарашэнка таксама мкнецца зрабіць унёсак у справу, зазначае, што, маўляў, адліюцца забойцу матчыны слёзы. Але парыў ягоны, наўздзіў, не знаходзіць у гаспадыні адабрэння.

— Што ты! — кажа яна і рашуча адсоўваецца ад яго, бы ад нясветнага ерэтыка. — Крый Бог! Хай застаецца ўсё, як ёсць. *Яго* зловяць — і *ёй* горай будзе на тым свеце. Што заўгодна, ды толькі не помста. Айцец Зміцер, наш святар, кажа, нішто так не есць чалавека знутры, як яна, помста. Пачнеш помсціцца, а ў выніку — сам сабе толькі нашкодзіш. Сточыць помста вантробы, бы шашаль гаржэтку…

Андрэй падтаквае ёй, і Дарашэнкава маўклівая нязгода з гэткаю высновай — даравацъ забойцу, як можна? — ціхамірна патанае ў суладнай цвярдыні іх хрысціянскай усёдаравальнасці.

— Дык што, едзеш адпачыць? — пераводзіць размову на іншае Андрэй. — Надоўга? Добра табе… А мы вось з Нэляй ніяк не збярэмся за слугаваннем мамоне*. Сцягаліся на тыдзень у Прагу ды Берлін, але хіба гэта адпачынак? Дарога такая цяжкая, ды і ўражанняў тых кот наплакаў, адно паспяваеш падчас язды ад прыбіральні да прыбіральні "Макдональдсы" з іхнімі вар'яцкімі фаст-фудамі за акном аўтобуса лічыць…

---

* Бажаства багацця ў некаторых народаў.

— Гаворыш абы-што, — кажа Нэля і лагодна падміргвае Дарашэнку. — Прыдумаў — мамоне! Падумае чалавек, мы тут няведама які крымінал развялі. Можна і наогул нічым не займацца, а такому мамоне слугаваць, што і чорту не прысніцца. Тым больш не для сябе стараемся, хочацца ж Жэні памагчы.

Жэня — другая, старэйшая Андрэева і Нэліна дачка, равесніца Ігара. Два гады таму яна выйшла замуж за кіпрыёта турэцкага паходжання і з'ехала з ім да яго на радзіму. З'ехала насуперак волі бацькоў, таму напамін пра яе з вуснаў Нэлі, якая зазвычай балючай тэмы не чапае, выглядае дзіўнавата.

— А вось у палітычныя авантуры менш трэба лезці, — працягвае Нэля і моршчыць лоб. — Такі складаны час для прадпрымальнікаў, адну за адной фірмы зачыняюць, а ён, бач, у страйкавы камітэт упісаўся. Паведаміць хто з "зычліўцаў" куды след — і гамон справе, шукай тады вінаватых. Ну, не так, Саша?

— Можа, і так, — кажа Дарашэнка і зноў чамусьці — каторы раз цягам апошніх дзён — згадвае Люсін ліст. Згадка такая ліпкая, што нават тады, калі Андрэй заводзіць размову пра нюансы працы ў фірме па продажы радыёапаратуры, якую ён пяць год таму адчыніў у складчыну з яшчэ адным сваяком, Дарашэнка не дае рады ад яе адчапіцца. І толькі Алушын прыход ненадоўга, бо жанчыны амаль адразу зачыняюцца ў пакоі, каб пагаманіць сам-насам, крыху прыцьмяняе яе.

— А прызнайся, што ўсё яшчэ неабыякавы да гэтай Люсі, — кажа Алуша і з выглядам пакрыўджанага дзіцяці — звычайная яе манера паводзінаў неўзабаве па замірэнні — адводзіць пагляд убок. Злосць усё яшчэ прабіваецца ў яе голасе, але гэта ўжо хутчэй злосць

на мяжы даравання — усцешны вынік доўгай начной размовы Дарашэнкі з жонкаю напярэдадні ягонай выправы ў дом адпачынку. — Цяпер мне зразумела, чаму ты ажно тры гады мітрэнжыўся з прапановаю пабрацца шлюбам… Ніяк *яе* не мог забыцца!

— Ага, так і ёсць, якая ж ты здагадлівая, — кажа ён, імкнучыся надаць голасу як мага болей сарказму.

Канешне, ён пакрывіў бы душой, калі б працягваў даводзіць, што едзе ў той дом без таемнага намеру пабачыць Люсю: з песні слова не выкінеш. І Алуша не такая дурніца, каб пра гэта не здагадацца. Так што яе бурную рэакцыю на ягонае рашэнне ехаць менавіта ў *той самы дом* цалкам можна зразумець: хто ж будзе радавацца, што яго спрабуюць трымаць за дурня? Абраза і падман, хай сабе і ў выглядзе маўчанкі, заўжды ходзяць поруч. І не жанчыну, які б вынаходлівы і спрытны ні быў мужчына, на зазуб тае маўчанкі беспакарана падсякаць.

Гэта была першая іх размова, падчас якой ён распавёў жонцы *ўсё* пра свае дзяцінна-юнацкія стасункі з Люсяй Гарнак.

Але што значыць — *усё*? Як можна распавесці камусьці *ўсё* пра акалічнасці таго, што часам нават самому сабе не можаш належным чынам растлумачыць? Не кажучы ўжо пра нейкія інтымныя падрабязнасці, што, як правіла, суправаджаюць падобныя гісторыі. Кшталту таго ж помнага кожным з нас ад гадоў маленства камяка ў горле ад доўгачаканага пагляду, дотыку, усмеху ўпадабанага чалавека, што апячэ душу праявaю нечаканай прыязнасці ды застанецца ў памяці на фоне абыякавасці іншых людзей як ледзь не самае дарагое, што здарылася з намі ў жыцці.

Адзінае, у чым ён не быў упэўнены на тую хвіліну, — гэта тое, ці дасць Алуша яму веры. Жанчын жа заўсёды найперш цікавіць — *ці было*, а калі *было*, то *што*? І тут паспрабуй даць рады не патрапіць у нерат недаверу. Скажаш, што было — значыць, юрлівец, валацуга. Скажаш, што *не было*, — значыць, хлус, бо не быць пры гэткім жаданні сустрэцца праз гады папросту не можа.

Як ні дзіўна, Алуша такога пытання яму не задала. Быццам адчула яго недарэчнасць і дыпламатычна ўнікла, хоць, магчыма (і хутчэй за ўсё, што так), і круцілася тое пытанне ў кабеціны на языку.

Галава цягніка з кропкаю святла паперадзе вынырвае з-за павароту, набліжаецца да станцыі.

— Дык што — неабыякавы? — нагадвае пытанне Алуша і саступае пад ціскам пасажыраў з пляцоўкі на суседнія рэйкі. — Ну, што тут скажаш! Тэлефануй, як што спатрэбіцца… Дарэмна Ігараў мабільнік не ўзяў, вось і будзеш мучыцца, шукаць якой тэлефоннай будкі, калі наогул яны там яшчэ ёсць.

І дадае быццам паўжартам ужо пад самы адыход саставу:

— Глядзі ж, хоць там без глупстваў…

Яна нешта кажа яшчэ, але словы яе патанаюць у гудку цеплавоза. І неўзабаве і сама яна, ухутаная завесаю ці то дыму, ці то шэрані — надвячоркам прайшоў пасля невыноснае паўдзённае спёкі спорны дождж, а прыпарка па-ранейшаму трымаецца — знікае з вачэй пад вясёлы постук колаў цягніка.

Састаў то гайданецца на павароце, то суцішыць рух, то зусім спыніцца на чарговым паўстанку. Субота, люду ў цягніку няшмат. Купэ, у якім Дарашэнку дастаўся квіток, — бадай, адзінае цалкам запоўненае

пасажырамі ва ўсім вагоне. Ззаду паўгадзіны язды, і вось ужо, асвойтаўшыся збольшага сярод незнаёмых людзей, то адзін, то другі з Дарашэнкавых суседзяў адзавецца асцярожлівай рэплікай у спадзеве намацаць глебу для размовы.

Самая гаманкая з чацвёркі — пажылая кабета-медычка з Таліна. Яе сусед, маладзён год трыццаці, таксама талінец і таксама, як і жанчына, беларус з паходжання. Абое хваляць не нахваляць жыццё ў сваім Таліне (“палтус такі танны — ледзь не штодня ямо!”), і разам з тым абаіх родніць нейкі неўразуменна-глыбінны асцюк помслівае незычлівасці да тамтэйшых аўтахтонаў, што раз-пораз вымкнецца з вуснаў то аднаго, то другога.

— Паспытаюць яшчэ і нішчымнага… Палтус, ведаеце, таксама не бясконцы, — падагульняе тэму кабеціна і з мінаю чалавека, што належным чынам выканаў свой грамадзянскі абавязак, застывае над сканвордам.

Чацвёртая пасажырка, дзяўчына з фінгалам пад левым вокам, знешне, асабліва неахайнасцю прычоскі, нагадвае ці то ўлюбёную Ігараву спявачку Б’ёрк, ці то маладую Пугачову. Яна, як і Дарашэнка, тутэйшая, раз-пораз выходзіць у тамбур пакурыць. Фінгалам яна абавязаная свайму сталічнаму каханку-сутэнёру, які ўзлаваўся на яе за тое, што прыхавала ад яго частку заробку. Два тыдні таму яна збегла ад мучыцеля да бацькоў, але ў правінцыі жыць сумна, ніякіх табе забаваў, вось і вяртаецца дзеўка зноў у сталіцу, каб быць бліжэй да цывілізацыі.

— Час бяжыць, што ўхопіш, тое і тваё, — кажа і прыхільна — ужо хто-хто, маўляў, а мы з табою дамо рады паразумецца — усміхаецца маладзёну.

— Ну, гэта як каму што даспадобы, — шматзначна, быццам ведае штосьці такое, чаго ніхто на свеце больш

не ведае, зазначае медычка. — А не баіцеся, што зноў ваш каханак вас паб’е? Нос паламае ці яшчэ што… Гэтак і калекай нядоўга застацца. Вунь колькі выпадкаў, у газетах штодня пішуць ды па тэлебачанні распавядаюць…

— Ужо лепш застацца калекай, чым так марнець, як некаторыя ў нашым заштатным горадзе марнеюць. Ні пайсці табе куды, ні шашні якія завесці, — парыруе дзеўка. — Да таго ж — каханне ёсць каханне, і нікуды ад яго не дзенешся. Я свайму Артурчыку ўсё-ўсенька,усе ягоныя выверты дарую, абы толькі побач з ім быць!

Яна паварочваецца тварам да Дарашэнкі, слізгае вачыма па канверце, які ён толькі што дастаў з валізы і зараз з мінаю, быццам затаілася ў ім ды зараз вось высунецца і ўджаліць вужака, трымае перад сабою.

— І вам дзеўкі пішуць? — кажа, і зрэнкі яе туманяцца, набрыньваюць вільгаццю ў чаканні працягу размовы. Аднак Дарашэнка ўдае, што не чуе яе, і яна, памуляўшыся хвіліну-другую ў нерашучасці, ці след чапаць яго зноў, з выглядам абражанае цнатлівасці накіроўваецца ў тамбур пакурыць.

Дарашэнка вымае з канверта ліст, пачынае павольна, быццам усё яшчэ не вырашыў, ці след гэта рабіць, вадзіць вачыма па зжоўклым, спярэшчаным знаёмымі літарамі-крывулямі аркушы.

Люся… Люська-Люсінда… Як даўно ўсё было, быццам і не ў гэтым зусім, а ў іншым нейкім, аддзеленым ад цяперашняга кавалкам сама меней у чатыры з добрым гакам дзясяткі год, жыцці.

*Ноч яшчэ не запанавала над мястэчкам, але і дзень дарэшты не скончыўся. Водбліскі святла раз-пораз вымыкаюцца над альтанкаю з захаду танюткімі пасамі,*

*ясняць на хвіліну двор і дрывотню па той бок ценькага і дробнага — лета сёлета з перападамі, то занадта сцюдзёна, то, наадварот, нясцерпна горача — малінніку.*

*— Ні тры, ні два, — кажа дзядзька Зюзялёк і цяжка ўздыхае. Ён надоечы вярнуўся з суседняга раёна ад брата, на котлішчы якога здарыўся пажар, і ніяк не можа ад выгляду таго папялішча ачомацца. Курыць адну за адной папяросы, ды ўздыхае, ды каторы раз распавядае падрабязнасці жахлівага (“уяўляеце, сусед падпаліў, помсцячы за нейкую даўнюю крыўду, і ўсё — дашчэнту, на прысак, добра, самі жывыя засталіся”) няшчасця.*

*Зюзялёк — дзядзькава мянушка, што прыліпла да яго ў маленстве пасля таго, як маці-ўдава аддала сына на выхаванне ў сям’ю сваякоў. Ды прыліпла так грунтоўна, што сапраўднае ягонае прозвішча — Капіч — ніхто ўжо амаль і не ўзгадвае.*

*Дзверы ляпаюць, на двор выходзіць Люся, прымошчваецца побач з мужчынамі на лаве.*

*Люся — васьмігадовая дачка лясгасаўскай прыбіральшчыцы цёткі Любы Гарнак, Сашкава равесніца. Яны з маткаю жывуць у бараку-прыбудове побач з домам. І, хоць там і няблага, і зручнасці нават сякія-такія маюцца, чакаюць не дачакаюцца ўласнага жытла. Яны прыехалі ў пасёлак аднекуль з Поўначы. Абедзве, што маці, што дачка, вельмі маўклівыя, і суседкам, якія прывыклі ўсё пра ўсіх ведаць, гэта вельмі абыходзіць.*

*— Ну, вось, Люся-Люсінда, будзе табе сяброўка, — кажа дзядзька Зюзялёк і запальвае чарговую папяросіну. — Вазьму да сябе пляменніцу, хай пажыве, пакуль адбудуюцца-акрыяюць пасля пажару. Усіх не магу ўзяць, няхай выбачаюць, цеснавата, а дзеўку вазьму… Сваякі, куды дзенешся.Ужо ж, можа, не аб’есць.*

*Люся штосьці мармыча яму ў адказ, абхоплівае рукамі калені, заглыбляецца ў нейкія свае, ёй адной дасяжныя думкі-мроі.*

*Акно прыбудовы расчыняецца, і голас цёткі Любы працінае вечаровую цішу:*

*— Лю-юся…*

*Люся паслухмяна падхопліваецца з месца, брыдзе дахаты. У яе праблемы з пісьмом, і яны з маткай вырашылі іх за лета зліквідаваць, дзеля чаго штовечар пішуць дыктоўкі.*

*Зэня, Сашкаў бацька, выходзіць з хаты, садзіцца на лаву побач з дзядзькам Зюзяльком.*

*— Зімна, як увосень, халера, — кажа і дастае з кішэні шваркі капшук з тытунём, пачынае скручваць папяросіну. Тытунь сыплецца паўз скалечаныя на фронце пальцы яму на калені, але ён, заняты гамонкаю з суседам, на тое не зважае.*

*Дзядзька пазірае раз-пораз на акно Гарнакоў, нахіляецца да бацькавага вуха.*

*— Дзіўныя нейкія яны, гэтыя Гарначышкі, што адна, што другая, — шэпча, і папяросіна няўклюдна торгаецца ў куце вуснаў у такт ягоным словам. — Ні да іх хто, ні яны да каго… Што дзе ні дзееецца, а ім, казаў той, — ані шум баравы, нішто не абыходзіць. А ўчора двое мужыкоў з раёна прыходзілі, цікавіліся Любаю. З выгляду — бы вайскоўцы, і гамонка нянаская. Што за дзівосы?*

*— Ну, мала што, — цэдзіць праз занятыя папяросінай зубы бацька. — Мала якая можа быць нагода ў людзей.*

*Ён падымаецца, каб ісці дахаты, і Сашка тае ж хвіліны ўскоквае з бервяна, сунецца паўз калюжыны — іх поўна ў двары з заўчарашняга дажджу — за ім следам.*

*Зазвычай яны спяць усе асобна: маці — на лаве ў кухні, бацька — на тапчане, Сашка — на палку пры печы ці, калі занадта горача, — на лавах за перабойкаю. Побач з бацькам спаць нязручна, бо ён храпе ды і пакурыць падымаецца ўначы, растузаны бяссоннем, раз-пораз. Але сёння Сашку хочацца конча легчы побач з ім, і ён пераносіць з-за перабойкі да яго на тапчан падушку і караценькую сваю, зладаваную маткаю са старых бэбахаў коўдру.*

*На тапчане цёпла, хоць, папраўдзе, крыху і мулка. Сашка прыціскаецца плячом да бацькавага дужага цела, упэўнены, што ён ахвотна адкажа, пытаецца, што такое Поўнач і ці далёка яна знаходзіцца ад мястэчка. Бацька хвіліну маўчыць, быццам абдумвае, што адказаць, затым рашуча гасіць лямпу ва ўзгалоўі.*

*— Бач, што ўзбрыло табе ў галаў, — кажа і рэзка, ажно заходзяцца енкам дошкі тапчана пад тонкім сеннікам, адварочваецца тварам да сцяны. — Чаго захацеў: пра Поўнач яму раскажы! У нас тут свая Поўнач! Спі!*

*І тае ж хвіліны амаль засынае.*

*Сашка счэквае, пакуль ён як след успіцца, саслізгвае з тапчана, асцярожна сунецца да дзвярэй. Яму прыкра і вельмі, аж да слёз, крыўдна. Ведаў бы загадзя, якім будзе бацькаў адказ, ці ж пайшоў бы класціся на той тапчан…*

*На дварэ цёмна, толькі на лаве ў альтанцы бялеецца штосьці, ды з пакоя Гарнакоў прабіваецца паўз фіранку на панадворак скупы пасак святла ад лямпы, ды з клеці дзядзькі Зюзялька даносіцца заклапочаны голас курыцы-кватухі.*

*Люся сядзіць у альтанцы, абшчаперыўшы, як заўсёды, калені рукамі, штосьці ціха мармыча, быццам*

*прамаўляе пацеры. Ён садзіцца побач, і яна адразу замаўкае, і насцярожаная цішыня запаноўвае наўкола. Сашку карціць загаварыць з ёю, але ён баіцца: раптам і тут напаткае адлуп, як колькі хвілін таму ад бацькі?*

*— Што карысці сумаваць, — кажа Люся і кладзе сваю далонь на ягоную. — Вось хочаш, пра Поўнач табе распавяду? Хочаш?*

*— Хачу.*

*— Ну, дык… ліст напішу, — кажа яна і, перш чым хлопец паспявае што-колечы скеміць, бяжыць паўз цемру ўсцяж ліпняку да свайго барака.*

*Наступны дзень наўздзіў — учора яшчэ было гэтак сцюдзёна — спякотны, з прыпаркаю. І на двары ні душы, толькі ценькая Люсіна пастава ўзвышаецца самотным ценем на бервяне пры альтанцы.*

*Сашка сядзіць у кухні ля акна, назірае пад гукі патэфона, што даносяцца аднекуль з суседняй вуліцы, як мітусіцца ў доме насупраць па кватэры Зюзяльковa жонка цётка Каруся: то ходзіць з кута ў кут, то вызірне ў акно, то раптам пабяжыць ні з таго ні з сяго ў калідор.*

*Сёння субота, дзень прыходу цягніка, і дзядзька Зюзялёк выправіўся пад яго з раніцы на падводзе сустракаць дачку брата-пагарэльца Лёлю. Вось з чаго цётка гэтак хвалюецца, вось з чаго і Сашку, хоць і чужыя яму тыя Зюзялькі, а тым болей іхнія сваякі, неяк не па сабе. Прыезд новага чалавека — заўсёды новыя ўражанні, і якія то яны, менавіта вось гэтыя, будуць?*

*Люся саскоквае з бервяна, моўчкі, як заўжды, прастуе да барака. Вымае са сшытка прыхаваны сярод старонак аркуш, падае Сашку знак выйсці. Яму не надта*

*хочацца тое рабіць, бо турботы цёткі Карусі займаюць яго на гэтую хвіліну куды болей. Але ён пераадольвае сябе, ідзе на двор.*

*— Я абяцала напісаць табе ліст, — кажа Люся і падае самаробны, з аляпістымі плямкамі клею па баках канверт.*

*— Лісты паштарка носіць, вось што, — абражаны простасцю дзеі, кажа ён і з абыякавым выглядам кладзе канверт у кішэню.*

*— Праз паштарку нельга перадаваць, — пярэчыць яна. — Трэба асцярожна, бо скрозь вушы…*

*Яна яшчэ штосьці дадае, але што, ён не чуе, бо з-за ліпняку далятаюць гукі колаў. Падвода дзядзькі Зюзялька з незнаёмым дзеўчанём паперадзе ўязджае ў двор, спыняецца пад вокнамі пад радасныя воклічы цёткі Карусі.*

*Ужо і шарэць пачало на дварэ, а Лёлі Сашка з Люсяю яшчэ зблізу не бачылі. Раз-пораз выходзяць на двор то цётка Каруся, то сам Зюзялёк, а госця быццам знікла куды, ні слыху пра яе, ні дыху. Сашка з Люсяй сядзяць у альтанцы, знэнджаныя абрыдлым чаканнем, з надзеяй — а раптам раздобрыцца-такі прыезджая прынцэса, выйдзе пазнаёміцца — пазіраюць на вокны Зюзяльковай кватэры.*

*— Сашка, ты ліст мой пачытаў? — кажа Люся і ўстае з месца. Цётка Люба яшчэ не клікала яе, але яна і сама, мабыць, адчувае важнасць тых штодзённых пісанак-дыктовак перад школаю.*

*Сашка чакае па яе адыходзе яшчэ колькі часу, і толькі калі наўкола зусім цямнее, брыдзе, зняверыны ў спадзеве на новае знаёмства, дахаты, і забыты на час марнага чакання Люсін ліст самотна шорхае ў кішэні*

*ў такт ягоным знарок гучным — ведай, хто тут, у гэтым двары, галоўны — крокам.*

*У кватэры гэтаксама цёмна, як і на дварэ, бо бацька і маці ўжо спяць. Ён прабіраецца ў свой пакой, запальвае ва ўзгалоўі святло, цягнецца рукою да кішэні, дзе стаіўся ў прыціхлым здранцвенні канверт з Люсіным лістом.*

*І што ў ёй, гэтай паперчыне, такога сакрэтнага, што нельга нават дасылаць яе па пошце? І што за ліст гэта: каб табе знак прыпынку, суцэльны тэкст, а літары — бы калочкі-слупкі толькі што пасаджаных вербалозін усцяж брукаванкі ад цэнтра мястэчка да чыгункі?*

*Ліст Сашку незразумелы. Ды і як тут даць рады што-кольвек зразумець, калі замест апісання — спрэс адны недаказкі-недагаворкі.*

*Ну, хай сабе гурбы, хай сцюжа, хай хвоя-спарыш з арэлямі… А пры чым да ўсяго нейкая пайка ды братавы пялюшкі, якія цётка Люба мусіць сушыць, абгарнуўшы іх вакол уласнага цела? І чаму яна выносіць цела брата, а потым не вяртае — што гэта значыць?*

*Нішто сабе Поўнач, нішто сабе аповед. Ці тое гэта, пра што то адзін, то другі з суседзяў не-не ды і згадае паўшэптам у размове? Хоць папытайся ў каго са старэйшых, напрыклад, у бацькі або ў дзядзькі Зюзялька?*

*Але ж пытацца ў абыход Люсінай персоны не выпадае. Як-ніяк яны з Люсяю сябры, а што такое праўдзівае сяброўства, ён, Сашка, ужо няблага кеміць. Асабліва зараз, па прыездзе Лёлі, якая і глядзець у іх з Люсяю бок, фанабэра, не жадае. Ды і цьмяная здагадка, што крыецца за Люсіным лістом штосьці*

*больш сур'ёзнае, чым проста занурыста-зацятая звычка бязбацькавіцы рабіць з усяго таямніцу, стрымлівае Сашкаву дапытлівасць.*

*Ён сядзіць у самоце на звыклым месцы, у альтанцы, чакае, калі выйдзе з барака госць Гарнакоў. А разам падчэквае і Люсю, якая выправілася з паўгадзіны таму з цёткаю Карусяй у пассавет па сахарыну.*

*Госць Гарнакоў з'яўляецца ў двары першы. Гэта дужы мужчына год трыццаці з тонкімі, як намаляванымі вусікамі і спружыністай хадою, што хутчэй за ўсё выдае ў яе ўладальніку або вайскоўца, або службоўца міліцэйскай сістэмы. Па ягоным расчырванелым твары бачна, што ён не ў гуморы. Ён выцірае насоўкаю пот на лбе, сыходзіць з ганка, шырокім крокам, ажно разлятаюцца ўбакі полы дыхтоўнага плашча, прастуе прэч ад барака.*

*Цётка Люба праз хвіліну выскоквае на двор, подбегам імчыць за ім, і яны ўдваіх знікаюць неўзабаве па-за ліпавымі прысадамі.*

*— Хахаль, няйначай, — хіхікае-цвеліцца з акна Зюзялёк, і бацькаў стрыманы голас, таксама з акна, толькі насупраць, асаджвае яго:*

*— Сціхні ты! Чым вярзці абы-што, пад жонку лепей падышоў бы. Там, можа, гэтулькі тае сахарыны далі, што і не прывалачэш адною ходкай. Гэтулькі, можа, далі, што і каня, глядзі, не лішне было б запрэгчы.*

*Кулепадобная пастава цёткі Карусі вымыкаецца з-за прысадаў, і па яе панылым твары няцяжка здагадацца, што не толькі каня, а і блыху, бадай, запрагаць дзеля гэткага багажу было б не варта.*

*Лёля пераймае цётку Карусю ля дзвярэй пад'езда, штосьці кажа напаўголаса. І хоць ні гуку не далятае да альтанкі з тае нячутнае гаманы, па непрыязным*

*паглядзе, які кідае ўпотайкі Лёля на вокны Гарнакоў, Сашку зразумела, пра каго размова. Дзядзька Зюзялёк перахоплівае пагляд пляменніцы, усмешліва хмыкае:*

*— От табе прырода жаночая: колькі тае дзеўкі, а ўжо натурыцца, быццам суперніцу ў іншай адчувае. А што будзе, як падрастуць?*

*Што здарылася нешта надзвычайнае, першымі даведваюцца Сашка з дзядзькам Зюзяльком. Навіну прыносіць паштарка. Яна толькі што з таго канца мястэчка, і там, калі даваць ёй веры, дзеецца штосьці неверагоднае: люд стабуніўся ля млына, а на доле на камянях нібыта ляжыць мярцвяк.*

*— Сцягацца паглядзець, — кажа дзядзька Зюзялёк і перакідвае праз падваконнік (ісці праз дзверы яму ці то лянота, ці то боязна, што не пусціць на тыя гледзіны цётка Каруся) хударлявае сваё, з непрапарцыйна даўгімі рукамі цела. Бацька далучаецца да яго, яны скіроўваюць з двара.*

*Сашка маніцца прыпусціць следам за імі, але яны тут жа спыняюцца, гоняць яго прэч. Яны адыходзяць, а ён, счакаўшы колькі хвілін, ідзе да барака. Люся (яна колькі хвілін таму вярнулася следам за цёткаю Карусяй з пассавета) паказвае яму на мігі з-за шыбіны, каб уваходзіў, і цёмнае, праніцанае пахам спарахнелага дрэва і тарпы — так называюць у пасёлку торф для паліва — прадонне калідора праглынае яго.*

*Люся сядзіць у здранцвенні пры акне, лічыць пігулкі сахарыны. У пакоі цемнавата, але, здаецца, нават і самая густая цемра не перашкодзіла б Сашку чарговы раз уразіцца яго беднасцю: самаробны старэнькі стол у куце, тапчан, два зэдлі-калечкі ля парэпанага, складзенага сяк-так з карыстанае цэглы шчытка.*

*— Ты ліст мой прачытаў? — пытаецца Люся і строга дадае: — Калі прачытаў, то аддай яго мне.*

*— Які ж то ліст, крыжаванка нейкая, а не ліст, — адказвае Сашка. — Што ў ім зразумееш?*

*— Усё адно аддай. Які б ні быў…*

*Ён хоча запярэчыць, што дасланыя лісты не вяртаюць, але не паспявае: з двара даносяцца галасы.*

*Люся падымаецца з зэдля, напружана, ажно падрыгваюць павекі, глядзіць паўз фіранку ў акно.*

*Дзверы ляпаюць, трывожны тупат чыіхсьці таропкіх крокаў урываецца ў пакой. Сашкава маці кідаецца да Люсі, прытуляе да грудзей бялявую галаву дзяўчыны з няўцямна вытарапленымі вачыма.*

*Пігулкі выслізгваюць з Люсіных рук, падаюць на падлогу, і глухое рыпенне маснічын пад нагамі, калі яна падхопліваецца з месца, каб бегчы на двор, паглынае яе роспачлівы, кароткі, як пошчак грому ўдалечыні, енк.*

*Тыдзень ад паховінаў цёткі Любы прамінае пад знакам прысутнасці ў двары староннніх людзей. Найбольш назаляюць дазнаўцы. То адзін, то другі прымчыць у лінейцы з раёна, пачне доўга і нудотна распытваць, што ды як. І вось ужо, ледзь паспее атрамант падсохнуць на паперчыне з паказаннямі сведкаў, трэці тут як тут, ды палохае дарослых і дзяцей суворасцю і моцаю голасу, ды маніцца конча пераплюнуць папярэднікаў мудрагелістасцю высноваў. Найбольш усім траім чамусьці абыходзіць дазнацца, ці мела нябожчыца спадкаемную схільнасць да самазабойства.*

*Пра мужчыну, следам за якім цётка Люба пайшла ў той дзень, ніхто не распытвае. А калі дзядзька Зюзялёк нагадвае пра яго трэцяму дазнаўцу па прозвішчы Бібік, той заспакойвае дзядзьку, што версія правяра-*

*еццa, але, хутчэй за ўсё, працягу мець не будзе, бо чалавек той — свой і падазраваць яго ў такім цяжкім грэху, як забойства, аніяк не выпадае.*

*Люся ўсе гэтыя дні, пакуль яе бабуля Настазя, свякрова нябожчыцы, даводзіць да ладу гаспадарку ў вёсцы, жыве ў Дарашэнкаў. Яна старанна пазбягае ўсіх і паводзіць сябе на дзіва спакойна. Сядзіць цэлымі днямі ў куце пад абразамі падалей ад акна, за якім бушуюць жарсці нядаўняе трагедыі, ды малюе ў сшытку выявы паўночных гурбаў і заснежаных хвояў-спарышоў з жалязякамі для арэляў паміж камлямі. А ўначы доўга не спіць, і тады Сашкава маці бярэ яе да сябе ў ложак, і яны напаўголасу штосьці адна адной распавядаюць.*

*Праз два тыдні баба Настазя перавозіць сваё няхітрае майно ў барак, і Люся пакідае Дарашэнкаў. Гэта і добра, бо ў іх даволі цесна. І разам з тым кепска, бо Сашка прывык да ненавязлівай Люсінай прысутнасці і ахвотна згадзіўся б мець такую дзяўчыну за сястру.*

## II

Дзверы то прастуджана керхнуць, то зойдуцца тоненькім рыпеннем, то адгукнуцца на пазоў скразняку рэзкім, кароткім пошчакам. А то дарэшты аціхнуць, бы тая котка перад скачком падчас палявання, замоўкнуць у чаканні чарговай мажлівасці нагадаць пра сваю прысутнасць.

Дзвярэй шмат, люду, наадварот, мала, таму будынак хутчэй нагадвае кляштар суворасці сярэдняе рукі, чым корпус дома адпачынку. Ды і памяшканне сталоўкі з выяваю дзяржаўнага герба ў міжваконні і расцяжкаю з цытатай пра ролю культуры ў духоўным узрастанні асобы тут, здаецца, выглядае іначай, як звы-

чайна ў падобных установах: ні грукату посуду з-за перагародкі паміж залаю і кухняй, ні пошуму лядоўняў, ні галасоў абслугі.

Дарашэнка азіраецца ў надзеі ўбачыць хаця б адзін новы твар, але дарэмна. Напярэдадні з'ехала сям'я з Чарнобыльскай зоны, якая сядзела за ім пры акне, а цяпер яе месца заняў стары па прозвішчы Зелянуха, які дагэтуль месціўся пры канцы залы.

Старому пад восемдзесят, калі не ўсе восемдзесят пяць. Але ён яшчэ такі жвавы ды порсткі, што кульба, з якою ён, падобна, не развітваецца ні ўдзень, ні ўначы і якой, напэўна, больш пасаваў бы шляхецкі назоў "ляска", выглядае пры ім не як прадмет ужытковага прызначэння, а хутчэй як модная прычындаліна з побыту амбіцыйнага падпанка якога-небудзь пазамінулага стагоддзя.

Стары падымае кульбу ў знак прывітання, і яго шчыльна прылеглыя адно да аднаго бровы павольна рассоўваюцца ўбакі, у кірунку скроняў, а твар асвятляе кволая, з дамешкам незадаволенасці, быццам яна каштуе яму немаведама якіх фізічных высілкаў, усмешка. Ён сядзіць колькі хвілін нерухома з узнятаю кульбай, пераводзіць пагляд на акно, за якім шчыруе пры клумбе з гваздзікамі ды астрамі прыбіральшчыца Міла Сцяпанаўна.

Жанчына ўздымае галаў, зіркае спадылба на акно, усміхаецца Зелянуху, і нязмушаная суладнасць іх дзеянняў міжволі зноў вяртае Дарашэнку да ўчорашняга роздуму.

Што лучыць гэтых дваіх, Зелянуху і прыбіральшчыцу? Здаецца, быццам прыраслі адно да аднаго, быццам так моцна трымае іх нейкая ўнутраная повязь, што ўжо і не парваць яе.

Амаль два тыдні Дарашэнка назірае за старым і Мілай Сцяпанаўнай. І чым далей назірае, тым менш знаходзіць тлумачэнняў сяброўству-прыяцельству паміж імі. Папраўдзе, часам яму нават здаецца, што гэта і не сяброўства наогул, а нейкая мусовая звязка, якую ні адзін, ні другі чамусьці не ў стане рашуча адпрэчыць.

Міла Сцяпанаўна была першая, каго Дарашэнка тут, у доме адпачынку, спаткаў у дзень прыезду. Цётка ў выцвілым халаце, са швабраю ў руцэ і вантузам падпахай, у якой ён Люсі ў іншым месцы ды пры іншых абставінах нізавошта не прызнаў бы. Што робіць час з чалавекам!

І яна таксама яго, здаецца, на шчасце ці на жаль, не пазнала. Ва ўсялякім разе на тую хвіліну абышлася з ім, як з абсалютна староннім чалавекам. Хіба што пасля даведалася прозвішча. Але дзеля чаго прыбіральшчыцы спраўджваць ягонае прозвішча? Магчыма, ён скажа ёй, хто ён, але не раней, як у дзень ад’езду. Калі, вядома, не надарыцца іншай якой нагоды.

Зэдаль ззаду ціха рыпіць: мабыць, то адыходзіць Зелянуха. Ён заўсёды адыходзіць ад стала ў адзін і той жа час, з дакладнасцю да хвіліны, і адзін і той жа рыплівы гук зэдля той да педантызму дакладны адыход педантычна абвяшчае.

Прыбіральшчыца зноў кідае ад клумбы пагляд на акно, на месца, дзе толькі што сядзеў стары, і выраз ні то разгубленасці, ні то радасці застывае на яе твары. Яна рэзка падхопліваецца, ідзе насустрач Зелянуху, які ўжо паспеў высунуцца на ганак, і жылка няпэўнасці ў куточках яе вуснаў ледзь заўважна торгаецца ў такт шырокім, не па-жаночы размашыстым крокам.

Гэтыя крокі…

*Яшчэ неба не паспела як след заірдзецца на даляглядзе таемным паўкругам апошняга перадночнага ззяння, а Лёля ўжо на рамарэнце: то выскачыць на двор паваксаваць і без таго наваксаваныя да глянцу туфлі, то высунецца ў акно з люстэркам у руцэ, то з гучным спевам схіліцца над парэнчаю сходаў.*

*Субота, на танцпляцоўцы пры клубе вечарына, і яна чакае не дачакаецца, калі ж урэшце агалосяць прыклубную прастору прызыўныя гукі прайгравальніка. Тыдзень з двух яе гасцявання ў дзядзькі Зюзялька ўжо мінуў, і яна, абражаная адсутнасцю ўвагі да сваёй персоны з боку мясцовых кавалераў, спадзяецца ўзяць рэванш перад іншымі дзяўчатамі за кошт заляцанак электраманцёра Вітака Дунчонка, аднаго з брыгады маладзёнаў, што вядуць лінію электраперадач ад цэнтра мястэчка да нядаўна пабудаванага за тры вярсты адсюль новага элеватара. Што Вітак нібыта жанаты, яна, канешне ж, начутая, ды што не зробіш дзеля падвышэння собскага прэстыжу?*

*Лёлі, як і Сашку з Люсяю, — сямнаццаць. Але ў параўнанні з тою ж Люсяй яна выглядае і значна больш дарослай, і значна больш дасведчанай у жыццёвых пытаннях. Бо жыве вось ужо колькі год у горадзе, да якога заштатнаму мястэчку-гэпэ з яго паўразбуранай інфраструктурай, як вераб'ю да бусла.*

*Яны сядзяць у пакойчыку на канапе, разглядаюць аблігацыі пазыкі, што засталіся Люсі ад бабы Настазі, якая памерла тры месяцы таму, пакінуўшы ўнучку сам-насам са шматлікімі побытавымі і рознымі іншымі клопатамі, ды абменьваюцца меркаваннямі наконт уступных экзаменаў у тэхнікум. Яны сядзяць амаль усутыч на раздзеленай валікам канапцы,*

*і іх ногі міжвольна раз-пораз судакранаюцца, і гэта робіць размову сумбурнай і крыху нервовай.*

*Ініцыятыва паступаць у вучэльню належыць Сашку, і Люся, зразумела, сумняваецца. Тым больш зараз, па смерці бабулі, калі і спадзявацца на чыю-колечы матэрыяльную помач не выпадае, і іншыя, не менш стравітыя турботы — адна анкета да таго паступлення чаго вартая — даймаюць.*

*Усё гэта надае перспектыве іх сумеснага навучання адценне прывіднасці. Да таго ж у Люсі, хоць яна і лічыць сябе стоадсоткавым гуманітарыем, як ні дзіўна, усё яшчэ праблемы з пісьмом. Дакладней, са звычкаю адмалку пісаць суцэльным тэкстам, без знакаў прыпынку і прапісных літар, ад якой настаўнікі так і не далі рады дарэшты яе адвучыць. Якая асабліва дае знаць пра сябе, варта дзяўчыне крыху пахваляваліся.*

*Лёля чарговы раз выбягае на ганак, кідае ганарлівы позірк на акно Дарашэнкаў, мчыць праз двор насустрач Вітаку, што цягнецца прысадамі ў кірунку клуба.*

*Цётка Каруся высоўваецца ў акно, праводзіць пляменніцу няўхвальным — “от жа знайшла сабе залётніка, дурніца!” — паглядам. Зноў знікае ў прыцемненым чэраве пакоя, штосьці кажа незадаволеным голасам стомленаму хваробінай — у небаракі рак горла, і ўсе ў наваколлі пра тое, апроч яго самога, ведаюць — дзядзьку Зюзяльку. Слабое сіпенне даносіцца ёй у адказ, і зноў усё аціхае.*

*Сашкавы з Люсяю ногі чарговы раз датыкаюцца адна да аднае і тае ж хвіліны спуджанымі вераб’ямі зноў разлятаюцца па розныя бакі валіка.*

*Яны падымаюцца з канапы, пакліканыя гукамі прайгравальніка, дружна: ён — імкліва і дробненька, яна,*

*наадварот, — размашыста, як касец на сенажаці, — крочаць да дзвярэй. Без чвэрці адзінаццаць, зазвычай у такі час там, ля клуба, адзінай ацалелай з вайны будыніны на водшыбе мястэчка, усё і пачынаецца.*

*Бадай, канцу свету наканавана хутчэй прыспець, чым ім расшчапіць вусны, гэткі ён, першы Сашкаў з Люсяй пацалунак, смачна-ўтрапёны. Люся схіляе галаў, мкнецца вырвацца з ягоных абдоймаў, але як ён можа цяпер яе адпусціць?*

*— Пачакай… Яшчэ… — кажа і адчувае, як ні то дужэе, ні то, наадварот, слабее, перакрапаная павуціннем трывогі ад усведамлення, што вось зараз, крый бог, усё яно, ледзьве пачаўшыся, і скончыцца, ягоная вызваленая ўрэшце ад абрыдлых правінцыйных табу воля.*

*Вечарына ў самым разгары, і паўз рэдкія галінкі адцвілага бэзу, што атуляе з усіх бакоў таямніцу іхняга першага з Люсяй мілавання, бачна, як вальсуюць на памосце — у клубе занадта горача — порсткія маладыя пары.*

*Папeрадзе ўсіх імпэтна танчыць, мяняе раз-пораз партнёраў Лёля. Сёння яна як ніколі ў гуморы: усмешка не сыходзіць з твару, а сама яна як не вылузнецца з сукенкі. Час ад часу яна кідае пагляд акурат у тое месца, дзе стаяць Сашка з Люсяю, і выраз ці то радасці, ці то нейкага таемнага, адной ёй ведамага змыслу слізгае па яе вуснах, бяжыць хваляю па шчоках, павольна знікае ў прадонні падцененых тушшу вачэй. Яна кідае на іх пагляд, і Сашка адчувае, як сцінаецца пад ім міжвольна, уздрыгвае, бы патрывожаная подыхам вятрыска гронка бэзу ўгары, ценькае Люсіна цела.*

*— Чаму ты яе баішся? — пытаецца ён, і пытанне ягонае патанае ў мелодыі чарговага танца.*

*Што Люся асцерагаецца Лёлі, яму вядома даўно, але чаму так — яны ніколі не высвятлялі. І цяпер, калі ўсё гэтак добра між імі ўсталявалася і растала дарэшты ў хвалях пяшчоты заўсёдная боязь непаразумення, ён адчувае, што можа, прынамсі мае якое-ніякое права пра тое запытацца.*

*— З чаго ты ўзяў, што баюся? — Люся адкідвае галаў, і твар яе відочна хмурнее. — Вось яшчэ… — Яна прыгінаецца пад голлем, хутка — ён нават не паспявае зразумець, што здарылася, — шыбуе прэч з кустоўя.*

*Ён кідаецца Люсі наўздагон, мкнецца загаварыць, але яна ўпарта адмоўчваецца. І толькі ўжо на падыходзе да двара быццам спахопліваецца, адорвае яго знэнджаную нечаканаю зацятасцю істоту літасцівую ўсмешкай.*

*— Памятаеш, ліст табе калісьці пісала? Пра Поўнач — памятаеш? Дзе ён?*

*— Божа, ліст, ты б яшчэ што прыдумала запытацца… Калі тое было! Гадоў дзевяць прамінула, сама меней…*

*— Калі б ні было, — кажа яна і кранае пальцамі клямку весніц. Ён хоча спыніць яе, каб прадоўжыць размову, але дарэмна. Люсін твар робіцца непранікальным, і сухмень яе зрэнак, колькі яшчэ хвілін таму вільготна-прыязных, ашаламляе яго выразам нясветнавусцішнае адстароненасці.*

*Шэпт то аддаляецца, то, наадварот, бліжэе — быццам хтосьці гуляе ў хованкі, а што за правілы ў той гульні і кім і дзеля чаго яна змыслена, нізавошта не здагадаешся.*

*Ён вызірае ў акно, каб паглядзець, хто там. Дзве няясныя плямы-постаці бялеюць на тле дрэваў няпэў-*

*нымі абрысамі, дружна падымаюцца, сунуцца з двара. Трэцяя, гэткая ж няясная, як і тыя дзве, што толькі што патанулі, атуленыя цямрэчаю, за рогам Зюзяльковага дома, вымыкаецца з шэрані, зладзеявата шмыгае ў прагалак паміж баракам і шыхтам скрыняў для тарпы, з няўмольнасцю лёсу, што конча вырашыў учыніць Сашку іспыт на трываласць натуры, набліжаецца да акна.*

*— Люся?*

*Постаць замірае, дзве рукі ўспырхваюць па-над падваконнем, перакрыжоўваюцца абручам на ягонай шыі.*

*— Ат, далася яна табе, гэтая Люсіндора, гэтая…*

*— Лёля?*

*Рукі слабеюць, быццам збянтэжаныя нотаю расчаравання ў ягоным голасе, паволі ападаюць. Але праз імгненне зноў узлятаюць — цяпер ужо каб і яго сцягнуць на дол, сашчэпліваюцца на ягоных перадплеччах.*

*Ён саскоквае на зямлю і акурат трапляе ў Лёліны абдоймы. Яна сцішана хіхікае, моўчкі, быццам гэтая начная прыгода была загадзя між імі ўзгодненая, цягне яго за руку з двара ў тым кірунку, дзе зніклі колькі хвілін таму плямы-постаці і дзе ўздымаюцца па-над соннымі пабудовамі ліпы прысадаў.*

*— Куды? Што ты надумалася?*

*— Спужаўся?*

*Цемра імкліва радзее, дзве цьмяныя постаці порстка, толькі шашчыць, чуваць, пад нагамі сухое голле, кідаюцца ў розныя бакі, заміраюць у зарасніках бэзу.*

*— Ну, годзе вам хавацца, каханкі, — кажа Лёля і шпурляе ў гушчар адзін за адным колькі каменьчыкаў. — Выходзьце ўжо!*

*Яна дастае з сумачкі ліхтарык, са смехам, што больш нагадвае шатанскае хрыпенне, водзіць пукам*

*святла па кустоўі. Водзіць настойліва і доўга, аж пакуль не натыкаецца пасярод яго на зніякавелыя, вінаватыя твары Люсі і Вітака.*

*Ужо амаль раніца, а ён яшчэ і на хвіліну не зможыў павек. Стаіць прад вачыма тое праклятае кустоўе, і Лёлін смех лунае над ім, аддаецца ўвушшу д'ябальскім звонам, ад якога вось-вось, здаецца, абрынецца на голаў столь звузелага ўвобміг да абрыдласці, сцяснелага пакоя. Так звузелага вачавідзь ды сцяснелага, што адно жаданне і ўзнікае — падхапіцца з ложка і бегчы, бегчы далей ад яго.*

*Лёгкія, ледзьве чутныя крокі даносяцца з двара і тут жа аціхаюць, прыглушаныя ціўканнем цвыркуноў ды бацькавым храпеннем за перабойкай.*

*Яму няўсцерп паглядзець, што там у двары, і ён ужо прынікае тварам да шыбіны, як бацька падымаецца з тапчана, сунецца вобмацкам да вядра з вадою.*

*Белы прыпол сукенкі ў воддаллі рвецца на ветры, нібы напалоханы звонам конаўкі, дваіцца, чэзне ў завесе густой перадранішняй шэрані. Дваіцца, ці, можа, насамрэч іх там двое?*

*— Халерная спёка. — Бурклівы голас бацькі вяртае яго ў яву.*

*Ён падымаецца з ложка і, як толькі бацька заціхае на тапчане, не раздумваючы куляецца ў цьмянае, спярэшчанае прывідна-зыбкімі абрысамі падзеяў-прыпамінаў прамінулага дня прадонне акна.*

*У двары прахалодна і ціха, толькі з кватэры дзядзькі Зюзялька далятаюць да альтанкі гукі радыё. Дзядзька слухае радыё і ўдзень, і ўначы, гэта, кажа цётка Каруся, быццам дапамагае яму не звар'яцець ад пякельнага болю.*

*Ён прыхінаецца плячом да дошак альтанкі і толькі паспявае збольшага супакоіцца, як яшчэ адзін гук, гэтым разам зводдалеку, ад студні, даносіцца да ягоных вушэй. Але ён такі глухі, такі непрывабны на тле чароўных гукаў вясковае ночы, што ён не надае яму значэння.*

*Белы прыпол вымыкаецца з-за рога дома, імкліва набліжаецца да Люсінага пад'езда. Яму карціць падхапіцца насустрач, але крыўда не пускае.*

*Ад тае хвіліны, як Лёлю выцягнулі са студні ды звезлі ў райцэнтр у бальніцу, мінула гадзіны дзве з палоўаю. І прыезджы дазнаўца ні на хвіліну не адыходзіць з двара, то аднаго з суседзяў пакліча для размовы, то другога, то ў цёткі Карусі возьмецца штосьці высвятляць, то зноў распарадзіцца гукнуць Вітака. Адзіны, каго ён пакуль што не чапае, — дзядзька Зюзялёк. Ды яшчэ — мабыць, з увагі на кволасць дзявочае натуры — Люся, якая ўвесь гэты час, што цягнецца дазнанне, сядзіць у кватэры і толькі зрэдку, быццам каб знарок спраўдзіць, што яна тут, на месцы, віхне паставаю ў акне.*

*Узрушаныя неспадзеўнаю прыгодай ды гнаныя пугаю цікаўнасці жыхары іншых вулак час ад часу зазіраюць у двор. І дазнаўца Бібік, строгі, крыху хамаваты дзядзька гадоў пяцідзесяці, той акурат, што дзевяць год таму вёў справу Люсінай маткі, калі тая разбілася ля млына, голасам, што не ўдае і намёку на мяккасць характару, выturвае ўсіх прэч. Усіх, апроч дзятвы, што раямі абляпіла голле дрэваў і толькі і чакае нагоды ўставіць у размову старэйшых слова-другое.*

*Апоўдні дазнаўца вырашае апытаць і Люсю. Яна апошняя ў даўгой чарадзе сведкаў, мужчына стаміўся, таму размова між імі цягнецца нядоўга. Так нядоўга,*

*што, калі Люся хвілін праз пятнаццаць выходзіць з кватэры, Сашку здаецца, што ён бачыць на яе твары расчараванне.*

*Ён мкнецца да яе ў спадзеве хоць на якое, хоць на самае кароткае замірэнне, але дарэмна. Яна з абыякавым выглядам праходзіць міма, і нечаканая, няведамая раней жорсткасць яе пагляду апякае яго трывожным прадчуваннем новых неспадзянак.*

*— Ну, дык што, так ты нікога і не бачыў уначы са сваёй альтанкі? — пытаецца, болей, відаць, дзеля прыліку, чым дзеля пацвярджэння нейкай канкрэтнай гіпотэзы, дазнаўца і зашчапляе на тэчцы з паперамі парэпаную спражку з выявай вужакі. — Ну, не дык і не, што тут скажаш…*

*— Ні слова, ні паўслова — хто так робіць! — кажа цётка Каруся і безуважна падносіць мужу кубак нішчымнага вару замест прыгатаванага, што ўжо колькі хвілін падтомліваецца на пліце, курынага булёну. Яна ўсё ніяк не дасць рады ачомацца ад падзення пляменніцы ў студню і, каб не капрызлівасць знябожанага нямогласцю Зюзялька, якому то адно падай, то другое прынясі, і ўсё не так, не па-ягонаму — ведама, хворы чалавек, — наўрад наогул здолела б выйсці з нервовага стопару. Неспадзеўны ж начны ад’езд Люсі (хтосьці з суседзяў бачыў, як яна садзілася на паўстанку ў цягнік), здаецца, толькі ўзмацніў яе пакуты. З’ехаць, нават не развітаўшыся, быццам не маеш большых ворагаў на свеце? Цётцы такія паводзіны і не зразумелыя, і не сімпатычныя.*

*Куды з’ехала Люся, ніхто не ведае. І хоць сёй-той сцвярджае, што паехала паступаць вучыцца, даць*

*веры таму цяжка. Гэтак вось раптам, увадначас? Ды і час іспытаў яшчэ не прыспеў, хіба што навострылася дзеўка ў якую-небудзь задрыпаную вучэльню, дзе бяруць усіх без вынятку, абы мелася ў чалавека якое-кольвек жаданне.*

*Адзіным, хто, магчыма, у курсе, куды ўсё-такі Люся з'ехала, з'яўляецца Вітак. Але звяртацца па дапамогу да суперніка Сашку не хочацца. Да таго ж і сам Вітак неўзабаве нібыта з'язджае, ашчаслівіўшы цяжарнасцю дзеўку-заіку з другога канца пасёлка.*

*Абставіны таемнага Люсінага знікнення праясняе паштарка, дакладней, ліст, які яна прыносіць Сашку праз тыдзень. Стандартны канверт з выявою сярпа і молата змяшчае шмат намёкаў, апроч намёку на іх сумесную будучыню. І гэта ўяўляецца яму найгоршым з усяго, што здарылася напрыканцы спякотнага гэтага, азмрочанага Люсінай здрадаю ды няшчасцем з Лёляю ліпеня.*

*І хоць цьмяная здагадка, што абедзве падзеі між сабою нейкім чынам звязаныя, не пакідае яго, распавядаць пра яе дазнаўцу Бібіку ні намеру, ні ахвоты ён не мае. Тым больш што і сама Лёля нічога яму распавесці не пажадала, сабралася ды з'ехала моўчкі праз два дні па выпісцы з бальніцы ў свой горад.*

Яшчэ толькі восем гадзін вечара, а ў корпусе так ціха, быццам на двары ноч. Адзінае, што парушае цішыню, — гукі радыё пры канцы калідора ды абрывістая гамана гульцоў у даміно ў нішы наўзбоч дзвярэй сталоўкі. Ды яшчэ шоргат анучы па падлозе, якую прыбіральшчыца Міла Сцяпанаўна то акуне ў вядро з вадою, то з гучным усплёскам апусціць на дол. Яе дзя-

журства сканчваецца а дзявятай, і яна, як заўсёды, спяшаецца дахаты. Бо ў дзесяць пачынаецца па тэлеку яе ўлюбёная перадача “Тыдзень вялікай коткі”, і яе яна прапусціць — гэта ўсе ў доме адпачынку ведаюць — ніяк не можа.

Час ад часу жанчына падыходзіць да дзвярэй пакоя Зелянухі нібыта з намерам штосьці спытаць, але не наважваецца, і няспраўджаны намер тонкімі лініямі зморшчын заклапочанасці асядае на яе лбе.

Адміністратарка падымаецца з долу на паверх, голасам, што выдае перасцярогу перад рэакцыяй чалавека, які нікога і нічога не баіцца і прывык рабіць толькі тое, што яму самому даспадобы, просіць Мілу Сцяпанаўну прыбраць аскепкі толькі што разбітае парывам ветру вазы ў холе будынка.

Міла Сцяпанаўна скідвае з плячэй халат, кладзе яго на падваконне, з бурклівым выглядам спускаецца па вільготных сходах следам за адміністраткай на першы паверх. І ў калідоры адразу робіцца яшчэ цішэй, так ціха, што чутно, як ходзіць у сваім пакоі, то адчыніць дзверку шафы, то ляпне кульбаю па падлозе, то кашляне з прысвістам стары Зелянуха. Дзверы ягонага пакоя адчыняюцца, заінтрыгаваны гаманою жанчын стары выходзіць у калідор, азіраецца, прастуе да акна. Похапкам пераварочвае пакінуты прыбіральшчыцай халат, зладзеявата шнарыць рукою ў кішэні, вывуджвае нейкую паперчыну.

Ён стаіць да Дарашэнкі бокам, і той бачыць, як сунецца ўгору па меры прачытання паперчыны брыво старога ды бялее, зліваецца з колерам валасоў на скроні ягоны твар. Затым ён кладзе паперку назад у кішэню, ідзе да пакоя. І акурат у той момант, калі палову

ягонага цела разам з кульбаю праглынае паўпрыцемак памяшкання, на сходах зноў з'яўляецца прыбіральшчыца.

Ці бачыць яна сілуэт Зелянухі, невядома. Але гук дзверыны, за якою той знікае, яе вушэй дасягае несумненна. Жанчына кідае заклапочаны пагляд на вопратку, пядзя за пядзяй абмацвае льсністы, з тоўстымі швамі спод халата. Натыкаецца, відаць, на паперчыну, і твар яе набывае звыклы выраз паважнае непранікальнасці. Яна апранае халат, ідзе да Зелянухавых дзвярэй, далікатна стукае далонню па аўшаку:

— Ну, дык што, а сёмай заўтра адыходзім, Васіль Іванавіч? Га?

— А сёмай, дык а сёмай, — адказвае стары і прыадчыняе дзверы. — Чарвякоў я ўжо накапаў. Вопратку і абутак таксама падрыхтаваў, так што ўсё як след.

— А я да юшкі прыправаў ды яшчэ сяго-таго прыкупіла. Такі ўладзім баль пасля рыбалкі, што звяр'ю навакольнаму моташна стане. Праўда?

— Гэта ўжо як з клёвам нам з вамі падфарціць, Міла Сцяпанаўна, хто ведае.

— З клёвам як з клёвам, а вось нага б ваша не разгулялася на змену надвор'я.

Яны яшчэ колькі хвілін стаяць моўчкі па розныя бакі дзвярэй, затым адначасна, быццам кожны ўзгадаў неўпрыцям пра неабходнасць штосьці конча дарабіць недаробленае, разыходзяцца. Разыходзяцца так імкліва, так шпарка, што Дарашэнку, які назірае за абаімі праз паўрасчыненыя дзверы працэдурнага пакоя, зноў міжволі прыходзіць у галаў думка пра ўдаванасць дзіўнага іхняга — ні то прыяцельства, ні то варажнеча, ні то адно і другое адначасна — яднання-супольніцтва.

## III

Міла Сцяпанаўна зірнула з долу на акно, але, на дзіва, святла ў ім не ўбачыла. Быццам яго яшчэ і наогул там, у Зелянухавым пакоі, не запальвалі. Толькі пасак променя, які прабіўся, відаць, у памяшканне праз дзверы ад ліхтара пры ўваходзе ды тае ж хвіліны і згубіўся, не даўшы рады вымкнуцца вонкі, дзесьці ў міжсценні. Ды яшчэ кволы яго адбітак на гардзіне, што тут жа і знік, патрывожаны асцярожным, ледзь заўважным рухам тканіны.

Што стары назірае за ёю з пакоя, яна не сумнявалася. Адчувала ягоны пагляд хутчэй усім целам, чым вачыма — такое ўжо аднойчы было з ёю, падчас першага яе наведвання ў заснежаны А., неўзабаве пасля выпадкаў з Лёляй ды Наталляй. Калі яна брыла вулкаю да цягніка, а ён, тады яшчэ значна маладзейшы, спрытнейшы ды жвавейшы, цікаваў за ёю цераз фіранку, і вось гэткае, як цяпер, адчуванне таемнага ягонага змыслу працінала яе свядомасць прадчуваннем чагосьці да вусцішу, да дрыжыкаў кепскага.

Тады ўсё абышлося, бо яна проста з'ехала з А., а як будзе зараз? Ці дастаткова абачлівай яна была ўвесь гэты час, што ён тут жыў, каб не выклікаць падазрэнняў наконт уласнае персоны? Ці здолела гэтак пераадолець сваю нянавісць, каб, удаючы прыязнасць, няўрокам не пасеяць да сябе недавер? Якая гэта пакута — удаваць кагосьці іншага і з дня ў дзень штохвіліны думаць пра тое, каб падман не раскрыўся.

Рука яе міжвольна пацягнулася да кішэні халата. Што, калі ён насамрэч, як падалося ёй, паспеў-такі пашнарыць па кішэнях, калі яна пайшла на дол прыбіраць вазу, ды прачытаць на пасведчанні аб рэабілітацыі сям'і яе дзявоцкае прозвішча? Ад заплечных

справаў майстра што заўгодна можна чакаць. Колькі разоў давала сабе слова не насіць больш тое пасведчанне ў кішэні, пакідаць дома, ды што зробіш, калі да такой ступені ўелася звычка. Маці заўжды насіла яго пры сабе на ўсялякі выпадак і яе навучыла ў маленстве. Маўляў, ці мала што здарыцца, то хай будзе заўсёды для надзейнасці паперчына пад рукой… Вось і носіць, лічы, паўстагоддзя.

Хоць, папраўдзе, карысці з яе, гэтай паперчыны… Сям'ю Гарнакоў рэабілітавалі ў 56-м, вунь колькі часу сплыло. Тым больш што і пасадзілі бацькоў (яна сама ўжо ў лагеры нарадзілася) ні за што ні пра што — за царкоўны шлюб. Хтосьці з суседзяў з нейкай помсты, няйначай, паведаміў у органы, і закруцілася… У дзень вяселля забралі маладых, нават як след з крэўнымі не дазволілі развітацца. І сем гадоў з гакам — кату пад хвост. Гэта калі на тое, што пасля, па вяртанні на радзіму, давялося перажыць, не зважаць…

Яна мінула наўскос пляц, за якім адразу, праз агароджу, пачыналіся жылыя дамы, шмыганула ў абсаджаны хвоямі цёмны, замглёны шэранню прагалак брамы. Азірнулася наастатак і скаланулася ад нечаканасці: святло ў Зелянухавым пакоі на тле астатніх цёмных вокнаў не проста гарэла, а было такое яркае, што ажно нават зводдалеку сляпіла вочы. Акурат так, як у А. напрыканцы дня, калі змрок апускаўся на баракі для зняволеных і магутны пражэктар нечакана заліваў наваколле не проста пукам — вадаспадам святла.

*Яна пасунулася да пліты ў спадзеве хоць крыху сагрэцца, але дарэмна: цагліны былі зусім халодныя. Такія халодныя, што нават здаліся ёй больш халоднымі за паветра ў пакоі.*

*Яна легла дагары, упетрылася паглядам у святло пражэктара за акном, што лілося з вышкі на тэрыторыю склада, на суседнія баракі, на шыхт хвояў з хваінаю-спарышом пасярэдзіне з прыладжанымі між камлямі арэлямі.*

*Святла было так шмат, што, здавалася, яго хопіць не толькі каб асвяціць наваколле, а і напоўніць цяплом настылыя за дзень будынкі баракаў.*

*І сапраўды, быццам стала цяплей. Але толькі яна пачала саграваецца, як Паўлік заквіліў у зыбцы ў сваім закутку за фіранкаю, просячы нечага, голасна заплакаў. Яна злезла з тапчана, падалася да дзіцяці, тыцнула рукою ў зыбку.*

*Пялюшка пад братам была мокрая, воблачка пары падымалася ад яе ўгору і адразу ж таяла, астуджанае сцюжаю, у паветры па-над зыбкаю.*

*Яна выцягнула пялюшку з-пад Паўлікавага цела, падсунула пад бок замест яе сухую, глянула на ходзікі.*

*Палова дванаццатай, звычайна ў такі час маці ўжо дома. Змена заканчваецца толькі апоўначы, але жанчыны-напарніцы адпускаюць яе з тартака крыху раней, каб даць магчымасць хоць крыху даўжэй пабыць з дачкою і Паўлікам, бо а пятай уранні пачынаецца новая змена, і ў чатыры яна ўжо адыходзіць. Пакідае ім з братам рэшту пайка і сыходзіць на ўвесь дзень. І яны застаюцца ўдваіх аж да яе прыходу. Такі парадак усталяваўся пасля таго, як бацьку перавялі ў іншы лагер, і доўжыцца ён вось ужо амаль паўгода.*

*Наогул, усё не так блага. Адзінае, што даймае яе, Люсю, нават больш, чым даймаюць заўсёдная адсутнасць маці і сцюжа, — смурод ад Паўлікавых пялюшак. Але куды ад яго дзенешся: пакой такі маленькі, што*

*схавацца няма дзе. То трэба трываць, не заўсёды ж брат будзе малы, калісьці падрасце і пачне сам прасіцца на гаршчок.*

*Кароткі хісткі цень слізгануў па шыбіне, маці таропка, быццам ад кагосьці ўцякала, выбегла з-за хвояў на пляц, асэпленая пражэктарам, захінула даланёю вочы ад святла. Мужчынская постаць дагнала яе, схапіла за крысо ватніка, пацягнула да сябе. Яна вырвалася з рук мужчыны, не марнуючы ні хвіліны, шмыганула ў прагалак між хвояў.*

*Мужчына — цяпер, калі ён стаяў тварам да барака, Люся пазнала ў ім бацьку Зелянухі Вадзькі з адміністратыўнага дома — незадаволена зморшчыўся, штосьці злосна крыкнуў ёй наўздагон, пераскочыў праз гурбіну, памчаўся прэч.*

*Маці ўвайшла ў пакой, узялася распальваць грубку. Але заплакаў Паўлік, і яна кінулася да яго. Выцягнула з-пад малога мокрую пялюшку, пачала шнарыць у закуцці ў пошуках сухой. Сухой, аднак, не аказалася, і яна пачала хуценька распранацца. Распрануўшыся, абкруціла мокрую пялюшку вакол аголенага пояса, ускінула наверх швэдар і ватнік, і гузак на яе скроні (калі ён з'явіўся, учора ж не было?) разгладзіўся, зрабіўся не такім страхавітым, як напачатку, калі яна толькі ўвайшла, і вочы прыкметна пасвятлелі.*

*Яна гатавала ежу ды мацала гузак, і выраз заклапочанасці на яе твары то гусцеў, то, наадварот, радзеў, прытуплены, мабыць, думкамі аб новых, што чакалі заўтра, клопатах. Але яна была побач, і рэзкае святло ад пражэктара больш не поўніла Люсіну істоту трывогаю, і хвойка-спарыш з арэлямі між камлёў наўзбоч суседняга барака здавалася ёй куды больш прыветнай, чым дагэтуль.*

*Супакоеная, яна так моцна заснула, што нават не чула, як маці паднялася, каб зняць з пояса падсохлую пялюшку ды ўхутаць ёю Паўліка.*

*Як маці сышла ўранні на працу, яна таксама не чула — толькі лёгкае рыпенне маснічыны пад нагамі ды мяккі, бы хтосьці шмаргануў вяхоткаю, дотык вуснаў да ілба. А калі прачнулася, у пакоі было зусім светла. Але не ад пражэктара. Проста дзень стаяў на дварэ, і бясконцы, як заўсёднае чаканне маці напрыканцы змены, снег валіўся густою завесаю з неба на зямлю і хвоі, поўніў беллю прагалкі паміж баракамі.*

*Луста хлеба, варанае яйка і шклянка астылае гарбаты — звыклы паёк — чакалі на стале. Але есці не хацелася, і яна вырашыла спачатку пакарміць брата. Прыслухалася, як ён там: з-за фіранкі не даносілася ні гуку.*

*Яна паднялася, каб паглядзець Паўліка, падскокам хіснулася за перабойку.*

*— Паўлік, до спаць, — сказала і адшморгнула фіранку. — Час снедаць.*

*Брат спаў так моцна, што нават не адазваўся ані гукам, як рабіў тое заўсёды, на яе пазоў. Яна падышла бліжэй, каб пабудзіць яго, датыкнулася далонню да шчакі.*

*Шчака была халодная і белая, як снег за акном. І гэткая ж халодная, як шчака і ўсё цела, была пялюшка пад Паўлікавым бокам.*

*Яна апромеццю выскачыла на двор, рынулася да суседняга барака, дзе жыла свякрова адной з напарніц маці цётка Галя Кудзельская. Спадзеў, што за гэты час брат апрытомнее, не пакідаў яе. Але калі яны з*

*цёткаю Галяй вярнуліся, Паўлік па-ранейшаму прыкмет жыцця не падаваў.*

*Цётка Галя роспачліва заенчыла, пабегла да тартака па маці, а Люся засталася ў пакоі. І снег усё ішоў ды ішоў, і здавалася, яго неўзабаве стане так шмат, што не тое што ад цётчыных слядоў, а і ад суседніх будынкаў абапал двара не застанецца напаміну.*

*Разам з маці прыйшлі яшчэ дзве жанчыны, адна з іх незнаёмая, другая — нявестка цёткі Кудзельчыхі Ліда. Маці ўхутала Паўліка ў прасціну, у разгубленасці застыла з целам на руках пасярод пакоя.*

*Затым жанчыны і цётка Галя ўзялі прасціну за рагі, памалу панеслі ношку на двор. Але навошта і куды панеслі — не сказалі, і Люся правяла рэшту дня ў чаканні, што яны, мабыць, вось-вось вернуцца разам з братам.*

*Але яны не вярнуліся. І ёй нічога не засталося, як сядзець пры акне і глядзець, як патанае пад пластамі снегу самотная хвоя-спарыш ды меншае, меншае, чэзне пад снегам ніз сцяны барака насупраць.*

*Ёй хацелася конча дачакацца маці, каб спытаць, куды яны занеслі Паўліка, але яна не дачакалася. З'ела хлеб, спачатку свой, затым братаў, і, як толькі запаліўся на вышцы і асвяціў усё наўкола пражэктар, кульнулася на тапчан.*

*І, радая, што гэтак во неспадзеўна паболела ежы і пачысцела ў пакоі паветра, бо не смярдзіць болей мокрымі Паўлікавымі пялюшкамі, моцна заснула.*

Міла Сцяпанаўна ўключыла тэлевізар, не чакаючы, калі з'явіцца на экране карцінка, — навошта, праграма "ANIMAL PLANET" — адзінае, што яна глядзіць апошнім часам, — пайшла ў кухню па гарбату.

Падсела да стала, на якім з раніцы грувасцілася горка прыдбанага для заўтрашняе выправы з Зелянухам да ракі харчу ды розных прыправаў, адхлюбнула з кубка раз, другі. Хацела ўжо падняцца, каб пайсці зноў у пакой, як раптам убачыла на дварэ постаць.

Мужчына стаяў на ходніку, прыхінуўшыся плячом да газетнага шапіка, і похапліва курыў.

Канешне, ён, Аляксандр Зянонавіч, Сашка, хто ж яшчэ, падумала яна і засталася сядзець пры акне. Падумала, што, можа, няблага было б запрасіць яго зайсці, але тае ж хвіліны адагнала спакусу прэч.

Запрашаць? З якое нагоды? Вось скончыцца ўся гэтая мітрэнга з Зелянухам, тады, можа… І то ці варта? Вунь жа не адказаў два гады таму на яе ліст, а пэўна ж, атрымаў яго. Не пажадаў адказаць — такой бяды, казаў той, вольнаму воля.

Зрэшты, меркаваць проста, а вось на справе… Як бы двое адмалку ні зрасліся, бы тыя спарышы, душамі, чаго ўсё яно вартае, калі целы — урозь… Што тая хваінка-спарыш у А.: карэнне і ніз камля агульныя, а самі камель ды ствалы — кожны па сабе. Цела ж, вядома, без душэўнае спажывы, як і душа без цялеснае, — пустая абалонка, не болей.

Але найбольш сумненняў у яе наконт уласнага знешняга выгляду: як-ніяк пяцьдзясят восем кабеціне. Ды і занятак, што ні кажы, накладвае адбітак. Тры гады з вантузам пад пахай і вядром ды швабраю ў руцэ — не жартачкі. Быў бы ён жанчынай — усё прасцей тады было б. Як вось з Лёляю. Шэсць год таму (яна тады яшчэ на пошце рабіла) прыслала ліст, прасіла прабачэння за прадаўнюю прыкрасць.

І яна адпісала, і ўжо дамовіліся спаткацца. Шкада, не лёс быў: памерла Лёля за месяц да спаткання, а то,

глядзіш, і добрае што магло б між імі наладзіцца… І, напэўна, наладзілася б, калі ўжо за гэтулькі год пра той яе (ды і свой, напэўна) паскудны ўчынак ля студні нікому не распавяла…

Яна зашмаргнула фіранку, пайшла зноў у пакой.

На экране львіца Тора ляжала ў зарасніку побач з дрэвамі, высочвала здабычу. Па тым, як напружылася ўся яе істота, ды па шчыльна сціснутай пашчы драпежніцы было бачна, што хвіліна пачатку атакі зусім блізка. Гэтым разам ахвяраю мусіла стаць цяля, матка якога, аднарогая буйваліха, ва ўчорашняй серыі ўсмерць забіла рогам аднаго з дзіцянят Торы, калі тая адлучылася да вады, а цяпер сама выправілася ў спадзеве спатоліць смагу да бліжэйшага ручая, пакінуўшы цяля сярод кустоўя.

Гэтыя перадачы пра жывёл! Яна прызвычаілася глядзець іх не так даўно, з паўгода таму, як толькі падключылася да спадарожнікавага тэлебачання. І з таго часу не прапускае ніводнай серыі.

Глядзіць уранні, удзень, увечары, абы вольная хвіліна. Глядзіць з такім утрапеннем, што, здаецца, неўзабаве сама, наглядзеўшыся ўсяе тае жорсткае экзотыкі, абрасце поўсцю ды ператворыцца ў звера, а то, глядзіш, і рыкне па-львінаму. Глядзіць з такім імпэтам, так унікліва, што ўжо ўпаўне магла б быць кансультантам па фаўне ў якім-небудзь запаведніку, ва ўсялякім разе аленя пуду ад антылопы куду адрозніць так лёгка, быццам усё жыццё побач з імі пражыла.

Але асабліва даспадобы ёй тыя перадачы, дзе на паляванне выходзяць не звяры, а людзі. Чаму? Было б проста адказаць: хто ж ведае. Так адказаць — значыць, пакрывіць душою, як крывяць тыя, што ў пашанотным ужо нават узросце, шукаючы дурняў, даводзяць

іншым, быццам не разумеюць вытокаў собскіх учынкаў. Усе ўсё ведаюць, усе ўсё разумеюць. Іншая рэч, ці гэтак тыя вытокі прывабныя, каб жадаць дзяліцца веданнем пра іх з іншымі.

Так і з гэтымі праграмамі пра паляванне… Бо яна не проста іх глядзіць, яна імі — без перабольшання жыве.

Яна глядзіць, як знешне сімпатычны чалавек з манерамі інтэлігента не ў першым калене дэманструе з экрана без аніякіх пакутаў сумлення галаву забітай хвіліну таму прыгажуні антылопы або аленя, і яе ўласныя пакуты з нагоды колісь учыненага ёю зла здаюцца ёй на фоне ўсяго таго калі не марнымі, то дакладна мізэрнымі.

Яна слухае прыемны, поўны абертонаў гонару ад перамогі над безабароннаю жывёлінай дзе-небудзь у Кеніі ці ў Замбіі прывабны голас паляўнічага і міжвольна адчувае сябе часткаю пераможнай сілы.

Яна глядзіць на пераможцу і бачыць у ім сябе. Яна быццам бачыць сябе вачыма старонняга чалавека, і, што вельмі ёй важна, той старонні чалавек не асуджае яе.

І рашучасць выканаць сваю ролю да канца, паставіць апошнюю кропку ва ўласнай гісторыі поўніць яе. Нават калі, як тым птушанятам пярэстае казаркі, што, рызыкуючы жыццём, скачуць са скалы, з радзіннага гнязда следам за бацькамі ў памкненні да вады, давядзецца рынуцца галавою ў самы небяспечны, непрадказальны вір.

Яна выключыла святло, асцярожна падсунулася да акна. Адпяла даланёй рог фіранкі, зірнула на дол. Але там ужо нікога не было, толькі пара слядоў вяла паўз намецены ветрам друз ад ходніка да брамы дома адпачынку.

А ўсё-такі цікава, чаму ён не адказаў тады на яе ліст? Проста не пажадаў ці, можа, збаяўся, што яна прад'явіць (смяхоцце, па гэтулькіх гадах!) нейкія прэтэнзіі? Ці, можа, не дазволіла жонка? Зрэшты, ён ніколі жаданнем пісаць не вылучаўся. Не тое што яна: хоць бы той першы ліст у маленстве ўзяць, у якім яна апісвала Поўнач ды гісторыю Паўлікавай смерці і які потым гэтак адгукнуўся ёй праз Лёлю.

Тым часам Тора паспела паваліць цяля на дол ды ўпіцца зубамі ў шыю няшчаснага ў спадзеве як хутчэй задушыць. Буйваліха кінулася напрасткі паўз зараснік на ягонае адчайнае мычанне, і вось ужо дзве маткі сышліся ў жорсткім, як бывае, калі на кон пастаўлена само жыццё, паядынку.

Цяля ўзбрыкнула, узбадзёранае падмогаю, адскочыла ўбок, і праз хвіліну яны ўдваіх з буйваліхай зніклі па-за хмызам. Львіца праводзіла іх вачыма, прынаджаная з'яўленнем на даляглядзе нейкай іншай, мабыць, больш лёгкай здабычы, стаілася ў зарасніку.

Міла Сцяпанаўна адвяла пагляд ад экрана, зноў зірнула на акно, за якім чарнеўся шыхтам дрэваў бераг ракі. Вось там якраз, дзе рака робіць паварот, і знаходзіцца самае прыдатнае, калі даваць веры тутэйшым мужыкам, месца для рыбалкі. Праўда, абрыў там не надта высокі, усяго метраў з пяць, не тое што на пляцы ля млына, які яна дасюль памятае і будзе памятаць, напэўна, да скону, а ўсё ж…

*Яны стаялі на пляцоўцы амаль пад самым дахам млына, і іх постаці то аддаляліся адна ад адной, то зноў зліваліся ў адну. Яны былі так высока, так далёка ад Люсі, што, каб хаця зборьшага ўсачыць за іх рухамі, ёй трэба было штораз ўскідваць галаў угору.*

*І кожны раз, як толькі яна тое рабіла, пігулка сахарыны выслізгвала з яе пальцаў на дол, гублялася ў траве. Раз-пораз яны штосьці казалі, і іх нягучная гамана бязладным ашмеццем ледзь улоўных гукаў працінала паветра, таяла па-над сценамі млына, і насоўка ў руцэ маці то трапяталася на ветры, то хавалася ў далоні.*

*Яна чакала, што яны, мабыць, яшчэ больш наблізяцца адзін да аднаго, і інтуіцыя не падманула яе.*

*Першы крок зрабіў мужчына. Ён так рэзка падаўся да маці, што яна на хвіліну, здаецца, зніякавела ад нечаканасці. Яна ўскінула рукі быццам каб абараніцца ад яго, але не паспела. Ён схапіў яе за запясце, са спрытам дзікага звера рвануў да сябе. Іх целы судакрануліся, але толькі на момант.*

*Маці вольнаю рукой ударыла яго па галаве, выхапіла другую з ягонай далоні. Невядома, ці моцны быў той удар, але мужчыну ён, безумоўна, прыйшоўся недаспадобы. Ён гэтак жа груба, як калісь у А. пад пукам святла ад пражэктара, схапіў маці за руку, цяпер ужо за локаць, тузануў да сябе.*

*І цяпер абрысы іх сплеценых у адно паставаў нагадвалі абрысы камля хвоі-спарыша ў А..*

*Маці зноў паспрабавала вызваліцца з абдоймаў мужчыны, але не дала рады. Ён трымаў яе так моцна, што яна ледзь-ледзь магла паварушыцца.*

*Вецер вымкнуўся з надстрэшша, зухаватым сватам пранёсся над пляцоўкай, абляпіў твары абаіх поламі ягонага плашча.*

*Мужчына абхапіў маці за стан, штурхнуў убок. Яна павалілася на дол, нерухомым кулем застыла на самым краі пляцоўкі.*

*Ён счакаў хвіліну, рашуча накіраваўся да яе. Шпаркасць і ўпэўненасць ягонае хады і скрыўленыя злосцю*

*вусны сумневу наконт таго, што мае быць далей, не выклікалі.*

*Ён падышоў да маці, выпрастанай наперад рукой лёгка-лёгенька да яе дакрануўся…*

*Жах ахапіў яе. Яна штосьці — здаецца, ці не “мама!” — закрычала і ўпала ніцма на траву.*

*Калі яна зноў узняла галаў, на пляцоўцы нікога не было. Толькі насоўка кружляла, бы планер, па-над краем выступу, але і яе неўзабаве знесла ветрам кудысьці ўбок.*

*Яна падумала, што, мабыць, яны ўжо пайшлі з пляцоўкі, і, не зважаючы на пігулкі сахарыны, што цурком сыпаліся са скрутка на дол, кінулася наўцёкі. Цела яе зрабілася такім бязважкім, што яна яго амаль не адчувала.*

*Яна ляцела паўз кустоўе няведама куды, і карослівая лёгкасць ягонага дотыку пранікала ў яе глузды, штурхала прэч са свядомасці ўсе іншыя рухі і жэсты, якія яна ведала дагэтуль.*

Вось так яна тады займела лёгкасць *дотыку*. Як няўчаснае раставанне антарктычнага айсберга выклікае метамарфозы клімату за дзясяткі тысяч вёрстаў ад яго, так выпадкова падгледжаная лёгкасць дотыку Зелянухавай рукі стала падмуркам фармавання яе новай сутнасці. Сутнасці, якая суправаджае яе ўсё жыццё і пра якую яна нікому, бадай, ніколі не наважыцца сказаць. Хоць, можа, і варта было б. Тым больш гэта было б апошняе, што яна наогул хацела б сказаць перад тым, як паспрабаваць той лёгкасці пазбыцца.

Менавіта гэтак — пазбыцца. І менавіта праз здзяйсненне задуманага. Бо *гэткая* лёгкасць — той жа цяжар, як валіза за плячыма, толькі шматкроць большы.

Двойчы яна ўжо спрабавала тое зрабіць. Першы раз — праз лекара-псіхатэрапеўта. “Вы да кагось датыкнуліся? — сказаў ён з мілым усмехам і паклаў ёй далонь на лоб, быццам хацеў памацаць глузды. — Ну, гэта не страшна, мы вас вылечым”. Другі раз — праз святара. Ды зноў няўдала, бо стары святар быў глухаваты і наўрад зразумеў з яе блытанага аповеду, пра што гамана.

А як жа Бог? О, калі гэта праўда, што Бог бачыць намі ўчыненае, то як ёй хацелася б, каб ён насамрэч, як прынята тое лічыць, бачыў усё. Бо тады, можа быць, і ёй застанецца які-ніякі шанц на выратаванне душы. Вось толькі як яна яго, той шанц, скарыстае? Хутчэй за ўсё — з’едзе ў А., адзінае месца на свеце, што, адчувае, ніколі не адпрэчыць яе. Успамін пра якое цвіком сядзіць у яе памяці адмалку і прыцягвае, бы магнітам, жорсткай праўдай дзяцінных мрояў-прыпамінаў. Месца, якое так шмат вызначыла ў яе жыцці і ў якім яна магла б (а можа, ёй толькі так уяўляецца, што магла б) заставацца сабой.

Тора ашчэрыла пашчу, пазяхнула, легла на пясчанік побач з ручаём, і жоўтыя вочы яе зліліся колерам з фарбамі пустэльні.

Яна выключыла тэлевізар, затым святло, легла на канапу. Уявіла, што яна Тора, і мроя лісліваю ласкай абвіла яе галаў, стаілася ў звілінах глуздоў: што з таго, што невысокі той рачны абрыўчык. Затое пад ім, мабыць, шмат камення, і, пэўна ж, яно зусім не такое мяккае, як пясчанае дно абмялелай за лета студні…

*Яна выйшла на двор і па нязвыклых Лёліных паводзінах — кінулася да яе, бы да роднай, калі такое было? — адразу зразумела: штосьці дзеўцы трэба. Але што?*

*Лёля дастала з кішэньчыка нейкую зжоўклую паперчыну, тыцнула ёй пад нос:*

*— Ліст, дзе ты ўсё распавядаеш Сашку пра жыццё з маткаю і братам у лагеры. З гэткім лістом, варта аддаць яго куды след, не тое што ў інстытут — у самае задрыпанае ПТВ не возьмуць. Дык не ўзносся высака, а ідзі во з Вітакам. А тады, як вернецеся, і ліст аддам.*

*Вітак вымкнуўся з-за альтанкі, наблізіўся да іх, абдаў перагарам.*

*— А што, пайшоўшы, рабіць маем? — спанталычаная Лёліным нахабствам, спытала яна.*

*— А гэта ўжо мяне не датычыць. Хочаце — біцеся, хочаце — мілуйцеся, хочаце — хоць пацеры адмаўляйце, мне не абыходзіць.*

*Вітак стаў упобачкі, і дотык ягонай далоні апёк яе плячо. Яна хацела скінуць ягоную руку з пляча, але вырашыла не спяшацца: не такая ж ужо яна ў рэшце рэшт бездапаможная, каб у выпадку чаго не даць рады адбіцца ад нецвярозага.*

*Зрушыліся яны з Вітакам з месца, пасунуліся ў кірунку танцпляцоўкі. Мінулі прысады, вось і да клуба ўжо блізка, рукой падаць.*

*І тут хапель Вітак яе ўпоперак стану ды ў хмыз бэзавы, дзе перад тым яны з Сашкам цалаваліся, павалок. Завалок у сярэдзіну кустоўя і трымае, як воўк казу перад раздраннем. Трымае за плечы ды пазірае скоса ў бок сцежкі, быццам чакае каго, ды перагарам смуродлівым яе абдае.*

*І тут хтосьці яшчэ з'явіўся на сцежцы. Хацела яна паглядзець, хто там, але ж як даць рады ў цямрэчы, ды яшчэ праз хмыз, пазнаць? Хоць галасы быццам і знаёмыя.*

*І толькі калі ліхтарыкам пачалі вадзіць са сцежкі па кустоўі, пазнала яна прыхажаяў: Лёля, а з ёю Сашка.*

*Кроў ударыла ёй у галаў: Сашка з Лёляй? Ды ці не ў змове яны? Хацела ўбок куды шмыгануць, каб незаўважнаю застацца, ды ногі падранцвелі, не жадаюць слухаць.*

*Сашка збег адразу, ледзь іх з Вітакам сярод кустоўя пабачыўшы. Неўзабаве і Лёля, нацешыўшыся, відаць, збянтэжанасцю яе, пайшла. І вось і Вітак яе адпусціў, быццам толькі і трымаў дзеля таго ў кустоўі, каб тыя двое іх разам пабачылі. Тут і зразумелы ёй стаў д'ябальскі, нялюдскі Лёлін змысел.*

*Як было такое перажыць? Думала за Сашкам следам бегчы, каб растлумачыць яму ўсё, ды сорам не пусціў.*

*Доўга-доўга, ледзь не да світанку цягалася, растузаная прыкрасцю, па наваколлі. А як першы раз певень кукарэкнуў, пайшла дахаты з цвёрдым намерам ліст той дзевяцігадовае даўніны, у якім пра Поўнач Сашку распавядала і які Лёля абяцала аддаць, калі пойдзе яна з Вітакам, запатрабаваць. Як абяцала — то хай жа і аддасць!*

*Пастукала Лёлі ў акно. Выйшла Лёля.*

*— Ліст узяла? Давай!*

*— Які ліст? Я ж пажартавала, што ён у мяне. Я яшчэ тады, калі малыя былі, чытала яго, а пасля і не бачыла ніколі. Якая ты даверлівая. Вось і плаці за гэта. Сашка твой на цябе зараз, пасля таго, як з Вітакам у хмызе заспеў, і не зірне ніколі.*

*Сказала так і да студні (папіць ёй гэтак конча захацелася) пайшла.*

*І вось ля студні яны, і вось нахінаецца Лёля, каб вядро ў зрубе адчапіць з цвіка. Нахінаецца, каб дацяг-*

*нуцца рукой да вядра, шнарыць рукою па сцяне, і ўсё дарэмна.*

*А ёй нібыта варажына-шатан глузды засціў. Глянула на Лёліны лыткі, што агаліліся напалову над зрубам (віднець акурат пачало), і замест іх мокрае цела маці з абгорнутымі наўкола пояса Паўлікавымі пялюшкамі перад сабою ўбачыла. І так ёй нясцерпна захацелася да тых малочна-белых, са шнарамі ад гумак вышэй каленяў лытак датыкнуцца, што ажно сама спалохалася таго жадання.*

*А Лёля ўсё кешкаецца з вядром, ніяк не дасць рады яго адчапіць. То так павернецца, то гэтак, а ўсё непярэліўкі. Цела — над зрубам, плечы і галава — у зрубе, і сукенка ўсё вышай і вышай падкасваецца, і ногі снегу паўночнага ў А. пры хваіне-спарышы бялей.*

*Як датыкнулася да тых ног лёгенька-лёгенька, як узмылі ўгору — нічога амаль у памяці не засталося. Адно, што засталося, — гэта як калодзеж раўнуў, быццам прымаць староннее не жадаючы, ды як рэхам глухім наваколле на міг ад падзення староннягa таго ў прадонне агаласілася. І — усё.*

*Пастаяла яна крыху ля студні ды пасунулася да хаты.*

*Дабрыла да двара, глядзь: Сашка ў альтанцы сядзіць. Зайшлося сэрца ад жадання падысці, а ў вуха нібыта нашэптвае хтосьці: не трэба, не трэба, не спяшайся. Пайшла ў пакой, на ложак кульнулася ды і пракачалася без сну да рання.*

*Уранні паднялася: гармідар на дварэ, вэрхал. Суседзяў цягаюць па адным на дазнанне, а ёй — каб знак хто падаў ісці. Сядзіць яна, чакае. Паўдня гэтак сядзіць ні жывая ні мёртвая, дзень, вечар. Заснула — сон сасніўся. Быццам гоняцца за ёю нейкія людзі,*

*а яна, каб уратавацца ад іх, у неба ўзлятае. І лятае там, лятае… А на доле маці-нябожчыца ўдзвюх з цёткай Галяй Кудзельскай сігналы перасцярогі па чарзе ёй, як толькі наблізіцца каторы з праследнікаў, падаюць.*

*А назаўтра прыйшлі па яе. Ды нядоўга мучылі-дапытвалі. Так, сполахам лёгкім абышлося. Яна б ужо, папраўдзе, з пярэпалаху таго ды з пакутаў сумлення і рада была б арышту, але, казаў той, — не лёс. Пераначавала, а ўранні, ледзь золак заняўся, да цягніка, сёе-тое з майна, пасведчанне аб рэабілітацыі ды аблігацыі бабуліны ў заплечнік запхнуўшы, пасунулася.*

*Куды далей, што, якім чынам — ні пра што не думала, нічога сама сабе не загадвала. І толькі як ужо састаў падышоў да паўстанка, схамянулася ў одуме, і А. з заснежанаю хвояй-спарышом, якім адмалку трызніла, ды твар цёткі Галі ўзбрылі ёй у голаў.*

*А. дык А., падумала і скочыла ў вагон.*

Яна прахапілася ад дрэмы, зірнула на ходзікі: палова адзінаццатай, у гэткі час яна звычайна спіць. Падумала, што нявлага было б раскласці канапу, як пачула з вуліцы нейкі гук. Адхінула фіранку, каб паглядзець, што там, але дарэмна: погляд утыкнуўся ў густую завесу цемры, застыў на вяршаліне хвоі па-за будынкамі дома адпачынку. І тае ж хвіліны амаль зноў саслізнуў долу, прынаджаны кропкаю святла ад цыгарэты. Нехта цёрся ў прагалку між брамаю і ходнікам і няспешна, раз-пораз падносячы да вуснаў цыгарку, курыў.

Зноў ці не *ён*, падумала яна і напружыла зрок у спадзеве хоць што-небудзь выхапіць вачыма, што пацвердзіла б прыпушчанне. Але цемра была занадта густая, а ўспышка ад цыгарэты, калі чалавек падносіў яе да

рота, занадта слабая, каб яго пазнаць. І ўсё ж… хай бы *ён* і быў.

Як яны цалаваліся тады ў хмызе наўзбоч танцпляцоўкі! Яна іх, тыя пацалункі, і зараз — бес у рабрыну — зрэдчас узгадвае. Згадкі прыходзяць раз-пораз так неспадзеўна, што яна літаральна ад іх дранцвее. Дранцвее і доўга-доўга пасля не можа вярнуцца ў яву. Стаіць, бы заспеты градабоем сярод поля вандроўнік, і бязгучна варушыць вуснамі ў адчайным жаданні прымусіць стрэлкі часу спыніцца на тым прамінулым імгненні. Варушыць вуснамі і думае пра тое, як шкада, што ад пацалункаў не нараджаюцца дзеці. Гэта адзінае шкадаванне, якое выяўляе яе слабасць. І яна беражэ яго ў сабе як сведчанне другой сваёй, няспраўджанай, ды не забітай дарэшты сутнасці.

Але наўрад гэта *ён*. З чаго б яму тут цэлы вечар цікаваць? Ды і энергетыка, падказвае ёй інтуіцыя, у *гэтага* зусім інакшая: занадта злавесная, ці што, каб быць *ягонай*.

Чалавек кінуў цыгарэту, і яна, апісаўшы ў цямрэчы дугу, упала па той бок тыну. Гэткі ж, як і напачатку, калі яна толькі прачнулася, гук, быццам хтосьці тыцнуў цвёрдым у глебу, данёсся праз шыбіну да яе вушэй, спарадзіў іншую здагадку. Фара аўто прарэзала змрочную гусціню, слізганула па ходніку, высвеціла ногі незнаёмца з кульбаю наўзбоч і знікла па-за дрэвамі.

Яна паўзіралася яшчэ колькі часу ў цемру, захінула фіранку, расклала канапу.

“Авохці! То каб хто пад вокнамі, а то во — двое адразу!” — падумала і наравіста, як колісь у маладосці тое рабіла, трасянула галавой у спадзеве як хутчэй пазбавіцца трывожнага, як тады, падчас першага спаткання з Зелянухам у А., прадчування.

*А. сустрэў яе з абыякавасцю незнаёмца. Пасля пакутлівых перажыванняў з-за разрыву з Сашкам і ад'езду з дому гэта было першае яе новае ўражанне, таму яна вырашыла не марнаваць часу і адразу накіравалася ад станцыі шукаць патрэбнае месца.*

*Яна прайшла каля вярсты ўздоўж чыгуначнага палатна і трапіла ў падказаны адным з мінакоў раён. Раён месціўся ў нізіне і ўвесь быў забудаваны хрушчоўкамі. Ён заўжды асацыяваўся ў яе памяці са снегам, а цяпер было лета, так што выглядаў ён непазнавальна, прынамсі, зусім не так, як яна памятала. Так непазнавальна выглядаў, што сумнеў ахапіў яе: ці туды яна трапіла, куды мкнулася? Разам з тым інтуіцыя ёй падказвала, што прыйшла правільна.*

*Яна падышла да маладой жанчыны, якая развешвала ў двары бялізну, і сказала, што шукае. Жанчына здзіўлена глянула на яе і адказала, што гэта акурат тут. Маўляў, баракі знеслі пяць год таму, і вось якраз на месцы гэтае пяціпавярхоўкі насупраць месціўся адзін з іх.*

*Яна зірнула на будынак. Ён бліснуў ёй насустрач вокнамі, але ніякага знаку на гасціннасць не падаў. Тады яна вырашыла абысці яго наўкола. Павінна ж што-небудзь застацца, што яна пазнала б, падумала і ступіла за рог дома.*

*Адразу за домам пачынаўся яр. Гэта давала надзею, бо пры бараку, дзе яны калісь жылі з маткаю і Паўлікам, яр таксама быў. Усцяж яра цягнуўся падковаю, паўтараў ягоныя звілістыя лініі шыхт паўночных хвояў. Яе ўвагу міжвольна прыцягнула адна з іх напрыканцы шыхта.*

*Яна падышла бліжэй, і тут яе сумнеў канчаткова развеяўся. Гэта была тая самая хваіна-спарыш, толькі*

*значна падрослая. Яна пазнала яе па жалязяцы між камлямі, да якой звычайна дарослыя мацавалі для дзятвы ўлетку арэлі.*

*Усцешаная, што вандроўка сюды, на Поўнач, не была дарэмнай, яна вярнулася да дома, каб запытацца ў жанчыны, ці не ведае яна цётку Галю Кудзельскую. “Ведаю, — адказала тая. — Але цяпер яе няма, бо яна з’ехала да сына ў Саратаў і вернецца ў А. толькі напрадвесні”.*

*Навіна расчаравала яе, бо пазбаўляла магчымасці сёе-тое распытаць пра маці і пра тадышняе іх жыццё ў А.*

*Яна спытала, ці не здае хто-небудзь паблізу кватэру. ”Якраз я і здаю, — адказала жанчына. — Я жыву адна, у мяне двухпакаёўка, і вам было б у мяне няблага”. Жанчына спытала, дзе яна працуе, і яна адказала, што яшчэ не працуе, але мае намер уладкавацца куды-небудзь, напрыклад, паштаркай у аддзяленне сувязі. Жанчына сказала, што плата за пакой будзе невялікая, бо ёй сумна адной і яна даўно падшуквае кватарантку, і павяла яе да сябе.*

*Яна паказала гаспадыні аблігацыі і папрасіла памарудзіць з аплатаю жытла да пачатку тэрміну іх пагашэння, што вось-вось павінен быў пачацца. Жанчына згадзілася. Назаўтра яны выправіліся ўдзвюх на пошту, дзе якраз рабіла гаспадыніна сваячка, і яе ўзялі паштаркаю. Так яна засталася ў А.*

*Удзень яна разносіла па кватэрах газеты і лісты, увечары, калі заставаліся сілы, блукала па мясцовасці. Відарысаў у наваколлі, якія яна магла дакладна ўзгадаць з часоў маленства, было няшмат. Але тыя, што згадваліся, выклікалі ў ёй такую буру эмоцый, што яна пасля тых шпацыраў доўга не магла заснуць. Дадавала*

*маркоты і расстанне з Сашкам, якога яна згадвала штодня і пра сустрэчу з якім марыла кожную хвіліну.*

*Аднаго разу яна так задумалася падчас прагулянкі, растузаная ўспамінамі, што не заўважыла, як забрыла на могілкі. Паманулася адшукаць магілку брата Паўліка, але не дала рады: клады былі занадта вялікія, да таго ж многія магілкі на іх — без помнікаў. А калі яна дома спытала ў Наталлі, гаспадыні, як усё-такі знайсці братава захаванне, тая ў адказ толькі махнула рукой: якое захаванне, хутчэй за ўсё ляжыць твой брат дзе-небудзь у яры, тады так шмат мерла тут люду, асабліва дзяцей, што было не да пахаванняў. Здаралася, што і ў зямлю нябожчыка не закопвалі, такая яна была каляная. Дык прысыпалі цела снегам ды і пакідалі пад гурбаю.*

*Увесь гэты час ёю ніхто не цікавіўся, і яе тое цалкам задавальняла. Як і роўныя адносіны з Наталляй, што ўсталяваліся між імі ад першага дня і якія, бадай, толькі штосьці зусім ужо надзвычайнае магло парушыць. Яна распавяла сваёй гаспадыні збольшага пра сябе (апроч студні, вядома).*

*Наталля ўспрыняла яе гісторыю спакойна, і гэта нібыта давала надзею на яшчэ большае паразуменне надалей. Наколькі яна тады памылялася, паказаў час. Што да неспадзянак кшталту праўджання асобы, то іх яна не баялася: пасведчанне аб рэабілітацыі заўсёды было пры ёй.*

*Праз тры месяцы пасля яе прыезду ў А. начальніца пошты папрасіла яе падмяніць на працы занямоглую паштарку з суседняга ўчастка. Яна згадзілася, і клопатаў ды беганіны ёй значна дадалося. Яна прапрацавала на два ўчасткі два тыдні і ўжо амаль дачакалася вяртання каляжанкі, як здарылася нечаканае.*

*Яна панесла ў адну з кватэр тэлеграму і спаткалася там з Зелянухам, старым знаёмцам. Тым, што быў за наглядчыка ў лагеры і колісь сфатаграфаваў яе са сваім сынам Вадзькам і які прыязджаў у мястэчка ў дзень смерці маці. І якога яна бачыла з маці на пляцоўцы млына перад тым, як маці загінула.*

*Ён яшчэ не паспеў адчыніць дзвярэй, а яе ўжо быццам абдало сцюжаю. Ён стаяў у дзвярах і разглядаў яе ва ўпор з такой настойлівасцю, што ёй тае ж хвіліны захацелася збегчы куды падалей. Яна глядзела на яго і не ведала, як сябе паводзіць: ці то загаварыць, нагадаць, што яны знаёмыя, ці то змаўчаць.*

*А ён усё свідраваў ды свідраваў яе неверагодна блакітнымі сваімі вачыма, быццам сіліўся ўплішчыцца паглядам у думкі. На нейкі міг ёй нават здалося, што ён пазнаў яе. Страх загнанага звера, гэткі самы, як у той дзень, калі ён прыязджаў у мястэчка і аб нечым угаворваў маці, а тая не пагаджалася з ім, мільгнуў у блакітных вачах, і яна скураю адчула небяспеку, што зыходзіла ад усяго ягонага лядашчага цела.*

*Яна вырашыла нізавошта сябе не называць. Тут ён спытаў, як яе завуць. “Мілай”, — адказала яна, інтуітыўна адарваўшы палову ад свайго поўнага — Людміла — імя, і пайшла прэч.*

*Сустрэча з Зелянухам ускалыхнула яе, ды галоўная неспадзянка падчэквала ўсё-такі дома.*

*Быў перадабедзенны час, ёй захацелася перагледзець старыя фоткі. Яна палезла ў альбом, дзе яны ляжалі заўсёды побач з аблігацыямі. Фоткі былі на месцы, затое аблігацыі, адзіны яе спадзеў хоць на якую капейчыну ў прышласці, быццам карова злізала языком. Яна ператрэсла ўсе свае рэчы, але дарэмна, аблігацыі зніклі.*

*Ёй захацелася гарбаты, яна вырашыла запаліць пліту, але ўбачыла, што ў кухні няма запалак. Яна пайшла ў Наталлін пакой, каб узяць запалкі з энзэ ў шуфлядцы стала, і там натыкнулася на сваю згубу — аблігацыі.*

*Знаходка ашаламіла яе. Але ўзаемаадносіны з гаспадыняй не давалі падставы для нейкіх кепскіх высноваў, і яна вырашыла пачакаць яе рэакцыі на знікненне злашчасных паперак з шуфляды.*

*Яна прыхавала знаходку ў сваім пакоі і пачала чакаць прыходу Наталлі.*

*Наталля прыйшла а палове другой і адразу пачала рыхтаваць сабе абед. Запалак не было, і яна пайшла па іх у пакой. Было чутно, як яна адчыняе па чарзе шуфляды, тым часам як запалкі ляжалі на самым бачным месцы, спрыхаду.*

*Яе вяртанне канцэнтрацыяй жарсці нагадвала рэакцыю сярэднявечнага ваяра на знікненне паса вернасці ў юрлівае жонкі. Наталля моўчкі прайшла ў кухню, запаліла пліту, кінула запалку ў бляшанку з-пад часціка. Затым павярнулася да яе тварам, не гледзячы ў вочы, сувора сказала:*

*— Не думала, што ты гэткая неахайная. Паглядзі, колькі бруду паўсюль у калідоры. Няўжо цяжка падмесці?*

*Зачэпка для больш грунтоўнае "размовы" была такой відавочнай, а заўвага была прамоўленая такім зласлівым тонам, што яна знямела ад нечаканасці. Аднак Наталля, відаць, інтэрпрэтавала яе маўчанне як вышэйшую ступень абыякавасці да яе слоў, таму прадоўжыла наступ яшчэ больш жорстка:*

*— І хто дазволіў табе шнарыць у маёй шуфлядзе? Ты што — дазнаўца? — Тут яна канчаткова страціла*

*кантроль над сабою і закрычала што мела моцы: — Варагіня народа! Спадзяешся абвесці ўсіх вакол пальца. Дзе аблігацыі? Вярні іх на месца, не то будзе блага! Я табе так зраблю, што ніколі нікуды больш са сваім паскудным мінулым не ўладкуешся, і пасведчанне тваё гаўнянае табе не паможа!*

*Яна схапіла балейку з прапаласканаю ўранні бялізнай, кінулася на балкон яе развешваць. Злосць усё яшчэ трэсла яе, і, здавалася, мокры — хвілін дзесяць таму на двары працерусіў кволы дожджык — дол балкона без парэнчаў наўкола не вытрымае той распаленай не на жарт злосці, вось-вось засіпіць пад босымі Наталлінымі нагамі.*

*Богведама, як так сталася, але раптоўна спакой ахапіў яе. Яна пабыла колькі хвілін у пакоі, выйшла следам за гаспадыняю на балкон.*

*Наталля стаяла да яе спінаю з зашчэпкамі ў зубах, і пара злымі шэрымі аблочкамі выштурхвалася разам са словамі з яе рота, слалася над галавой. Яна ніяк не магла спыніцца і ўсё гаварыла, гаварыла… Яна была такая непрыгожая ў прыступе злосці і разам з тым такая кранальная ў няведанні сваёй незайздроснай будучыні, што Люсі міжволі захацелася да яе датыкнуцца — лёгенька-лёгенька, быццам муху адагнаць ад талеркі са страваю ці восвіну. Так лёгенька, што яна, мабыць, і сама не заўважыла б ні таго дотыку, ні таго, што сталася б у наступную хвіліну. Так хутка, што бялізна, як калісь насоўка з далоні яе маці, не паспела б выпасці з Наталліных рук.*

*Яна ўявіла, як Наталля ляжыць з раскінутымі ўбакі рукамі і нагамі на доле пад балконам і ў немым здзіўленні, быццам хоча штосьці запытацца, глядзіць на яе нежывымі вачыма, і… рашучасць пакінула яе. Яна ад-*

*вяла пагляд убок, стрымгалоў кінулася назад у пакой. Паклала ў партманет аблігацыі і хуценька пайшла з кватэры.*

*На яе шчасце, пошта была ўжо цалкам пасартаваная, таму ні з кім спатыкацца на працы ёй не давялося. Яна разнесла рэшту пошты, пакружляўшы па А., пабрыла на станцыю. Падумала, што няблага было б, напэўна, вярнуцца ў кватэру па рэчы, але не насмелілася: раптам гаспадыня ўсё яшчэ не супакоілася, і як потым, калі што якое, каму давядзеш, што чалавек — гэткі ж звер, як і астатнія звяры, і што будзіць у ім жывёліну — небяспечная справа?*

*Вось так, пракантаваўшыся паўдня на станцыі, яна з'ехала тады з А. Хвоя-спарыш, адзіны матэрыяльны напамін з яе маленства, праводзіла яе маркотным шапаценнем голак, ды стрыклівы, не менш стрыклівы ад крапівы вакол тае хвоі пагляд Зелянухі кальнуў з-за фіранкі наўздагон у спіну, калі яна праходзіла з валізаю паўз ягоны дом.*

Яна ўзняла голаў, зноў глянула на ходзікі: палова дванаццатай. Акурат ці не гэткаю во парою сышла яна тады без капейчыны, але з аблігацыямі ў кішэні на станцыі па дарозе з А. ды і захрасла ў чужым гарадку на без малога трыццаць гадоў. Нават на трыццаць два, калі браць пад увагу, што, уладкаваўшыся ўжо на працу ў дом адпачынку, не-не ды і вярталася ў гарадок, зазвычай увесну ці ў восень, каб то магілку мужа дагледзець, то забраць сёе-тое з пакінутых у цёткі Кудзельчыхі рэчаў.

З мужам ёй пашчасціла, безумоўна, хоць і выйшла за простага каюра, даглядчыка сабак. Пётра Баговіч (так звалі каюра) чалавек быў добры, а галоўнае —

аднае з ёю крыві, з аселых на Поўначы ссыльных беларусаў. І разумеў яе. Калі яна, да прыкладу, дзесяць год таму надумалася ўзяць да сябе нямоглую цётку Галю, сын і нявестка якой загінулі ў аўтааварыі, не тое што словам не запярэчыў, наадварот, памагаў даглядаць старую, як мог. Шкада, рана памёр, але тут ужо каму як наканавана.

Ад цёткі Галі яна тады шмат чаго даведалася пра сваё з маці жыццё ў А. падчас высылкі. Нават пра такія дробязі, як матчыны гузакі на скронях у дзень смерці Паўліка, якімі яе, аказваецца, усё той жа Зелянуха ўзнагародзіў, жаноцкае прыхільнасці дамагаючыся. А яшчэ пра тое, як мітусіўся пасля расстрэлу Берыі, баяўся, каб каторая з жанок не заявіла куды след, ды паляцеў расшукваць адну з найбольш ім пакрыўджаных — Любу Гарнак.

Вось тады, даведаўшыся пра ўсё, яна і вырашыла papомсціцца…

Але што значыць — вырашыла? Рашэнне само прыйшло, і значна раней, яшчэ ў дзень сустрэчы са старым падчас яе першай вандроўкі ў А. І якая ёй справа да ўсіх гэтых мудрагелістых разваг пра марнасць помсты ды наступстваў, якімі яна абарочваецца для таго, хто помсціць?

Гэта праўда, на свеце шмат людзей, і з соцень, тысяч, дзясяткаў тысяч заўсёды ёсць шанц выбраць найбольш табе сімпатычных. Але ж і міма подласці праходзіць не выпадае. Ёсць рэчы, якіх не ўнікаць трэба, а наадварот, — набліжацца да іх, каб не даць ім магчымасці паўтарыцца ў прышласці. Так што і не даравацъ — таксама навука. І яе яна спасцігла дасканала. І цяпер дакладна ведае: яе час настаў.

Настаў… Яна гэтак часта, з гэткімі падрабязнасцямі складала ў галаве план помсты, што ён урэшце стаў неад’емнаю часткай яе сутнасці. Яна так доўга

выношвала ды песціла той план у глуздах, што ён, напэўна, ужо нізавошта, нават каб яна таго вельмі пажадала, яе не адпусціў бы. Як не адпускала яе ўсе гэтыя гады адчуванне віны з-за Лёлі. Якому яна, праўда, навучылася-такі збольшага даваць рады, забіваючы сябе працаю ды рознымі альтруістычнымі ўчынкамі, за што тут, у гэтым заштатным доме адпачынку, яе і клічуць усе не іначай, як маці Тэрэзай. І гэта калі не выкупляе дарэшты (вядома ж, не!) былых яе правінаў, то хаця б робіць іх у яе ўласных вачах не такімі злавеснымі. А калі і гэтага недастаткова ёй для самазаспакаення, яна ўключае тэлевізар і глядзіць праграмы пра паляўнічых.

Сёння чацвёрты тыдзень, як яна наблізілася ўшчыльную да ажыццяўлення сваёй задумы. Бо тры тыдні таму ў доме адпачынку з'явіўся, нарэшце, Зелянуха.

Ён прыехаў уначы, і яна была першая, з кім ён сутыкнуўся ў прыёмным пакоі. Ён не пазнаў яе, ды і яна яго, прызнацца, — з цяжкасцю: мінула гэтулькі гадоў. Ён пасяліўся на паверсе, дзе яна за прыбіральшчыцу, і вось яна ўжо тры тыдні прыбірае ягоны пакой. Яны нават, можна сказаць, у пэўным сэнсе пасябравалі, як могуць пасябраваць два пажылыя, з розніцай у нейкія два дзясяткі гадоў, чалавекі.

Такія адносіны расслабляюць яе, і яна, каб не паддацца старэчай абаяльнасці Зелянухі, змушае сябе ўяўляць яго калі не монстрам, дык хаця б нягоднікам. Гэта няцяжка, варта толькі ёй згадаць эпізоды з аповеду цёткі Галі пра тое, якую ролю адыграў ён у жыцці маці ў лагеры ды прыпушчанне наконт вытокаў трагедыі на млыне. Нічога гэтага сам ён, вядома, не ведае і калі і ўведае, дык не раней, як у апошнюю сваю хвіліну. А яна, гэтая хвіліна, не за гарамі.

Заўчора ён прапанаваў ёй выправу на прыроду напрыканцы ягонага тэрміну адпачынку. Яна згадзілася.

Не адразу, памулялася крыху дзеля прыліку, але згадзілася. І па тым, як загарэліся ягоныя вочы, яна зразумела, што для яго яе згода чамусьці вельмі важная.

Гэта яе насцярожыла: ці не вядзе і ён нейкую гульню? Ад гэтых пенітэнцыярыстаў-адстаўнікоў што заўгодна можна чакаць. Ці не вызнаў ён выпадкам, хто яна, і ці не ладуе якую-небудзь пастку? Што, калі злаўчыўся-такі пашнарыць учора ў кішэнях халата?

Ды ў любым выпадку пікнічок адбудзецца.

Яна добра ведае мясцовасць і прапануе пайсці да ракі. Туды, дзе самы высокі, стромы бераг і наўкола шмат віроў. Яны раскладуць вогнішча, і, пакуль ён будзе вудзіць з абрыву рыбу, яна зоймецца прыгатаваннем перакусу. Затым пакліча яго есці, але ён, захоплены ўдалым клёвам, нават яе не пачуе. Тады яна падыдзе да яго, каб паклікаць зблізку. Крок, другі, трэці, вось ён усё бліжэй, бліжэй…

Ён будзе стаяць да яе спіной і з утрапеннем маладзёна, што ўпершыню выйшаў на ловы каханкі, глядзець, як гайдаецца на вадзе паплавок. Ён будзе такі кранальны ў сваёй зачараванасці хараством хвіліны ды чаканні ўзнагароды за цярплівасць, што ёй захочацца да яго датыкнуцца.

І яна падыдзе і датыкнецца — лёгенька-лёгенька, як калісь да Лёлі. Так лёгенька, што ён і зразумець нічога не паспее.

Яны будуць стаяць так блізка адно да аднаго, што яна будзе чуць ягонае дыханне, бачыць, як пульсуе жылка на ягонай старэчай, у шызаватыя пупырышкі, патыліцы. І калі што пойдзе не так, як след, яна тут жа выправіць сітуацыю. Не, не скочыць з адчаю на дол, гэтага яна ніколі не зробіць, *ні-ко-лі* — не дзеля таго гэтулькі гадоў чакала!

Яна — *датыкнецца да яго*. І вецер — адзіны сведка доўгачаканай дзеі — падхопіць ягоны крык і разнясе рэхам па бязлюдным наваколлі, як калісь разнёс ейны па ваколіцы млына.

Яна датыкнецца, і гэта будзе першая яе ў жыцці параза, якую яна прыме без горычы і шкадавання. Цень якой, у адрозненне ад папярэдніх, ні на хвіліну не азмрочыць рэшту адпушчаных ёй лёсам гадоў. І за магчымасць якой удзячнасць яе Богу будзе такой вялікай, што яна нават сходзіць у святыню ды шчыра-шчыра, як толькі зможа, да Яго памоліцца.

Толькі б даў вытрымку не саступіць у апошнюю хвіліну, як калісь у А., на мокрым тым Наталліным балконе. Чаму яна тады сышла? Збаялася? Аказалася не гатовай да гэткага ўчынку? Можа быць…

Штосьці шорхнула на дварэ, быццам хто шпурнуў у сцяну з расшпару жменю пяску, і працяглы енк рубероўднае абіўкі балкона агаласіў наваколле. Яна паднялася, каб паглядзець, што там, адшмаргнула фіранку.

Вецер на дварэ быў такі моцны, што ажно згіналіся ледзь не напалам пры ходніку кустоўе і маладыя дрэўцы.

“Дажджу толькі не хапала”, — падумала яна і націснула кнопку тэлепульта.

Экран успыхнуў, абрысы пустэльні калыхнуліся на даляглядзе зыбкім мроівам, адцяняючы самотна-ўтрапёную постаць Торы наўзбоч ракі з высокім, метраў у дзесяць абрывам, у колькіх кроках ад якога знайшлі пад дрэвам ратунак ад бязлітаснага сонца аднарогая буйваліха з цялём.

Львіца смачна пазяхнула нібы ў прадчуванні ўдалага палявання, выгнула спіну дугою, пасунулася краем берага да абрыву. Але тут жа знікла з поля зроку, бо на экране з’явілася застаўка, і знаёмы голас вядоўцы па-за кадрам абвясціў канец серыі.

“Мабыць, гэта апошняя”, — падумала яна і незадаволена — вось жа конча ім, гэтым вядоўцам, перапыняць дзею на самым цікавым — выключыла тэлевізар.

Яна прачнулася а шостай. Дакладней, не прачнулася, а прахапілася ад забыцця. Бо праз ноч амаль не заснула, толькі ўжо на самым дасвецці на колькі хвілін змежыла павекі ды акунулася ў кароткую цяжкую дрэму.

На дварэ было светла, але бязлюдна. І зусім, на дзіва, бясхмарна. Гэта дадало ёй гумору. Яна хуценька злезла з канапы, пачала апранацца. Падумала, што няблага было б глытнуць перад адыходам кавы або гарбаты, пасунулася ў кухню. Але запальваць пліту не стала. Наліла ў кубак астылага ўчорашняга кіпеню, густа засаладзіла варэннем. Ужо падняла кубак, каб выпіць, але ўзгадала, што шэсць дзён не прымала, занятая думкамі аб выправе на прыроду, лекаў ад страўніка, зноў паставіла кубак на стол. Вылузнула з пласціны пігулчыну, сунула ў рот, запіла вадою з гарбатніка. І толькі накіравалася ў ванны пакой, каб пачысціць зубы ды навесці збольшага марафет на твары, як азваўся тэлефон.

У слухаўцы не чутно было ні гуку, але яна не сумнявалася: тэлефануе Зелянуха. І, пэўная, што не памыляецца, бадзёрым голасам сказала:

— Выходжу праз пяць хвілін, чакайце мяне на дварэ, Васіль Іванавіч.

На тым канцы лініі, аднак, працягвалі маўчаць, і гэта крыху збіла яе з тропу: а раптам і не Зелянуха тэлефануе, а хто іншы?

Але гэта быў ён, што і пацвердзілася ў наступную хвіліну:

— Не забудзьцеся прыправу для юшкі. І хлеба пабольшай вазьміце. Раптам не захочуць кляваць на чарвяка… Ды і я сам без хлеба — ні кроку, такая звычка.

Яго голас гучаў спакойна, але неяк нязвыкла ціха, гэта яе насцярожыла.

— Вы кепска сябе адчуваеце?

— Не, з чаго вы ўзялі? Проста недаспаў, мабыць…

— Ну, гэта не страшна, галоўнае — каб імпэт да лоўлі быў. Як нага?

— Нішто.

Ён паклаў слухаўку гэтаксама нечакана, як і патэлефанаваў. І зноў яна, як перад пачаткам размовы, адчула сябе так, нібыта яе акунулі з галавою ў бязважкасць.

Што ў яго наўме? Чым скончыцца ўся гэтая яе авантура? Што, калі пойдзе ўсё зусім не так, як яна плануе?

Яна выняла з лядоўні падрыхтаваны звечара правіянт, хуценька склала ўсё ў сумку. Падумала, што нягорш было б прыхапіць і гарэлкі, пасунулася ў пакой да шафачкі. Пстрыкнула па дарозе пультам тэлевізара ў надзеі ўбачыць хоць кавалак чарговае серыі з жыцця львоў, але ёй не пашанцавала. Серыя, відаць, ці то толькі што скончылася, ці яшчэ не пачыналася. Тора з разяўленаю пашчаю схілілася на застаўцы перад магутным, вялізным, як гара, старым львом-адзінотнікам у памкненні абараніць ільвяня ад небяспекі.

Цяпер можна было і вырушаць з кватэры, але яна не спяшалася. Старанна абгледзела сябе з усіх бакоў у люстэрку і тады толькі падалася да дзвярэй.

І ўсё адно штосьці было не так. Але што?

Пагляд яе слізгануў па пакоі, запыніўся на грудцы вопраткі пры рабрыне канапы. Ну, канешне ж, пасведчанне аб рэабілітацыі, як яна магла забыцца?

Яна пераклала пасведчанне з кішэні халата ў кішэньчык кофты, пайшла на пляцоўку.

На дварэ акурат перад яе вокнамі двое мужчын у жэкэгоўскай апратцы торкалі ў ямкі пры ходніку невысокія, сантыметраў пад шэсцьдзесят, саджанцы хваінаў. Следам за імі сунулася кабеціна з вядром і ашчадна, быццам тут наўкола бракавала вады, палівала з конаўкі саджанцы рудаватаю жыжай, і знябожаныя сушшу тонкія іглістыя дубчыкі порстка ўздрыгвалі пад вадзянымі струмянямі.

Яна прайшла паўз тройцу, мінула браму, папраставала да корпуса дома адпачынку.

Зелянухі на дварэ не было. Яна пачакала колькі хвілін, зірнула на ягонае акно, але нічога не ўбачыла, апроч гардзіны, і пайшла ў будынак.

У калідоры на другім паверсе было ціха, толькі з-за Зелянухавых дзвярэй даносіліся гукі радыё.

Яна пераклала сумку з правай рукі ў левую, стукнула костачкамі пальцаў па аўшаку.

— Чакаю вас, Васіль Іванавіч, — сказала і стукнула яшчэ раз — па абіўцы. — Без чвэрці сем, пара адыходзіць. А то гэтак і ўвесь клёў прапусцім.

— Адыходзіць дык адыходзіць, — азваўся ледзь чутна стары і расчыніў дзверы.

Пагляды іх сустрэліся на імгненне, адцягненыя тупатам у сталоўцы, куды толькі-толькі пачала збірацца на змену абслуга, цьмянымі пытальнікамі завіслі ў паўзмроку калідора.

— Што вы так ціха гаворыце, быццам чаго перасцерагаецеся? — спытала яна паўжартам, аддаючы яму сумку з правізіяй.

— А ці мала што, — гэтак жа паўжартам адказаў ён і лёгка перакінуў сумку цераз плячо. — Раптам — скрозь вушы? Ну, Міла Сцяпанаўна, здзіўляеце вы мяне. Не вучылі вас ніколі асцярожнасці, ці што?

## IV

Дарашэнка расчыняе дзверыну, ціха, каб не пабудзіць няўрокам каго з суседзяў, высоўваецца на балкон. Вятрыска вее з-за рога будынка, казытлівым бесянём слізгае па шыі, валасах, улагоднены сонечнымі прамянямі, што ўсё настойлівей прабіваюцца на дол праз рэдкую, амаль празрыстую завесу хмарак, суцішваецца ў прагалку паміж акном і плітою балкона.

На двары свежа, але не холадна і галоўнае — на дождж, які адзіны можа стаць перашкодаю для абяцанага Алушынага прыезду, быццам не паказвае.

Што жонка мае намер наведаць яго ў доме адпачынку, Дарашэнка даведаўся напярэдадні ўвечары з тэлефоннае размовы з ёю. Нэля едзе ў М. па тавар для фірмы, гэта якраз па дарозе, вось Алуша і вырашыла скарыстацца нагодаю пабачыцца з ім. Пабудзе ў доме адпачынку паўдня, а на зваротным шляху Нэля зноў яе забярэ з сабою.

Дзве постаці, адна бездакорна роўная, бы гатычная калона, другая прыкурчаная і пры кульбе, мільгаюць пад брамаю, таропка прастуюць ходнікам у кірунку сцежкі, што вядзе да ракі.

Ён думае, што няблага было б аклікнуць іх, але не паспявае. Хтосьці ляпае дзвярыма, і голас медсястры працінае відочна пасвяжэлае праз расчынены балкон паветра пакоя:

— Ціск будзем сёння мерыць, Аляксандр Зянонавіч? Не?

Ён хоча адмовіцца ад працэдуры, каб хутчэй вярнуцца на балкон ды павіжаваць з вышыні за выпраўшчыкамі, але перадумвае: што з таго віжавання? Похапкам вызваляе з-пад кашулі локаць, абыякава, быццам усё яшчэ знаходзіцца ў думках на доле з Зелянухам і Мілай Сцяпанаўнай, кладзе руку на стол.

Ігруша стэтаскопа віскоча раз-другі нібы ў знак пратэсту, змірыўшыся з моцаю рукі, пакорліва аціхае ў спрактыкаванай далоні медычкі.

— Сто трыццаць на дзевяноста, даражэнькі. Норма.

Медсястра адыходзіць, і ён зноў застаецца адзін. Выходзіць на балкон, зіркае на дол.

Дзве постаці абмінулі ўжо сажалку, мерна зыбаюцца абрысамі на фоне кустоўя.

Санлівасць раптам ахоплівае яго, і ён вяртаецца да ложка. Кладзецца не распранаючыся паверх накрыўкі, змежвае павекі. “Было не адмаўляцца ад мабільніка, а то вось прыедзе Алуша знячэўку, а я — ніякі, быццам усю ноч дзесьці бадзяўся”, — думае і правальваецца ў сон.

Прачынаецца ён ад гуку клаксана. І хоць ні Кірыкавага аўто, што выслізнула, пакуль ён спаў, з-пад брамы пад самае акно, ні пасажыраў у ім ён не бачыць, адразу здагадваецца: Алуша з Нэляю.

Сапраўды, гэта жонка і Нэля. Ён яшчэ не паспявае збольшага апаласнуць пад кранам твар, як жанчыны ўжо ў пакоі. Абедзве выглядаюць здарожанымі, да таго ж Нэля, — рэдкі выпадак — нешта не ў гуморы.

— Штосьці здарылася? — ачомаўшыся ад пачуцця няёмкасці, што вось у гэткім непрэзентабельным выглядзе сустракае гасцей, пытаецца ён.

— Ай, не кажы! — Нэля махае рукой, сядае на зэдаль. — Андрэйка мой… Дурань! Казала ж: не лезь у гэты дурацкі страйкавы камітэт, дык не… Знайшоўся хтосьці, данёс куды след, і вось ужо — маем непрыемнасці. Мала таго, што фінансавую праверку фірмы ўсчалі, дык яшчэ па тэлевізары на ўсю краіну ў пазаўчорашніх навінах зняславілі, ледзь не здраднікамі радзімы аб’явілі. Амаль шэсць дзясяткаў чалавеку, а розуму…

Яна падхопліваецца, нервова ходзіць з кута ў кут.

— Ну, можа, усё яшчэ і абыдзецца, — кажа Алуша. — Не хвалюйся гэтак, машыну ж весці…

— Ага, лёгка сказаць: не хвалюйся! Я б таму даносчыку — не ведаю, што зрабіла б. Далібог, яйцы паадрывала б. Зрабіў паскудства, і хоць бы што яму, як не героем пачуваецца, два вечары запар не сыходзіць з экрана…

— І халера з ім. — Алуша дастае з сумкі пакецікі кавы, адданая схільнасці да слоўнае замежчыны ды поўная жадання хоць крыху развесяліць сяброўку, звяртаецца да мужа: — Саша, як наконт кохі*? Ці тут у вас праблема з варам?

— Можна ў сталоўцы папрасіць, — адказвае ён.

— Ну, піце сабе свой кохі, а я паехала, — маркотна кажа Нэля і ідзе да дзвярэй.

Яна адыходзіць, і Дарашэнка з Алушаю застаюцца ўдваіх. Быццам у чаканні, хто першым загамоніць, моўчкі сядзяць, забыўшыся пра намер папіць кавы, насупраць адно аднаго хвілін пяць, аж пакуль не абзываецца з калідора, абвяшчаючы пра перадабедзенны пасілак, раздатчыца Зінаіда. Тады адначасна падымаюцца з месцаў, радыя неспадзеўнаму ўмяшальніцтву староннягa, падаюцца ў калідор.

“Вось, усяго тыдзень мінуў, як не бачыліся, а нібыта чужыя адно аднаму”, — жахаецца Дарашэнка, сутаргава падшукваючы ў думках тэму для далейшае размовы. Алуша, аднак, апераджае яго.

— У Ігара, ведаеш, нібыта наладжваецца з абаронаю, — кажа і бярэ яго пад руку. — Пры Нэлі не хацела табе казаць, дык цяпер скажу… Чын адзін са службаў,

---

* Японізаваная англійская назва кавы.

з тых, што на размову яго выклікалі летась перад паездкаю на сімпозіум у Швецыю, абяцае паспрыяць. Не за так, канешне, сам разумееш, давядзецца хлопцу адпрацоўваць. Але ж хоць нейкая надзея…

— Адпрацоўваць? — агаломшана перапытвае ён. — Як гэта? Хочаш сказаць — будзе стукачом?

— Ды супакойся, нічога страшнага. Усялякую ж справу па-рознаму можна рабіць…

Ён хоча запярэчыць, але не паспявае. Раздатчыца Зінаіда заўважае яго са сталоўкі праз расчыненыя дзверы, нецярпліва вабіць да сябе. Яна вялікая прыхільніца тэлесерыялаў, а праз чвэрць гадзіны акурат пачынаецца чарговая серыя, і ёй карціць як хутчэй скончыць працу.

— Толькі жанчыне дадзена гэтак адчуваць, толькі жанчыне, — кажа Алуша і са шкадаваннем глядзіць на экран, дзе курчацца ў перадсмяротным любоўным экстазе змарнелыя целы персанажаў яе ўлюбёнага, бачанага-перабачанага “Начнога парцье”. — Каханне, што па-над усім, — хіба мужчына, які б ні быў ён тонкі ды далікатны, такое зразумее? Наогул, мужчына такі фільм наўрад і зрабіў бы. Калі б нават і вельмі захацеў. Малайчына гэтая Кавані*. Праўда, Нэля?

— Ну, вядома, — з выглядам чалавека, які не дасць рады ўцяміць, з чаго гэтульківэмоцый, адказвае Нэля. Яна толькі што ўвалілася ў пакой пасля ўтомнага шляху з М. і зараз прагна прыгублівае раз-пораз з гарлячка бутэлькі прыхопленый ў прыдарожнай забягалаўцы напой. — На тое яны і мужчыны, каб уносіць у жыццё каліва чэрстваці ды грубасці. Хоць, з іншага боку,

* Кавані, Ліліяна — італ. рэжысёр.

вось Макс гэты з фільма, да прыкладу, — хіба не ўзор абыходлівасці ў дачыненні да каханкі?

— Садыст, нягоднік, забойца! — прамаўляе Алуша, і ў голасе яе выразна чуецца захапленне. — Але ж затое які рызыкант!

— І віжам умее даць рады, — вяртаючыся да ранішняй гамонкі пра набалелае, кажа Нэля.

Апроч непярэлівак са страйкавым камітэтам у Кірыкаў яшчэ, аказваецца, непрыемнасці, звязаныя са здачай у арэнду памяшкання нейкай апазіцыйнай грамадскай структуры. Арэнда выгодная што адным, што другім, але хтосьці парупіўся данесці пра яе "куды след", і цяпер тую дамову аб арэндзе, каб не паляцеў у тартарары адладжаны, паспяховы кірыкаўскі бізнес, трэба тэрмінова скасоўваць.

— І здольныя ж людзі на вось такія бессаромныя ўчынкі. Я маю на ўвазе тых, што даносяць. І гэта пасля ўсяго распаведзенага ды напісанага пра тое апошнім часам. Поп Гапон ды Паўлік Марозаў у параўнанні з імі — святыя. І сумленне іх не мучыць, і спяць сабе яны спакойна… Як такое назваць? Поўная дэвальвацыя каштоўнасцей…

— Не дэвальвацыя, а змена парадыгмы, так цяпер гэта мянуецца, — адзываецца Алуша. — Якую можна выкарыстаць дзеля апраўдання якога заўгодна паскудства. А як чаго заўгодна, ды яшчэ без належнага падмурку прынцыповасці ў людскіх галовах, — то, лічы, і любой амаральшчыны. Ты згодны, Саша?

— І галоўнае, — апераджае Дарашэнку Нэля, — куды ні паткніся, каб высветліць, адкуль вушы растуць, — нідзе ніякіх канцоў. І калі яно гэткае скончыцца і ці скончыцца калі ўвогуле? Ну, пастраляць толькі гадаў…

— Во-во, пастраляць! То яй… геніталіі паадрываць, то ўжо во — пастраляць… А яшчэ каталічка, як не сорамна! Не ведаеш хіба: апантаны помстаю дзве магілы капае — таму, каму помсціць, і сабе, — кажа Алуша і дадае праз хвіліну: — Адзіны спадзеў застаецца — на маладых, можа, яны што зменяць… Ды на гэтых яшчэ… нацыяналістаў.

Аднак усцешнасць яе высновы падвяргаецца рэзкаму крытычнаму нападу Нэлі:

— Ат, усе яны адным возам па піва едуць! Ці ты не бачыла ні разу па тэлевізары, з якім понтам маладыя часам сваімі стукацкімі замашкамі выхваляюцца? А нацыяналісты? Мы вось з Прагі з Андрэем ехалі з адным гэткім, усё спевы круціў нейкага Суніцкага*, ці як яго там… Андрэй пра неабходнасць каардынацыі дзеянняў падчас акцый пратэсту завёў гамонку — дзе там, на смех падняў! Вы, кажа, з Прагі, са святога для кожнага свядамага грамадзяніна месца вяртаецеся, а вось адрасы гэтага спевака, што цяпер чуеце і што ў самой Ла Скала спяваў, ці парупіліся наведаць? Не? А пра Ларысу Генюсь што ўведалі? Нічога? То пра якую каардынацыю можа быць размова, калі мы з вамі, манкуртамі-недаверкамі, на розных *плянэтах* жывем? Такая парадыгма атрымліваецца.

— Што дзіўнага, адвеку ў нас так: утраіх сярод трох хвояў заблукаем і не заўважым адзін аднаго… А як што якое, непярэліўкі якія — абставіны ў нас вінаватыя, парадыгма. Зручна: на іншых панаракаў, а сам і чысты нібыта застаўся.

— Мабыць, праўда твая… Вось маёй адной знаёмай мужык, пісьменнік, да прыкладу, таксама пра пара-

---

* Забэйда-Суміцкі, Міхал, бел. спявак.

дыгму любіць паразважаць. Толькі не тэарэтычна, як мы зараз, а з прывязкаю да жыццёвай сітуацыі. Кніжак ягоных людзі не чытаюць, дык вырашыў, ведаеце, па-новаму пісаць. Маўляў, няма чаго боты апісваць, трэба больш прынадныя для чытача сферы асвойваць. І во толькі што, хваліўся, аповед мадэрновы выдаў на-гара — пра эякуляцыю ў гумовік.

— Вар'ят, — рэзюмуе ўчынак героя аповеду Алуша і глядзіць на Дарашэнку. — Саша, што ты маўчыш?

— А што казаць. І так усё зразумела, — прамаўляе ён і паціскае плячыма.

— Усё, час ад'язджаць, а то да ранння не дабярэмся дахаты, — кажа Нэля і дапівае напой.

Жанчыны падымаюцца і, перш чым Дарашэнка паспявае хоць бы дзеля прыліку запярэчыць, ідуць да дзвярэй.

— Ну, не сумуй надта, — Алуша счэквае, пакуль выйдзе з пакоя Нэля, цмокае яго ў шчаку. — Дарэчы, працу маю новую не жадаеш паглядзець? Знарок везла, каб табе паказаць.

Ён ідзе следам за жанчынамі да прыторкнутага скрай пляцоўкі аўто, паслухмяна лезе следам у салон.

— Вось, скончыла ўрэшце распачатае, — кажа Алуша і дастае з-за сядзення батык. — Нічога асаблівага быццам, а сілаў шмат запатрабавала.

— І дзе гэта ты бачыла зялёны мухамор? — ахае Нэля. — Ну, я разумею, гарошына там зялёная, ці травіна якая, ці яшчэ што, а то мухамор… Верх шапачкі зялёны, іспод чырвоны, плямы блакітныя, аж вочы адбірае — ну і грыб! Дзівосы, а не грыб! Сюр-шыза дый годзе! Зусім на цябе не падобна, поўная змена парадыгмы. З чаго б гэта?

— А табе як, Саша? — запальваючы цыгарэту, пытаецца Алуша, і надзея на мужаву ўхвалу гучыць

у яе голасе так непасрэдна і разам з тым так нечакана, што Дарашэнка не адразу дае рады знайсці належныя словы ў адказ.

Ён глядзіць на ўвасоблены ў ядвабе Алушын грыб і ловіць сябе на думцы, што яму хочацца адшчыкнуць ад яго кавалачак. І тае ж хвіліны другі, з адшчыкнутым ужо краем шапачкі, Люсін, паўстае перад ім, і думка, што нішто-нічагуткі на гэтым свеце не знікае бясследна, а значыць, не дарэмна, лагодзіць яго.

*Яшчэ толькі пачатак жніўня, а дажджы ліюць такія, быццам ужо восень. З раніцы сонца выблісне на пару гадзін, наабяцае богведама якога шчадроцця, ды вось зноў аднекуль наплывуць хмары, зацягнуць ад краю да краю неба, і пачынаецца залева. Яна такая густая, што на двор не высунеш носа: імгненна змочыць да ніткі. Ды і з абуткам у хаце напруга. У Сашкі з маці адны боты на дваіх, іх па чарзе яны і абуваюць, выходзячы па патрэбе. След бы купіць яшчэ хаця б адны, але не выпадае: ёсць рэчы ў гаспадарцы пільнейшыя.*

*Маці сядзіць пры акне, лапіць бацькавы нагавіцы, то падчэпіць корт голкаю, быццам выпрабоўвае тканіну на трываласць, то порстка-порстка запрацуе нажніцамі.*

*Тым часам залева пакрысе цішэе, і вось ужо зноў на дварэ светла і сонечна. А гэта значыць, што Сашкава з Люсяю выправа ў грыбы ўсё-такі адбудзецца.*

*Сашка скідвае з ног атопкі, улазіць ступнямі ў падсушаныя з вечара пры шчытку боты. Боты яму велікаватыя, і ён перад тым, як іх абуць, старанна — бацькава навука: як абуешся, так і паходзіш — абгортвае ногі анучамі.*

*— Акуратна там, глядзі, не ўзбіся дзе на патарчаку, — кажа маці і здымае з пальца напарстак. — Падзіравіш апошнія — будзем да зімы басанож хадзіць.*

*— Ужо ж пастараюся не ўзбіцца, — рады перспектыве набадзяцца, урэшце, удосталь па ачмурэлым ад несупынных дажджоў наваколлі, адказвае ён і глядзіць на ганак барака, дзе чакае ўжо ўхутаная ў падкарочаны на трацiну непрамакальны вайсковы Зюзяльcкоў плашч Люся.*

*Акно насупраць з рыпам расчыняецца, і Лёлін (яна тры дні таму прыехала пагасцяваць у Зюзялькоў) тонкі, але гучны, не раўнуючы як у цёткі Карусі, калі тая нервуецца ці злуе, голас урачыста абвяшчае:*

*— Мухаморы — найлепшыя грыбы! Паясі іх — і адразу па полі паляціш. Паляціш, ажно хвоі замільгацяць прад вачыма і неба бялей гурбаў снегу паўночнага здасца.*

*— Што яна трылузіць пра хвоі ды пра снег, гэтая дзеўка? Снег сярод лета, авохці! — кажа маці і паціскае плячыма. — От жа дзіўная. А гамоніць складна — павучыцца ў яе.*

*— Наваражыла Лёлька-варажбітка, — кажа Люся і кладзе мухамор паверх накрыўкі вярэні. Шляпка грыба такая вялікая, што дарэшты хавае пад сабою і накрыўку, і астатнія, ядомыя, грыбы.*

*Яны стаяць на горняй пляцоўцы паўразбуранага млына, перачэкваюць чарговы напад калючых пасаў дажджу. Холадна, і яны (ці, можа, Сашку так здаецца, што яны, а насамрэч — толькі ён?) ціснуцца адно да аднаго ў спадзеве хоць крыху сагрэцца.*

*Яны ціснуцца целам да цела, і кожны іхні дотык адзываецца ў яго ў грудзях дробным, як ціўканне*

*вераб'ят па падстрэшшу, лекаценнем. Ён штосілы мкнецца суняць лекаценне, і Люся быццам адчувае гэта: то пасунецца ўбок, то адступіць паўкроку назад, то наогул павернецца да яго бокам.*

*Гэта першы іх за шэсць год пасля смерці цёткі Любы сумесны пад'ём на пляцоўку і першае Люсіна пераадоленне справакаванае тою даўняю трагедыяй фобіі. Люся панічна баіцца вышыні, але сёння яна сама пажадала падняцца на пляцоўку, і, мабыць, толькі Бог ды анёлы-ахоўнікі ведаюць, што дзеецца зараз у яе галаве.*

*Яна нахіляецца над выступам муру, доўга, быццам жадае як болей увабраць у сябе з убачанага на доле, глядзіць на каменне ўнізе. Глядзіць і бязгучна, бы прамаўляе малітву, варушыць вуснамі. Затым безуважна выпроствае руку да вярэні, адшчыквае малюсенькі, як змясціць на краі пазногця, кавалачак мухамора, падносіць яго да рота. І, перш чым Сашка паспявае спытаць, ці не збіраецца яна яго з'есці, злізвае языком з пальца.*

*Яна глытае, і роспачлівасць ягонага пагляду адбіваецца ў яе прыцемненых няведамым змыслам зрэнках.*

*— Што ты робіш? — крычыць ён і адчувае, як блытаецца ад жаху ў вузкай прасторы між нёбам і зубамі ягоны скалянелы, спалярушаны ўбачаным язык. — Што?*

*— Што з табой? — прамаўляе яна, і голас яе гучыць спакойна і крыху расчаравана. — Гэта ж усяго толькі грыб. Грыб!*

*— Гэта атрута! Ці ты не разумееш? Выплюнь!*

*— Ну, не! — пярэчыць яна і, быццам баючыся, што ён зараз пачне гвалтам змушаць яе да ванітаў, падаецца ад краю ў глыб пляцоўкі. — Нічога не здарыцца, ні-чо-га. Не будзь нервозам!*

*Яна прамаўляе апошняе так рашуча, што яму нічога не застаецца, як змоўкнуць.*

*Яны стаяць спінамі адно да аднаго, і цень непаразумення ўпершыню раздзяляе іх. Упершыню ягоная мяккасць закаханага пятнаццацігадовага падлетка раз біваецца на аскепкі аб яе каменна-спарудлівы спакой.*

*Яны маўчаць, і нясцерпнае жаданне, каб як найхутчэй гэтае дурное маўчанне ўрэшце скончылася, вярэдзіць яго.*

*Ён думае, як зрабіць крок насустрач, і тут адчувае дотык Люсінай далоні да свайго пляча. І хоць дотык такі лёгкі, што ён ледзьве яго адчувае, радасць ягоная — вось і замірэнне! — такая вялікая, што пераважае ўсе сумневы.*

*— Навошта ты гэта зрабіла?*

*— Захацела і зрабіла, — кажа Люся, і ўсведамленне недасяжнасці яе думак-мрояў, хоць яна і не выдае ўжо такой страхавітай, як напачатку, зноў ахоплівае яго.*

*— І хто ж гэта кладзе атрутныя разам з ядомымі, — кажа баба Настазя і асцярожна здымае мухамор з вярэні. — Ды яшчэ такі аграмадны грыб, гэткім паўмястэчка можна атруціць.*

*— Паўмястэчка як паўмястэчка, а сяго-таго не шкодзіла б, — адзываецца Люся, і твар яе зноў, як паўгадзіны таму на млыне, робіцца ўтрапёна-зласлівым.*

*Яна падыходзіць да акна, за якім зноў дождж сячэ па лістоце кустоўя, што ўжо нават і не ўздрыгвае ў марным памкненні працівіцца стыхіі, глядзіць на зацягнуты плеўкаю шэрані — неўзабаве ноч — хвойнік удалечыні.*

*Яна ўзіраецца ў дрэвы, што то цьмянеюць, то, наадварот, святлеюць на тле небасхілу, і здаецца,*

*што нічога болей важнага за тыя хваіны на памежжы святла і ценяў зараз для яе не існуе.*

*Яна свідруе вачыма знябожаныя непагаддзю дрэвы, і адстаронена-няўлоўная таемнасць яе пагляду і намёку на жаданне шчырасці з кім бы то ні было не дакляруе.*

Машына меддапамогі падрульвае да будынка, прыпыняецца побач з уваходам у корпус. Другая, міліцэйская, абганяе яе, утыкаецца перадам у сходы ганка. Двое мужчын у цывільным вылазяць з салона, дружна, бы па камандзе, запальваюць па цыгарэціне.

Зелянуха мкнецца вылезці з аўто следам за імі, але яму падаюць знак, каб заставаўся на месцы, і ён пакорліва ўцягвае зноў у салон разам з кульбаю высунутую напалову вонкі нагу.

Маладзейшы з мужчын кідае ў сметніцу ледзь раскураную цыгарэту, ідзе ў корпус. Другі, старэйшы, што вельмі з твару ды паставы кагосьці Дарашэнку нагадвае, застаецца пры аўто.

Дарашэнка стаіць на балконе наўзбоч ганка, і ўсё, што дзеецца ля аўто і “хуткай”, яму добра бачна. Ён сіліцца ўгледзець у салоне паставу Мілы Сцяпанаўны, але зрабіць гэта цераз танаванае шкло немажліва, і яму нічога іншага не застаецца, як чакаць.

Але і чакаць доўга не выпадае, бо маладзейшы з хаўруснікаў заўважае яго са сходаў паміж паверхамі, адчыняе фортку, гучна, быццам баіцца, што на доле яго не пачуюць, кажа старэйшаму:

— Тут на балконе чалавек, таварыш Бібік, можа, з ім паразмаўляць? Можа, ён што бачыў…

Старэйшы ўздымае галаў, глядзіць у задуменні хвіліну-другую на Дарашэнку.

— З балкона? Адсюль да ракі вярсты тры, калі не болей, — адказвае сіплаватым голасам і адмоўна круціць галавой. — Ды і не стаяў жа ён там, на балконе, цэлы дзень. Ну, ты даеш, аднак, Галыга!

Галыга падымаецца ў калідор, ідзе да пакоя абслугі і праз колькі хвілін зноў збягае на дол — з халатам Мілы Сцяпанаўны ў руцэ. Мужчыны па чарзе абмацваюць халат, нічога не знайшоўшы, кідаюць яго ў салон.

Зелянуха зноў падае голас, штосьці кажа ім, высоўвае з салона кульбу.

— Не-не, — спыняе яго Бібік і, счакаўшы хвіліну, пакуль стары ўцягне кульбу назад, зачыняе дзверку аўто, загадвае кіроўцу "хуткай" ад'язджаць.

"Хуткая" скранаецца з месца, паварочваецца бокам да будынка, і Дарашэнка выразна бачыць праз шыбіну на лежаку накрытае прасцінаю цела. Мяркуючы па абутку, што вытыркаецца з-пад рога прасціны, — цела жаночае. Але разглядзець яго не атрымліваецца, бо аўто дазнаўцаў ужо мчыць наперад, засланяе сабою і шыбіну, і руку ці то медыка, ці то санітара ў белым, што таропка нагінаецца над целам, каб прыкрыць ногі прасцінаю.

— А я дык і не сумнявалася, што гэтак скончыцца, — кажа раздатчыца Зінаіда і падцінае танюткія, быццам усохлыя з-за недахопу плоці, што ўся пайшла на фармаванне іншых частак яе неабдымнага цела, вусны. — З такога сяброўства калі што добрае атрымлівалася? У вочы — сю-сю, у вачах жа — спрэс нянавісць, што ў яе, што ў яго… Вось ён яе, гэты старэча, і ўходаў. Вось паглядзіце: ён забойца, шалава буду, калі не пацвердзіцца маё прыпушчанне.

Зінаіда заўсёды ўсё ведае, таму і на гэты раз ёй даюць веры без залішніх ваганняў. Балазе, і навіну пра

смерць прыбіральшчыцы яна даведалася першая. І цяпер ахвотна дзеліцца ёю з кожным, хто таго ні пажадае. Хоць ужо, папраўдзе, нікога, хто б быў не ў курсе справы, у корпусе, відаць, няма.

— У пастарунак ні за што, так сабе не пацягнуць, — рэзюмуе наастатак раздатчыца, і гэта — апошняя кропля, пасля якой ні ў каго нават каліва сумневу наконт Зелянухавай вінаватасці ў смерці Мілы Сцяпанаўны не застаецца. Тым больш што ўжо гадзіны тры мінула, як аўто дазнаўцаў і “хуткая” ад’ехалі ад будынка, а яго ўсё няма і няма. Значыць, штосьці такое ёсць: хто б гэтак доўга трымаў у пастарунку невінаватага, тым больш старога ды ў дадатак не надта здаровага чалавека?

“Штосьці ёсць”, — думае Дарашэнка і брыдзе калідорам да свайго пакоя. Думае, што нядрэнна было б як след адаспацца, але класціся яму зусім не хочацца, і ён выходзіць на балкон. І адразу натыкаецца паглядам на кропку святла ўдалечыні.

Кропка няўхільна большае, і вось тое самае аўто, у якім Галыга з Бібікам павезлі надвячоркам Зелянуху, спыняецца ля ганка.

Стары вылазіць з легкавіка, памалу ступае па жвіры да ўвахода ў корпус.

— Дойдзеце самі, ці памагчы, дзядуля? — пытаецца праз прыспушчанае шкло кіроўца.

Зелянуха грэбліва — адчапіся, маўляў, што за глупствы — адмахваецца ад запытанта кульбаю.

— Ну, глядзіце самі, мне што. Мне загадалі зрабіць чын чынам — я і раблю. Каб потым не наракалі ды не скардзіліся…

Аўто з’язджае з двара, і стары доўга-доўга глядзіць яму наўздагон. Глядзіць так утрапёна, так пільна і ра-

зам з тым так насцярожана, быццам баіцца, што яно, крый бог, вернецца. І толькі калі дарэшты чэзне сярод зарасніку кропка святла, ажывае, плюе сабе пад ногі, з выглядам паляўнічага, якому нясветна пашэнціла падчас ловаў, сунецца да дзвярэй.

— І ахвота ж людзям мерзнуць на балконе, — кажа, і ягоны хрыплівы голас з'едлівым тэнарком працінае паветра. Працінае так неспадзеўна, што Дарашэнка нават не паспявае даўмецца, да каго той тэнарок скіраваны. А калі ўрэшце дапетрвае, што менавіта да яго, адказваць ужо няма каму.

Палова дванаццатай, а сонца яшчэ ні на хвіліну як след не вызірнула з-за хмараў. І неба, што сям-там свіціцца кволаю празрыстаю сінечаю на тле іх шматкоў, нагадвае сурвэтку з плямамі ежы па абедзе. Быццам нехта там, угары, сядзіць з мяшалкаю і наўмысна, каб дадаць маркоты ўсяму, што месціцца на доле, збівае іх у бязладны, неахайны гурт. Але і дажджу, праўда, няма. Ды гэта ці не горш, бо толькі дадае наваколлю вусцішу і няпэўнасці.

Дарашэнка сядзіць у альтанцы наўзбоч увахода ў корпус, згадвае ўчорашні візіт Алушы і яе расповед пра Ігаравы справы. Ды нядоўга, бо іншамарка, вельмі падобная да той, што ўчора павезла Зелянуху ў пастарунак, уязджае ў двор, павольна паўзе да пляцоўкі пры канцы алеі, абуджае іншую згадку.

Гэты Бібік — ці не сваяк ён дазнаўцу, што калісь вёў у мястэчку справу Люсінай маці? Так яны падобныя адзін да аднаго, што, калі б побач паставіць, далібог, не даў бы рады адрозніць… Сын і бацька, можа, ці нават унук з дзедам? А можа, так сабе аднафамілец, ці мала здараецца гэткіх супадзенняў?

Дзверы ляпаюць, на двор выходзіць Зелянуха ў суправаджэнні Зінаіды, шкандыбае да іншамаркі.

Мужчына год пяцідзесяці ў плямістай камізэльцы вылазіць з аўто насустрач старому, моўчкі вітаецца, штосьці кажа.

Зелянуха колькі хвілін стаіць побач з аўто, затым спахопліваецца, паважна, бы леў падчас прагулянкі пасля ўежнага абеду — паўрасчынены рот з шыхтам бліскучых устаўных зубоў, грыва выцвілага, але ўсё яшчэ даволі густога валосся над ілбом, — вяртаецца разам з прыбіральшчыцай да корпуса.

Зінаіда бярэ старога пад руку, стульвае сэрцам ледзь заўважныя сярод шчочна-сківічных наростаў тлушчу вусны:

— Ад’язджаеце ўсё-такі, Васіль Іванавіч… І правільна, пасля такога — што тут вам заставацца? Вось як яно бывае, хто б мог падумаць…

— Ай, не кажыце, — прамаўляе ахвотна, быццам толькі і чакаў, што яго зачэпяць, Зелянуха. — Гэта ж уявіце сабе: ледзь-ледзь датыкнуўся да яе пляча, каб загаварыць, а яна, дурніца, — скок ні з таго ні з сяго з абрыву на каменне. Быццам чакала таго майго дотыку. Ведаў бы, што гэткая неўрастэнічка, нізавошта б не пайшоў з ёю на той бераг. Яна рынецца галавою на дол, а ты адказвай… Нішто сабе! А яшчэ ж знойдуцца такія, што і забойства прыпішуць… Вось і навука будзе старому дурню, як асцярожна трэба паводзіць сябе з людзьмі… Што ж, век жыві, казаў той, — век вучыся.

Яго зрэнкі на міг затрымліваюцца на Дарашэнкавым твары, заміраюць быццам у здранцвенні і тут жа падаюць долу.

— Памагчы з рэчамі, тата, ці без мяне дасце рады? — пытаецца кіроўца.

— Колькі там тых рэчаў, — адказвае за старога Зінаіда і лагодна ўсміхаецца. — Галоўнае, не забыцца што з майткоў ды скласці ўсё як след, каб надта не пакамечылася… Дарога ж няблізкая.

— Ну, глядзіце самі, як лепей. А то магу пасобіць, няцяжка…

Стары і прыбіральшчыца знікаюць у будынку.

Дарашэнка яшчэ колькі хвілін застаецца ў альтанцы, пацепваючыся — на дварэ халаднавата, пранізліва-куслівы вецер так і гуляе па плячах — ідзе следам за імі. Падымаецца ў пакой, уключае тэлевізар. Але ледзь паспявае зірнуць на экран, як з двара зноў даносяцца галасы Зелянухі і прыбіральшчыцы.

Ён падыходзіць да акна, ды запозна. Аўто ўжо праязджае пад брамаю, і рука прыбіральшчыцы са сціснутаю між пальцаў шакаладкаю — няйначай, плата за турботы падчас збораў — весела махае яму наўздагон.

Дарашэнка колькі хвілін узіраецца ў аўто, затым вяртаецца да тэлевізара, у тупым здранцвенні ўтаропліваецца вачыма ў экран, дзе львіца Тора мчыць па пустэльні з намерам упаляваць імпалу. І хоць адлегласць паміж драпежніцай і ахвяраю то меншае, то, наадварот, павялічваецца, здаецца, зыход гонкі сумненняў не выклікае.

І ўсё ж у апошні момант імпале ўдаецца-такі ў нейкім неверагодным скачку пазбегнуць кіпцюроў праследніцы, і яна, збіўшы львіцу з панталыку собскімі спрытам ды адвагаю, знікае ў прырэчным зарасніку.

Тора са шкадаваннем глядзіць колькі хвілін услед уцякачцы, з выглядам істоты, за якою заўжды будзе галоўнае слова, брыдзе ў логава.

Гэта апошняе, што Дарашэнка бачыць. Дрэма, цяжкая, як хмары за акном, авалодвае ім, і ён паступова правальваецца ў сон.

Адна з думак, што мільгае ў ягонай галаве ў гэты кароткі паміж яваю і забыццём момант, — пра тое, што дарэмна ён усё-такі не паразмаўляў з Мілаю Сцяпанаўнай. Ды пра тое, як чамусьці яму карцела, калі стаяў апошні раз на балконе, скочыць на дол і датыкнуцца да Зелянухі — лёгка-лёгенька, як калісь павуцініна да шчакі ў кароткую пару бабінага лета на вузкім лапіку пожні пры альтанцы насупраць кватэры дзядзькі Зюзялька і цёткі Карусі.

І калі Зінаіда ўваходзіць у ягоны пакой быццам каб штосьці запытацца, а насамрэч болей з ахвоты пагаманіць пра страхавітае здарэнне з Мілай Сцяпанаўнай, ён ужо так моцна спіць, што жанчыне нічога не застаецца, як расчаравана ўздыхнуць ды пакінуць яго ў спакоі.

Цягнік спыняецца, і Дарашэнка паспешліва — стаянка ўсяго пяць хвілін, а пасажыраў даволі шмат — улазіць у гарачы, напалены сонцам за дзень тамбур, ідзе калідорам да вызначанага праваднiцай купэ.

У абвешаным гронкамі штучных кветак калідоры яшчэ гарачэй, як у тамбуры, і думка, што то будзе за ноч у гэткай задусе, дарэшты псуе ягоны і без таго маркотны настрой.

Рашэнне з’ехаць з дому адпачынку дачасна, не дабыўшы тэрміну пуцёўкі, выспела ў яго неўпрыцям, само сабою. Яно, мабыць, і някепска, што выспела, бо неўзабаве мінае год кантракту на працу ў тэхнікуме, і трэба афармляць усе паперы нанова, то няхай будзе на тыя турботы дзён з запасам. Апроч таго, і сумнеў наконт сынавай дысертацыі, абарона якой прызначана на наступны аўторак, не дадае ахвоты адпачываць.

У купэ цемнавата і амаль пуста, толькі з лежака насупраць ягонага месца звісае на дол жаночая рука з бранзалетам на запясці.

Жанчына ўздымае галаў, і гучны, з адмысловаю інтанацыяй выкліку голас дзеўкі з прычоскаю ні то Б’ёрк, ні то маладой Пугачовай, той самай, што ехала тры тыдні таму ў сталіцу да каханка-суценёра, напаўняе купэ:

— Вы, дзядзька? Ну ж сустрэча! Хваліцеся, як адпачылі?

— Дзякуй, добра. А вы як? Вяртаецеся дахаты? Надакучыла ў вялікім горадзе?

— Якое там! — Дзяўчына падхопліваецца з лежака, сядзіць колькі хвілін моўчкі нібы ў здранцвенні, затым зноў пачынае гаварыць. — Пакуль я ў бацькоў гасцявала, Артурчык, гад балотны, з сяброўкай маёй, Анжэлкай, скруціўся. То не заставацца ж мне трэцяй! Але і выдала абаім на развітанне, доўга будуць памятаць. Будуць памятаць, паскуднікі, не хутка забудуцца!

— А самі што будзеце рабіць?

— А што мне, прыткнуся дзе-небудзь. У камерцыі, да прыкладу, можна… Вунь сястра мая з мужыком каторы год курэй возяць з Расіі на продаж — прыбытковая справа. У Турцыі, кажуць, таксама няблага на зборы ўраджаю можна зарабіць. Пару месяцаў напрыканцы лета парабіў і адпачывай сабе рэшту года. Або ў Маскву падацца, там ёсць дзе разгарнуцца. А не выгарыць нідзе — дома справу адкрыю, ахвотных зарабіць дзяўчат вунь колькі наўкола, толькі прапануй. Досвед маю, што ды як, дам рады. Паглядзім… А на іх і на б.....і іхні бізнес заяўлю куды след, хай пацягаюць разумнікаў…

Яна гаворыць хутка, і выраз яе твару штохвіліны робіцца ўсё больш помслівым, і ўрэшце ён, спопелены злосцю, ператвараецца ў непрыгожую, пачварную маску.

Дарашэнка куляецца ніцма на ляжак, стараючыся не слухаць, што гаворыць дзеўка, бо гаварыць яна, ад-

чувае, можа доўга, адварочваецца тварам да сцяны. На дзіва, і яна адразу ж змаўкае.

Колькі хвілін мінае ў цішыні, затым цішыню нечакана пранізвае слабы ўсхліп. Ён такі па-дзіцячы жаласны і так няўмольна набірае з кожнаю хвіляю моцы, што Дарашэнку робіцца не па сабе. Ён мяркуе, што б сказаць дзяўчыне такое, каб супакоіць яе, але не знаходзіць слоў. Глыбей унурваецца шчакою ў падушку, намагаецца ўспомніць, як зваць (вось жа казала колісь Люся, а ён забыўся) Зелянухавага сына.

Думка пра тое, якая гэта нялёгкая справа — здзяйсняць учынкі ў адпаведнасці з узростам, яшчэ хвіліну трымае яго ў палоне, павольна чэзне ў нетрах растузаных падзеямі тыдня глуздоў.

# РАЗ — ШКІЛЕТ,
# І ДВА — ШКІЛЕТ

*Аповесць*

## I

Што лецішча можа быць так сабе, Тадэвуш Піліпавіч зразумеў яшчэ падчас тэлефонных перамоваў з гаспадыняю дома. Пусціць у жытло кватаранта за мізэрныя грошы, амаль, лічы, задарма, — такое дабрачынства ў часы, калі кожны штомоцы грабе пад сябе, хіба што ў сне або ў казцы ці ў мыльным серыяле сустрэнеш. Ды і самі перамовы прайшлі неяк надта ж ужо паспешліва. Быццам толькі і мела кабеціна наўме як хутчэй каго-небудзь гэтым нехлямяжым будынкам за трыццаць вёрстаў ад горада ашчасліўіць. А калі яшчэ і ключы ад дома не асабіста, а праз нейкага ці то сваяка, ці то нават суседа Тадэвушу Піліпавічу перадала, дык і зусім ніякіх сумневаў наконт узроўню тутэйшых дачных выгодаў у яго не засталося.

Але што ажно так будзе ўсё на гэтым вузкім падворку на ўскрайку аточанага хвоямі пасёлка занядбана,

ён, канешне ж, не чакаў. Мала таго, што куты дома засмечаныя, дык яшчэ ж і наўкола яго рознага друзу — ногі зломіш. Кроку не ступіць без таго, каб не ўзбіцца на стыканую ржавымі цвікамі бэльку ці не спатыкнуцца аб зарослую быльнягом купку жвіру або патрушчанай цэглы.

Будынак пасля рамонту, а выглядае так, быццам і рук ні да чаго рамонтнікі пры ім не прыкладалі. Адзінае, што пра той расхвалены гаспадыняю рамонт нагадвае, — комін. Абгорнуты бляхаю цагляны чатырохкутнік з вычварнымі антэнападобнымі вусікамі-драцінкамі па-над краямі. Надарэчны, як занадта мудрагелістая прычоска на галаве абы-як апранутай маладзіцы. Сам па сабе вока быццам здалёку і лашчыць. А зірнеш уважліва зблізку — і куды яно, тое ўсцешліва-прывабнае, увобміг знікае.

Словам, такое бязладдзе ў сярэдзіне і абапал дома, што лепш было б, можа, яго наогул не бачыць.

Хаця, што праўда, і выгода (і немалая, між іншым) таксама маецца — месцазнаходжанне лецішча. Акурат жа тое, што Тадэвуш Піліпавіч ад самага пачатку з увагі на акалічнасці справы, дзеля якой бавіць тут час у самоце вось ужо чацвёртыя суткі, і падшукваў.

Канешне, нядобра, што давялося дзеля гэтага пакінуць без нагляду кватэру сына Генадзя, у якой узахвоціўся пабыць за вартаўніка, пакуль той адпачывае з жонкаю і сынамі ў Балгарыі. Але ж усюды не паспееш, чымсьці трэба часам і ахвяраваць. Тым больш што тэрмін Генадзевага адпачынку неўзабаве заканчваецца і не сёння дык заўтра вернуцца сын з нявесткаю і двое іх гарэзлівых хлопцаў-мацачкоў дахаты.

Вось-вось, яны вернуцца, а ты і цягніся тады, бацечка Тадзюня, зноў у сваю “хрушчоўку”, ды ўздрыг-

вай там штохвіліны ад грукату суседчыных абцасаў над галавою, ды, заходзячыся злосцю на той несупынны грукат, бегай па кватэры ў марным пошуку ратунку ад яго.

Ды калі ўжо на тое пайшло, нахабства вось гэтага гундосага чмяля, што ўляцеў учора ўвечары ў пакой і даймаў амаль палову ночы сваім зумканнем, а цяпер ціхамірна падрэмвае, рахманы з рахманых, на фіранцы, у параўнанні з тым шалёным грукатам — нявінная забава прыроды, на якую і зважаць не варта. І не дарažы тут, пры такім раскладзе, лішняю хвілінаю спакою, і не радуйся, што можаш, хай сабе і без асаблівага шыку, а ўсё ж адпачыць ад да сябе падобных ды справакаванае іх паводзінамі собскае непрыязнасці да ўсяго роду людскога.

Шоргат колаў аўто даносіцца да вушэй Тадэвуша Піліпавіча і тут жа сціхае, праглынуты нечаканым парывам ветру з расчыненага акна. Чмель на фіранцы варушыць крыламі, узлятае, пачынае бязладна мітусіцца ў цесным прагалку паміж сцяной і канапаю.

“Дзякуй богу, хоць мух ды камар’я пакуль што няма”, — думае Тадэвуш Піліпавіч і цягнецца даланёю да фіранкі, каб перагарадзіць чмялю шлях да адступлення. Той жвава, як для жамярыны гэткага камлюкаватага, груваскага целаскладу, шмыгае пад столь, незадаволена гудзе. Затым, не маючы, мусіць, ахвоты трапляць у зладаваную Тадэвушам пастку, рэзка пікіруе на дол і тут жа куляю вылятае ў акно.

Час падымацца, але якраз падымацца Тадэвушу Піліпавічу зусім і не хочацца. Цяжкая, гнятлівая апатыя скоўвае ягонае прыкметна раздабрэлае апошнім часам (ах, гэты пракляты недахоп руху!) цела, зноў прыгінае да канапы.

Быццам адчуваючы нежаданне чалавека што-кольвечы рабіць ды хочучы пацвеліцца з ягонае лянівае

